—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
10
СТУДЗЕНЯ
1992 г.
№ 2 (3620)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)





Студзеньскі снег. Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

# КРУМКАЧ КОЛЕРУ ХАКІ

**Гэтая сустрэча не магла не адбыцца. Падзеі апошніх тыдняў — утварэнне СНД, знікненне СССР і яго інстытутаў, рашэнне аб утварэнні беларускага войска—унеслі пэўны вэрхал у свядомасць вайскоўцаў, што воляй лёсу трапілі на Беларусь. Як быць з прысягай? Каму падпарадкоўвацца сёння? Хто будзе ўтрымліваць агромністую мілітарыстычную махіну? Што будзе далей?**

**Пытанні, пагадзіцеся, не такія і простыя, калі ўлічыць пэўную закасцянеласць грамадскай свядомасці наогул і свядомасці людзей у пагонах у прыватнасці. Яны, прывыкшыя падпарадкоўвацца загадам, аказаліся ці не сам-насам з рэальнасцю, з перспектывамі, са сваімі думкамі.**

**У той жа час і кіраўніцтву рэспублікі ў гэткай жа ступені трэба было ведаць настрой афіцэрскага саставу, растлумачыць яму сваю пазіцыю, канцэпцыю далейшага ваеннага будаўніцтва.**

**Менавіта таму на сустрэчу са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам прыйшло столькі многа афіцэраў — зала штаба ЧБВА не магла змясціць усіх жадаючых.**

Адчувалася, што кіраўніцтва акругі рыхтавалася да сустрэчы — генерал - палкоўнік Кастэнка ці не выклікаў афіцэраў да мікрафонаў. Як на падбор, пытанні Станіславу Станіслававічу задавалі прадстаўнікі ўсіх службаў штаба акругі і, як гэта прынята ў нас, «таварышы з месцаў». Яшчэ да пачатку сустрэчы, у чаканні кіраўніка дзяржавы, невядомы нам генерал-лейтэнант настойліва прасіў выступаючых не вылазіць на трыбуну — гаварыце, маўляў, з залы, мы для вас аж два мікрафоны падрыхтавалі. Тым не менш, запланаваны характар сустрэчы быў парушаны на першай жа мінуце. Пасля заклiку *спадара* Кастэнкі задаваць С. Шушкевічу пытанні першым да мікрафона рвануўся дзяцюк у пагонах маёра. Выбачайце, калі ласка, за асацыяцыю, але менавіта пра такіх у войску кажуць: «Чем больше в армии дубов, тем крепче наша оборона». Маёр Галаўня, як ён адрэкамендаваўся, металічным пракурорскім голасам сурова запытаў, хто ж гэта асабіста Станіславу Шушкевічу дазволіў адабраць у мільёнаў людзей такое ўлюбёнае грамадзянства СССР? *Як ён асмеліўся, праігнараваўшы* рэферэндум, знюхаўшыся са здраднікамі накшталт Краўчука і Ельцына, згвалціць самае святое — Радзіму-маці? Што скажа, калі **мы** (крумкачы, «нашы», «гэкачэпісты», нескароныя — пазнаму называюць **гэтых**) выступім на абарону СССР і скароцім тых, хто здрадзіў? І ці ведае Станіслаў Станіслававіч, што чакала ва ўсе часы здраднікаў на Русі?

Самым сумным у наступную хвіліну стала тое, што ці не чвэрць залы пачала пляскаць у ладкі, выказваючы сваё захапленне такой «смеласцю» т. Галаўні. Цяжка перадаць тое адчуванне абразы, гідлівасці, а ўрэшце і жалю, якое ахапіла нас, прадстаўнікоў прэсы незалежнай Беларусі, і цяжка ўявіць сабе, як толькі стрымаўся Станіслаў Шушкевіч.

Але ён стрымаўся. Ён спакойна даслухаў пытанні іншых выступаючых, запісаў іх прапановы, узважыў пазіцыі і ацэнкі. *А потым ці не дзве гадзіны трымаў слова*, выкладаючы сваю пазіцыю, пазіцыю суверэннай беларускай дзяржавы.

*Яшчэ вельмі нядаўна Шушкевіча можна* было абвінаваціць у ваганнях, у хістаннях і нерашучасці. Апошнім часам ён дзейнічае інакш. У той *дзень* было сапраўды прыемна глядзець, як кіраўнік дзяржавы спакойна і доказна, з пачуццём гонару за сваю краіну расставіў усе кропкі над «і».

І перш за ўсё ён звярнуўся да Галаўні. Нагадаў гэтаму вернаму нашчадку алкснісавых поглядаў, што знаходзіцца той на Беларусі, а не на Русі. І пытанне трэба ставіць аб здрадніцтве гэтай зямлі. Самае страшнае, сказаў С. Шушкевіч, — даць зброю ў рукі несвядомых людзей, у ненадзейныя рукі. Выступленне маёра было расцэнена як звычайнае салдафонства, няздольнасць да элементарнага аналізу падзей і палітычных умоў. А правы на прыняцце рашэння даў свайму кіраўніку Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь — законна абраны орган народаўладдзя, калі гэтага нехта не ведае.

А далей Станіслаў Шушкевіч адзначыў адну характэрную дэталь — многія з прамоўцаў проста заблыталіся: дзяржава існуе для арміі ці армія — для дзяржавы. Кажуць, што трэба зберагчы армію. А для чаго? Каму яна, такая вялізная, патрэбна? Больш таго, захаваць армію ў *сённяшнім выглядзе ўжо і немагчыма*, і гэта трэба разумець.

Вярхоўны Савет рэспублікі вызначыўся — Беларусі быць бяз'ядзернай і нейтральнай краінай. Гэта азначае немагчымасць уступлення ў любыя ваенна - палітычныя блокі. Пытанне аб сумесным войску СНД адпадае само сабой. Рэспубліка будзе мець сваю армію. Крок гэты правільны, але здзяйсненне яго патрабуе шмат часу.

Мы сёння ўжо можам зняць устаноўкі *СС-25* з баявога дзяжурства, але перш-наперш падумаем, чым зоймуцца тыя, хто сядзеў за пультамі ракет, дзе будуць працаваць іх жонкі, вучыцца іх дзеці.

Вайскоўцы скардзяцца, што няма кватэр. Але ці сённяшнія ўлады Беларусі ў тым вінаватыя?

Вайскоўцаў вінаваціць у тым, што армія стала для іх «кармушкай». С. Шушкевіч катэгарычна не згодны з такой фармулёўкай. Але гэтак жа катэгарычна ён даў зразумець, што армія жыве так, як жыве *народ*. Цывільныя людзі жывуць не лепш за вайскоўцаў. У іх гэтак жа не хапае кватэр, гэткія ж праблемы з харчаваннем і набыццём прамысловых тавараў. Армія дзеліць цяжкасці са сваім народам. Ці ж гэта не справядліва?

У той жа час кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ён выдатна разумее спецыфіку вайсковай службы і лічыць, што толькі дзеці маюць нейкія прывілеі перад вайскоўцамі. Іншых ільготных катэгорый *проста няма.*

Трэба паставіць на ногі эканоміку. Толькі тады мы зможам канчаткова зняць усе пытанні.

У выступленнях гучалі лічбы: 84 тысячы вайскоўцаў-пенсіянераў пражывае на тэрыторыі Беларусі. Толькі на пенсійнае забеспячэнне ім патрэбна больш за мільярд рублёў штогод. С. Шушкевіч падкрэсліў, што няма на Беларусі чужых пенсіянераў, не будзе ніводнага акта супраць гэтых людзей, не будзе аніякай *дыскрымінацыі.* Людзі не павінны быць нічыімі.

Так, скарачэнне выклікае масавае перасяленне людзей у іншыя краіны і, наадварот, да нас. Трэба прыняць прэвентыўныя меры, каб да мінімуму звесці гэтыя пераезды. Але Беларусь з вялікай павагай адносіцца да нацыянальнай свядомасці кожнага афіцэра, і зробіць усё магчымае, каб той жа маёр Галаўня, калі ён жадае служыць Расіі, меў для гэтага ўсе магчымасці.

Так, мы супраць размяшчэння *на нашай* тэрыторыі войскаў з Заходняй Еўропы. І не толькі таму, што Беларусь і без таго звышмілітарызавана. Вы, афіцэры, ужо самі адчуваеце ўзрастаючую напружанасць у сваіх гарадках. Самі гаворыце, што па 20 гадоў жывяце без кватэры. А тут на «Опелі» ці «Фольксвагене» з Германіі прыязджае ваш жа калега, прывозіць тое-сёе з маёмасці і ўсяляецца ў камфартабельную кватэрку, збудаваную немцамі спецыяльна для яго. Няўжо гэта не вывыклікае той самай напружанасці?

У самым хуткім часе Вярхоўны Савет павінен прыняць тэкст прысягі для тых, хто будзе служыць на Беларусі. Прапанову Я. Шапашнікава — прысягаць Расіі — мы лічым абсалютна не падыходзячай для нас.

Наконт грошай і г. д. Так, Барыс Мікалаевіч абяцае вам плаціць. Добра плаціць, маючы друкарскі станок па выпуску грошай. А забяспечыць іх таварамі давядзецца нам. Мы гэта выдатна разумеем. Як выдатна разумеем і тое, што войска Беларусі будзе ствараць выдатнае прыкрыццё заходнім межам Расіі. Таму лічым, што забеспячэнне арміі павінна адбывацца на аснове пагадненняў з Расіяй: сацыяльныя пытанні вырашае Беларусь, . пытанні матэрыяльна - тэхнічнага забеспячэння — па дагаворанасці. Трэба шукаць парытэтныя асновы дагавору з Расіяй.

С. Шушкевіч даверальна, як да сваіх аднадумцаў, звярнуўся да афіцэрскага корпуса ЧБВА быць пільнымі, захоўваць маёмасць і ўзбраенне на тэрыторыі рэспублікі. Літаральна днямі, напрыклад, на самым высокім узроўні давялося *спыняць мерапрыемства*, у выніку якога з Беларусі павінна было знікнуць сем найноўшых ваенна - транспартных самалётаў. І гэта далёка не адзіны факт.

На заканчэнне Станіслаў Станіслававіч адказаў на многія іншыя пытанні прысутных.

**...Сустрэча скончылася. Людзі ў форме разыходзіліся з залы. Гледзячы ім у спіны, падумалася: вось ідуць будучыя афіцэры Беларускага Войска, сённяшнія афіцэры, падпарадкаваныя Беларусі. А потым успомніў Галаўню і кампанію, гэтых крумкачоў колеру хакі — і стала сумна, трывожна. Супакойвала тое, што большасць афіцэраў усё ж шчыра і добразычліва паставілася да выступлення нашага Старшыні. ЧБВА, здаецца, паверыла Беларусі...**

**НАШ КАР.**

**ПАМЯРКУЕМ**

# КЛОПАТ ЦІ ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ?

Мушу зноў вярнуцца да тэмы, якую новай у нас ніяк не назавеш, — да тэмы нацыянальнага будаўніцтва. Зразумелая справа: пра здаровы зуб чалавек не думае, а здаровага сэрца зусім не заўважае. На жаль, не той выпадак...

А штуршком стала публікацыя ў адным з нумароў штотыднёвіка. У ёй паважаны чалавек, вядомы нацыянальны дзеяч накіроўвае свой сарказм супраць рускамоўнай рэкламы на рэспубліканскім радыё. Для пераканаўчасці спасылаецца на... Францыю. (Чаму не на Чад?) Маўляў, там бы не дапусцілі англамоўнай агрэсіі. З пункту гледжання марсіяніна — параўнанне цалкам правамоцнае. *Але як быць з рэальным станам рэчаў?* Аўтар мне нагадвае доктара, які, не вылечыўшы запалення, збіраецца выдаліць пацыенту прышчык з носа. Каб нябожчык добра выглядаў.

Г. Памеранц у «ЛГ» (за 18.12.1991 г.) разважае пра натуральныя нацыянальныя пачуцці і пра нацыянальную заклапочанасць. Апошняя развіваецца якраз ад немагчымасці жыць вольна і нязмушана ў нацыянальным свеце, ад пакутлівага, драматычнага змізарнення, *сціскання цэлага бацiйнага* вострава ў агромністым акіяне «саўковага» касмапалітызму. Аднак разуменне **прычыны** не вызваляе нас ад крытычнага стаўлення да **вынікаў**, да той самай хваравітай заклапочанасці, за якой — поўны калапс: калі не нацыі (нам гэта не пагражае), дык канкрэтнай асобы, якая страчвае здольнасць выслухваць іншых і адэкватна ўспрымаць акаляючае. Прэтэндуючы на бязмежнасць, становішся ўсё абмежаваней (па М. Бярдзяеву).

Адценне хваравітасці мае і перманентная, у розных крыніцах, *дыскусія наконт правапісу*. Характэрна, што гаворка ідзе не аб пераглядзе сучасных ды вяртанні некаторых памылкова адмененых правіл (ужыванне мяккага знака, напрыклад), а зводзіцца да ўзвелічэння, услаўлення «тарашкевіцы» і супрацьпастаўлення яе мове сучаснай. (Менавіта мове, а не правапісу!)

Уявім сабе, што ў 1934 годзе новага правапісу не ўводзілі і застаўся тагачасны. Няўжо б гэта выратавала хоць што-небудзь: шчырых беларусаў — ад ГУЛАГа, неакрэплую, неўмацаваную за стагоддзі ментальнасць — ад растварэння ў больш моцнай, уплывовай, мову — ад занядбання і дзяжурна-афіцыйнай ролі ў БССР? Засталося б, мабыць, адно: мяккае вымаўленне ў дыктараў. Той самы нябожчык, затое сімпатычны — без прышчыка.

Механічны *перанос* «тарашкевіцы» ў сучасную мову здольны выклікаць адваротны эфект. У прыватнасці, змякчэнне — **л.** Забойчы довад прыхільнікаў: гэта ў традыцыях еўрапейскіх моў, што набліжае нас да Еўропы. Дзе лёгіка, панове? Каб жа ад аднаго гука залежала тое набліжэнне...

Дык ці варта абсалютызаваць старое? Яшчэ раз працытую вялікага рускага філосафа: «Сапраўдная нацыянальная свядомасць можа быць толькі творчай, яна звернута наперад, а не назад». Для таго, каб *пайсці праўдзівым шляхам*, зусім неабавязкова вяртацца ў зыходную кропку. Толькі час страціш. У «ЛіМе» неяк выказвалася думка, з якой цяжка не пагадзіцца: не адраджаць трэба, а ствараць новае. Абапіраючыся, вядома, на нацыянальную глебу, на ацалелыя каштоўнасці. Бо нацыянальнае — не самамэта. І незалежнасць — не самамэта (пра што і Л. Краўчук гаварыў). І тое, і другое — хутчэй сродак, пры дапамозе якога народ здолее ўсвядоміць сябе як народ, вырасці *духоўна, раскрыць* свае патэнцыі, стварыць сабе людскае жыццё.

Тут мы прыйшлі да галоўнага: **якім чынам,** праз якія механізмы будзе ажыццяўляцца нацыянальнае станаўленне, як стварыць вакол беларушчыны такое поле прыцягальнасці, каб да яго далучыліся адышоўшыя, адрынутыя ўсёй сістэмай адукацыі і выхавання. (Пра паварот самой сістэмы не кажу, асвета — перадусім.)

Усё свядомае жыццё я чую наракання на тое, што няма беларускага кіно. І ніхто, ніводзін дока-крытык папулярна не растлумачыў народу, што «Беларусьфільм» фінансуе Масква! Хацелі, значыцца, не патрыцыўшыся, мець свой кінематограф. Дакладней, хто мог патраціцца, той якраз і не хацеў. Цяпер ясна, чаму ў нас дасюль няма ніводнага беларускага мульціка.

Можа існаваць шмат рэцэптаў ад нашай агульнай хваробы. У пісьменніцкай моладзі — свой: яна спадзяецца ўехаць у беларускі рай на жвавым коніку маскультуры. Схема простая: зацікавяцца, пачнуць чытаць, стануць беларусамі... З Караткевічам мо так і было, ды Караткевіч не столькі тэмай і жанрам «браў» чытача, колькі ўзроўнем інтэлекту і духоўнасці. Я дапускаю, што можна вырасці да самага высокага ўзроўню, але ж пры чым тут маскультура? Наіўна, калегі!

Значную ролю ў беларускай справе маглі б адыграць прэса, радыё і тэлебачанне. На жаль, застойнае правіла «не чапай — і цябе не зачэпяць» усё яшчэ перасільвае патрыятычныя і адраджэнскія памкненні. Думаю, суверэнная Літва (куды тут ужо да Францыі!) не стала б цярпець, каб у эфір і на экраны — хай сабе і на літоўскай мове — выходзіла непрафесійная, непаўнавартая прадукцыя.

Зрэшты, усё ўпіраецца ў дасэмна зганены «чалавечы фактар». Што б ні казалі, а высокія ідэі, як і ўсялякія іншыя, праводзяцца, ажыццяўляюцца людзьмі. Так што застаецца пачаць і скончыць — правесці ідэю ў жыццё...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# ШЧАСЦЯ І ЯСНАГА НЕБА

73 тысячы жыхароў горада Масквы з паметкай у пашпарце «беларус» сустрэлі сёлета Новы год у розных кутках першапрастольнай. Розныя гэта людзі, розны характар і розны лёс. Акадэмікі, генералы, дырэктары, інжынеры, афіцэры, рабочыя, ветэраны, пенсіянеры, інваліды, беспрацоўныя... Што яднае гэтых людзей? Ці ўспамінаюць яны на сутыкненні двух гадоў сваю Бацькаўшчыну? На жаль, не. Бой курантаў заглушае шэпт беларускіх лясоў. Няма за маскоўскімі навагоднімі сталамі ні беларускага слова, ні беларускага духу. За «Отечество» п'юць маскоўскія беларусы «Советское шампанское».

Невялікі асяродак беларускае культуры трымаецца на двух дзесятках актывістаў. У сваёй большасці гэта людзі з малым дастаткам, без вялікіх пасад і высокіх узнагарод. Без пампезнасці святкуюць яны надыходзячы 1992-гі. Сустракаць Новы год даводзіцца паасобку і таму моўчкі віншуюць Беларусь са святам беларусы Масквы — не па пашпарту; жадаюць ёй шчасця і яснага неба, у якім няхай зіхаціць бел-чырвона-белы сцяг! І падымаюць чарку за здароўе беларускага народа.

Няхай пакуль не тысячы, а адзінкі, не акадэмікі і дырэктары, а рабочыя і студэнты скажуць шчыра ў апошні момант 1991 года — жыве Беларусь!

**Віктар НАГНІБЯДА.**

г. Масква.

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі





**АРАХОЎСКІ** Мікалай Аляксандравіч. Драматург. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна. Вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Літаратурную працу пачаў у 1977 годзе.

Аўтар п'ес «Напярэдадні» (1986, адзначана прэміяй на рэспубліканскім конкурсе); «Машэка» (1988, пастаўлена ў 1989 годзе ў Брэсцкім тэатры імя ЛКСМБ); «Ку-ку» (1991, прынята да пастаноўкі купалаўцамі) і іншых.

**ВЕРАБ'ЁЎ** Павел Іванавіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Рабавічы Слаўгарадскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1983) і Мінскую вышэйшую партыйную школу (1987). Рэдактар газеты «Знамя юности».

Літаратурную працу пачаў у 1976 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі «Крытычная маса» (1990).

**ГУРЫНОВІЧ** Хведар Хведаравіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывічы Салігорскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1981). Адказны сакратар газеты «Калійшчык Салігорска».

Літаратурную працу пачаў у 1970 годзе.

Аўтар кніг вершаў «Хлеб і соль» (1980), «Шматгалосая кветка» (1983), «Дачыненне» (1991), зборніка для дзяцей «Вішня цвіце» (1991).

**КІРЭЙЧЫК** Іван Аляксандравіч. Празаік, паэт. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1965).

Літаратурную працу пачаў у 1954 годзе.

Аўтар кніг «Багацце душы — людзям» (1966), «Пялёсткавы бераг» (1969), «Каласам хіліцца долу» (1970), «Аснова» (1977), «Калінавая квецень» (1984).

**РУБІН** Іван Ільіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1954 годзе на хутары Раздоры Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1976). Аглядальнік «Народнай газеты».

Літаратурную працу пачаў у 1971 годзе.

Аўтар кніг паэзіі «Над вечнасцю гнязда» (1984), «Вянок надзеі» (1990).

**ХАЛІП** Уладзімір Трафімавіч. Драматург. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Двор Пліна Ушацкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1963), аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі (1968). Кандыдат мастацтвазнаўства. Мастацкі кіраўнік студыі «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

Літаратурную працу пачаў у 1961 годзе.

Аўтар п'ес «Адрачэнне» (1961), «Цень гары» (пастаўлена Віцебскім акадэмічным тэатрам імя Я. Коласа ў 1987 годзе), «Ратнікі вечнасці» (1990), «Пратарчака жыцця, або Запіскі Самсона Самасуя» (паводле рамана А. Мрыя, тэлеспектакль Беларускага тэлебачання, 1990); лібрэта опер «Джардана Бруна» (1978), «Маркітантка» (1981), «Візіт дамы» (1990); сцэнарыяў кінафільмаў «Полымя» (1974), «Час выбраў нас» (1982), «Мама, я жывы» (1986), шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ПРА ТАЛЕРАНТНАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

Нас, беларусаў, настолькі прывучылі да думкі, што мы талерантныя, што нават мы самі пачалі падкрэсліваць сваю талерантнасць і ганарыцца ёю. Дакуль жа мы будзем хлусіць самім сабе?

Сапраўды, талерантнасць большасці сучасных беларусаў не падлягае сумненню. Але гэтая большасць — рускамоўныя беларусы. У свядомых беларусаў я талерантнасці не заўважыў. Наадварот. Нацыянальнае адраджэнне сведчыць: нацыянальнымі рысамі беларусаў з'яўляюцца стойкасць, мужнасць, баявітасць. Бо свядомы беларус, валодаючы роднай мовай, ведае і сапраўдную гісторыю свайго народа. Ведае, што яго продкі білі татара-манголаў, турак, крыжакоў, прымушалі дрыгацець перад імі маскоўскіх князёў і цароў. Што беларуская мова лічылася дзяржаўнай ад Балтыкі да Чорнага мора. Што, каб разарваць Беларусь (Вялікае княства Літоўскае) на кавалкі, спатрэбілася аднačасовая моц такіх дзяржаў, як Масковія, Турцыя, Аўстрыя, Прусія, Швецыя. Што на Беларусі не было такога цяжару прыгоннага права як у Масковіі. Што беларускія гарады карысталіся Магдэбургскім правам і г. д., і г. д.

Расейскія ўлады, якія «аб'ядналі» Расею з Беларуссю, добра сабе ўсведамлялі, што кіраваць захопленым народам, які памятае сваё слаўтае мінулае, будзе вельмі цяжка. Вось тутака і знаходзяцца карані русіфікацыі. А як інакш было прывучыць беларусаў да талерантнасці расейскага народа, да яго-нага звычаю жыць пад моцнай рукой таталітарызму?

Нават хрысціянізацыя абодвух народаў праходзіла па-рознаму. Беларусаў хрысцілі не Дабрыня з Пуцятам агнём і мячом, а князь Ізяслаў ды святая Ефрасіння Полацкая праз адукацыю. Хрысціць гвалтоўна — гэта не па-хрысціянску, а па-мусульманску.

На працягу ўсёй гісторыі Вялікага княства Літоўскага свецкія ўлады не мелі магчымасці ўмешвацца ва ўнутраныя справы Царквы. Так, князь Канстанцін Астрожскі быў супраць Уніі, але Царква яе ўсё роўна прыняла. У адрозненне ад Масквы, дзе князь Васіль кінуў у вязьню мітрапаліта Маскоўскага Ізідара за прыняцце Уніі. Маскоўская Царква прыняла, ды князю не спадабалася, таму й не атрымалася. Барысу Гадунову патрэбен быў патрыярх — купіў, Пятру І аказаўся не да патрэбы — скасаваў. Адным словам, Царква ў Расеі з пачатку XIII ст., калі яна пад ціскам татара-манголаў адкалолася ад еднасці з Рымам, заўсёды была ў прыгнёце.

Хрыстос вучыць нас, што чалавек ёсць сынам Божым і таму павінен быць свабодным (Мацвея 17, 26). Ці можа навучыць хрысціянскай свабодзе царква, якая не толькі прыгнечана, але і бласлаўляе свой прыгнёт? Прыгнечанасць царквы заўсёды мае вынікам талерантнасць народа. Прыклад гэтаму — гісторыя краіны з 1917 г. па сучаснасць.

Таму расейскія ўлады, пасля "аб'яднання братніх народаў" у канцы XVIII ст., пасля свайго ўмацавання на захопленых тэрыторыях у першай палове XIX ст., пачалі сваю палітыку з таго, што забаранілі уніяцкую царкву, якая перашкаджала зрабіць беларусаў талерантнымі, бо гістарычна выступала супраць прыгнёту насельніцтва. Па слову Кастуся Каліноўскага галоўнай палітыкай маскоўскіх улад у адносінах да беларускага народа было абдзерці яго, як ліпку. Але, пакуль беларусы размаўлялі па-беларуску, забараніць уніяцкую царкву было немагчыма. Гісторыя сведчыць: побач з нацыянальным адраджэннем на Беларусі (як і на Украіне) заўсёды ішло (і зараз ідзе) адраджэнне уніяцкае царквы. І ў той жа час руйнуецца талерантнасць беларусаў, замест яе паўстаюць старажытныя звычаі беларускай дэмакратыі. Заўважце: свядомы беларус ніколі не стаіць за «моцную руку», наадварот, патрабуе парламентарызму і дэмакратыі. І патрабуе не таму, што з'яўляецца, напрыклад, сябрам БНФ, што гэтыя патрабаванні знаходзяцца ў яго крыві, у яго гісторыі, у яго продках. БНФ жа таму і ёсць БНФ, што выказвае гэты поклік продкаў, заве да таго, да чаго генетычна ідзе кожны свядомы беларус. Фронт сцісае ці ўзмацняецца ў адпаведнасці з гэтым поклікам.

Тым сілам, якія звыклі да таталітарнасці, вельмі і вельмі патрэбна талерантнасць беларусаў. Менавіта тут разгадка таго, чаму столькі супраціўлення аказваецца беларускаму нацыянальнаму адраджэнню.

**Пётра КУЗЬМІЧОЎ,**
**святар, дэкан грэка-каталікоў Беларусі.**

# ТРЭБА СЯБЕ ПАВАЖАЦЬ

На зыходзе леташняга года да беларусаў Масквы прыйшло свята — да нас прыехалі сусветна вядомыя дзяржаўныя акадэмічныя народны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча і народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча. У канцэртнай зале імя П. Чайкоўскага адбыліся два канцэрты: 19 снежня — народнага аркестра, 21 снежня — народнага хору. А 20 снежня ў памяшканні прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Маскве адбылася вечарына, прысвечаная 100-м угодкам з дня нараджэння Максіма Багдановіча, у якой узялі ўдзел і выступілі перад беларусамі Масквы першы намеснік міністра культуры Беларусі спадар Уладзімір Гілеп, паэтка спадарыня Ніна Загорская, спадары Аляксей Анішчык з Вільні і Аляксей Каўка з Масквы, затым артысты народнага хору далі невялікі канцэрт.

Абодва калектывы паказалі масквічам, большасць якіх складалі беларусы, высокае прафесійнае майстэрства. Сярод гледачоў я не заўважыў абыякавых — усіх кранулі і ўзрушылі гэтыя чароўныя відовішчы. Працяглыя воплескі, воклічы «брава» і «дзякуй», вільготныя вочы — так натуральна рэагавалі гледачы на канцэрты вялікіх майстроў. Здаецца, усё было вельмі добра. Але...

Так хацелася, каб не было гэтага «але», каб закончыць нататку адно словамі шчырае падзякі. Але вымушаны ўсё-ткі падзяліцца сваімі думкамі, думкамі маскоўскага гледача-беларуса.

Ад мастацкіх калектываў з Беларусі, што наведваюць нас, мы чакаем, па-першае, роднага слова, роднае песні, мы чакаем сустрэчы з Бацькаўшчынай. Гэта для нас лепшы падарунак. Калі мы атрымліваем тое, чаго чакалі, дык узнімаецца настрой, пяе душа. А калі не, калі наадварот?.. Тады не толькі псуецца настрой. Тады мы страчваем надзею на адраджэнне Бацькаўшчыны, надыходзіць пачуццё безвыходнасці, няўпэўненасць апаноўвае душу.

Так адбылося і на гэты раз. Калі праграма народнага хору была сапраўды беларускай па змесце, апроч двух-трох выступленняў па-расейску і па-украінску (выказалі павагу да суседзяў па СНД, што ўсім зразумела), дык праграма канцэрта народнага аркестра па змесце была больш расейскай, чым беларускай (у другім аддзяленні артысты нават перапрануліся ў расейскія строі). Адно вядучая канцэрта насуперак усім працягвала абвяшчаць нумары па-беларуску. Вялікі дзякуй ёй за гэта. Увогуле ж склалася ўражанне, што «малодшы брат» прыехаў уладогаджваць свайго «старэйшага брата».

Здзівілі мяне і артысты народнага хору. Цудоўныя выканаўцы, вялікія майстры выдатна выступалі па-беларуску, але чамусьці паміж сабою размаўлялі па-расейску (гэта мы чулі і бачылі пад час сустрэчы з імі ў прадстаўніцтве). Узнікае міжволі пытанне: калі ж яны былі па-сапраўднаму шчырымі — пад час канцэрта ці ў штодзённым жыцці? На першы погляд — дробязь. Але не. Беларускамоўнага гледача гэтая «дробязь» абражае.

Шаноўныя майстры культуры і мастацтва! Вы можаце шмат зрабіць на карысць беларускага адраджэння, калі з годнасцю будзеце несці ў свет нашае роднае слова. Але вы здольныя і канчаткова пахаваць нашу мілагучную мову, калі не будзеце ставіцца да яе з павагаю. Бо калі мы не навучымся паважаць самі сябе, дык ніхто ў свеце нас не прызнае і паважаць не будзе.

**Ігар ПАЎЛОЎСКІ,**
**палкоўнік запасу.**

г. Масква.

# НЕ ПАРАЗУМЕЛІСЯ...

У нядзелю, 22 снежня, слухаў перадачу Беларускага радыё «Вас вітаць мы сёння рады», прысвечаную працаўнікам калгаса «Бальшавік» Баранавіцкага раёна. Пачатак неблагі: жывая і цікава карэспандэнтка гутарыць з мясцовымі настаўнікамі. Але далей! Ідзе размова са старшынёю калгаса, кіраўніком прафсаюзаў, механізатарамі, калгаснікамі... Усе — мясцовыя. Вядома ж, мова іх — не зусім літаратурная, хоць і блізкая да яе (усё ж Цэнтральная Беларусь). Але карэспандэнтка чамусьці перайшла... на рускую мову! Хочаш не хочаш, а яе субяседнікі, падладжваючыся пад прадстаўніка Беларускага радыё, вымушаны пераходзіць, вядома ж, на сумнавядомую «трасянку».

Чаму ж так? Тэлефаную ў рэдакцыю народнай гаспадаркі, якая рыхтавала гэтую перадачу. Трапляю на намесніка рэдактара Яўгена Казюкіна. Вось якая ў нас атрымалася размова:

— Чаму карэспандэнтка гутарыла з калгаснікамі на рускай мове? Хіба ж яны не разумеюць сваёй роднай, беларускай?

— А ці даводзілася вам самому гаварыць з калгаснікамі? Ці ж можна ад іх патрабаваць літаратурнай беларускай мовы?

— Вы мяне не зразумелі. Ніхто ад калгаснікаў літаратурнай мовы не патрабуе. А вось карэспандэнтка магла б паказаць прыклад, і яе цудоўна зразумелі б і старшыня калгаса, і даярка.

— Яна спрабавала, але ёй не маглі адказваць гэтак жа. І нельга іх за гэта вінаваціць.

— Ды ніхто ж іх не вінаваціць! Я пра пазіцыю супрацоўнікаў Беларускага радыё. Няжо вы лічыце, што субяседнікі карэспандэнткі таксама адказвалі ёй на рускай мове? Яны ж калечылі сваю родную, вельмі блізкую да літаратурнай. І гэта з падачы супрацоўніка дзяржаўнага радыё.

— Мы не разумеем адзін аднаго. Гаварыце з карэспандэнткай...

І мой субяседнік кінуў трубку. А званіць «віноўніцы» я не стаў. Пэўна, гэта не толькі яе ўласная пазіцыя...

**Я. САХУТА,**
**старшыня суполкі ТБМ ІМЭФ Акадэміі навук Беларусі.**

**У сённяшнім свеце беларусы — адзін з нямногіх народаў, хто можа быць САБОЙ па-за сваім грунтам («почвой»), і хто нават прызвычаіўся да пераважна ўнутранай — безадноснай беларускасці. Гэта — ці не вышэйшая праява духоўнай моцы!**

**Адначасна мы — меншасць у СВАЁЙ краіне, верагодна нават — чужыя сярод сваіх... Быць сёння беларусам — амаль што гераічнае (без двукосся) пачуванне, якое, аднак, пасля ўжо марна спакушаць чымсьці іншым: яго ўжо нікому і нічым не адабраць, яно застаецца вечна. Мы па адным ВЯРТАЕМСЯ — да саміх сябе, як блудныя дзеці, і нас большае. Нагадваецца біблейскае: «З таго і трэба было цешыцца і весяліцца, што брат твой гэты быў умёршы і ажыў, прападаў і знайшоўся» (Паводле Лукі, 15:32).**

**Як скажа ў гэтай гутарцы рупны публіцыст, шукальнік філасофіі нацыянальнага існавання Аляксей КАЎКА, беларусамі сёння не нараджаюцца, імі СТАНОВЯЦЦА. Даследчык гісторыі беларускай літаратуры (працуе ў Інстытуце сусветнай літаратуры АН Расіі.— Ю. З.) прадказвае непазбежнасць нашага ўсеагульнага ўздыму. Што ж — веруем! Але шляхі-пуцявіны да ўздыму мецьмем цярністымі — без духоўнага гарту іх не адолець.**

**Юрась ЗАЛОСКА.**

**ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ**

# Аляксей КАЎКА: «УСЕБЕЛАРУСКІ ЎЗДЫМ ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ, І ЁН НЕЎНІКНЁНЫ»



**Гутарку вядзе Юрась ЗАЛОСКА**

**— Аляксей Канстанцінавіч, пачаць нашу гутарку мне хацелася б з такога пытання: у Лондане, адкуль вы нядаўна вярнуліся, як жа ўспрымаецца такі палітычны прывід, як Рэспубліка Беларусь?**

— Так і ўспрымаецца, калі гаворка ідзе аб прывідзе: нешта неакрэсленае, малазнанае. Хаця ў вузейшым, навуковым абсягу англамоўны чытач не можа наракаць на адсутнасць належных крыніц, распрацовак адносна гісторыі, культуры нашае краіны. Нямала ў гэтым кірунку парупілася беларуская эміграцыя і ў суладдзі з ёю ангельскія вучоныяславісты. Мог бы прыгадаць выдадзены ў Нью-Йорку пад рэдакцыяй Вітаўта і Зоры Кіпеляў грунтоўны зборнік «Беларуская дзяржаўнасць»; у Лондане — публікацыі Арнольда Макміліна, Джэймса Дзінглі, Гая Пікарды пра беларускую літаратуру, мову, музыку, ангельскія пераклады нашае паэзіі Веры Рыч... Наогул жа духоўная спадчына беларусаў няблага прадстаўлена і ў Брытанскім музеі, і ў Інстытуце славянскіх даследаванняў Лонданскага універсітэта, не кажучы пра бібліятэку і музей імя Францішка Скарыны, унікальны асяродак беларускае кніжнасці і культуры. Называю імёны, факты, пэўна знаныя чытачам «ЛіМа» з распавядаў у друку маіх папярэднікаў па лонданскай «адысеі».

Дадаў бы да сказанага толькі тое, што рэчаіснасць беларуская — даўнінная і сучасная — бачыцца, «глядя из Лондона», іншым разам выпуклей, мо нават аб'ектыўней. Што да палітычнага, дзяржаўнага вобраза Беларусі, то праблізнасць яго наўрад ці надуманая. Але чаго тут болей — віны ангельцаў ці бяды беларусаў, адназначна не скажаш. Наогул жа бачаць нас пераважна такімі, якімі самі сябе творым, паказваем свету. Якім жа было тое тварэнне і паказванне, прынамсі, да нядаўняга часу, — добра вядома.

**— Як мяркуеце — цяпер, пасля Берасцейскага пагаднення і ягоных наступстваў, міжнародны прэстыж Беларусі ці памкне ўгору? Менск жа аб'яўлены сталіцай Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Глядзіш — і «все флаги в гости к нам...»?**

— Мой настрой гэтая перспектыва не падсалоджвае, хутчэй насцярожвае. Ва ўсякім разе, покі ў самой Беларусі не навучацца шанаваць свой уласны дзяржаўны сцяг ды ўпару асаджваць дамарослага янычара ад глумлення над нацыянальнымі святынямі. Пакуль не збудуецца рэальны, дзейсны, не дэкаратыўны суверэнітэт краіны. І асабліва — суверэнітэт духоўны. Пры скалечаным духу мізарнее і плоць. Векавечнае ж калечанне беларускай душы не спыняецца. Цяпер, на дадатак, пры дэклараванай незалежнасці, нярэдка нават пад беларускімі назвамі («Рэспубліка», «Белорусская нива», «Наша доля», Беларускае радыё і тэлебачанне...). Спадар Юрась не задаваўся пытаннем, чаму гэта менавіта да Беларусі ліпнуць сягоння розныя імперскія атопкі звонку — калі толькі згадаць пра нядаўні вяж па Менску (з выступам па тутэйшым тэлеканале) наваспечанага «фюрэра», хваравітага «збаўцы» Расеі? І чаму менавіта Радзіма ратнікаў Грунвальда, ваяводы Астрожскага, паўстанцаў Каліноўскага, братоў-адраджэнцаў Луцкевічаў абіраецца ў якасці плацдарма дзеля ўваскрошання спачылай імперыі? І не відно, на жаль, кормчага, здатнага ўтаймаваць штучнатворную пеністую паводку, што захліствае кволую рунь новага Адраджэння. Мабыць, не перабольшыў паэт, назваўшы беларусаў «бяздомнікамі» ва ўласным доме, дзе пераважна чужыя людзі, чужыя ідалы, чужыя вартасці параненейшаму правяць баль і задаюць пагоду. Яшчэ крыўдней, што яны ўзгадаваны, па большасці, на сваёй жа беларускай зямлі, зрокшыся яе духатворных каранёў і падаўшыся ў іншаземнае — моўнае і культурнае — жабрацтва.

Так што з замежнымі сцягамі стольнаму Менску, як на мае глузды, нявартa спяшацца. Няхай бы напачатку сам уладкаваўся — самастойна, годна, на беларускі лад. Каб плошча Незалежнасці, праспект Скарыны, вуліца Багдановіча — цудоўны дарунак менчукам, усім беларусам на Максімавы ўгодкі, — значылі ў нашым горадзе, па ўсёй краіне-Беларусі штосьці большае, чым проста назвы. Не частаваць жа запрошаных гасцей нажабраванымі кавалкамі — пры сваім уласным занядбаным багацці.

Вяртаймася ў Еўропу, але без уласнага «азіяцтва» — янычарства, манкурцтва ці якіх там іншых таўровых клеймаў.

**— Але ўсё ж, спадар Аляксей, затрымаемся яшчэ на тэме «прывіду». Палякі ганарацца Польшчай, якая «не згінэла». Рускія моляцца на матушку-Русь, святую, адзінаверную, непадзельную. У нашых суседзяў і напамінку няма пра нейкую прывіднасць... А вось наш, беларускі менталітэт, бы знарок затлумлены, невыразны, няўцямны для іншых. Ці азначае гэта, што беларусу заказана (не ўласціва) месіянства, нацыянальная рамантыка без берагоў?**

— Месія ў хрысціянскіх народаў адзін, адзіны. Місія ж — у кожнага свая. Ёсць і ў нашага народа свая місія, сваё прызначэнне ў гісторыі. Сваё слова, свая беларуская ідэя пра саміх сябе і свет, выказаныя прарокамі. «Біце ў сэрцы іх — біце мячамі! Не давайце чужынцамі быць!» — чым не ідэя, не месіянства? — нявольніку стаць свабодным, незалежным, народу — вырабіцца ў н а р о д. Не думаю, што гэта вузка беларуская праблема. Ад нявольніцтва, жабрацтва духоўнага, палітычнага яшчэ ўсё пакутуе ці не большасць народаў планеты. Ды і ў Еўропе не адным беларусам трэба яшчэ атрэсці з сябе каланіялісцкі друз. Пэўна, вопыт нашага самавыбаўлення мог бы мець не толькі беларускае значэнне. Тады ў самы раз і «флаги в гости» — свабодны народ запрашае ў свабодную краіну.

Што ж да рамантыкі... Яе, бязмежнае, і нам не займаць, прынамсі, на школьных уроках літаратуры, юбілейных урачыстасцях або вечарынах у Доме літаратара. Праўда, попыт на кнігі беларускіх рамантыкаў дужа саступае попыту на кухонныя рэцэпты «о вкусной і здоровой пище». Але не дакараць жа народ, што ён любіць добра і смачна паесці (хто не любіць?), нават калі апетыт і засланяе часам ад знешняга вока іншыя яго, шляхотнейшыя кляйноты — гонар, рашучасць ці што там яшчэ. Вось ваша чэсць згадалі, нібы у процівагу, пра годнасць, самаахвярнасць палякаў і рускіх. Што ж, гэтыя народы гісторыя, здаецца, ужо выпрабавала, загартавала на нацыянальную трываласць. Відаць, **нашыя** Рацлавіцы ці Барадзіно, наша агульнанацыянальная баталія (неабавязкова мілітарная, хоць неўнікнёна змагарная), — яшчэ наперадзе. Выйграла ж толькі што сястра-Украіна генеральную бітву — рэферэндум аб сваёй незалежнасці? Таго ж трохі раней дамаглася другая наша суседка — Літва. Не дарэшты, майма надзею, запалоханы заклінальнымі «единонеделимыми» святцамі і беларус.

Прывіднасць — усяго толькі стан, пераходны, часовы. Своеасаблівае юнацтва, ці, можа, «дзіцячая хворасць» беларусаў на шляху да сталасці і нацыянальнае ўзмужнеласці. Некалі ж пасталеем, узмужнеем, хаця і хацелася б — хутчэй... Будзьма, аднак, аптымістамі.

**— Цярплівасць, зрэшты, — у нашым характары.**

— Так. Але, мабыць, яна павінна быць не такой рабалепнай, над якой з горыччу пасміхаўся Уладзімір Караткевіч, кажучы пра беларуса, якога павесілі, па нейкім часе знялі з пятлі і запыталі пра адчуванне. Нічога, адказаў вісельнік, спачатку муляла, але потым прывык... Мне пасля гэтага магільнага досціпу чамусьці згадваюцца тыя, для каго малако, ялавічына ў менскіх прадуктовых крамах — гэта добра, гэта адзнака беларускае працавітасці, а вось бел-чырвона-белы штандар над Домам урада — ужо кепска, нават нацыянал-фашызм... Іншаму казнадзею, кормнаму з беларускага мазаля, не зашкодзіла б кропля калі не спачування, дык хоць бы зразумення беларускай душы: працавітай, цярплівай, лагоднай, але і гордай. Халуйская філасофія накшталт «няхай беларус корміць нас сваім хлебам-мясам, а мы яго будзем пічкаць чужой славай, чужым гонарам» — ужо дастаткова скампраметавалася. Чаго, на жаль, не могуць (не жадаюць?) зразумець некаторыя штабісты, для каго ідэя беларускага войска ці нават беларускасці ў войску ўсё яшчэ фарбуецца крамольнымі колерамі. І яны не супыняюцца перад праследаваннем беларускага адраджэнчага руху сярод афіцэрства.

Дакуль можна суверэнітэт Беларусі вымяраць і абмяжоўваць адно колькасцю прадукаванай кілбасы? І ці не задоўга лёс нашай краіны вызначалі такія вось «кілбасныя» палітыкі? Настае час палітыкаў дзяржаўна-нацыянальных, беларускіх. Яны прыйдуць і ўжо прыходзяць. Некалі Янка Купала горда запярэчваў абуванню беларусаў у духоўна-жабрацкія лапці. Сёння гэтаму ж пярэчыць пабуджаны народ — можа, пакуль не надта голасна, рашуча. Але парашучае, чакаць засталося нядоўга.

**— Вашу думку пра «грядущее» надзвычайнае выпрабаванне для беларусаў варта ўдакладніць. Хіба ж Вялікая Айчынная не была нашым ўсебеларускім, найбольшым, надта ж трагічным тэстам на трываласць? Якія ж яшчэ і навошта пасля гэтага нам патрэбны Рацлавіцы ці Барадзіно?**

— Згодзен: мінулая вайна была страшэннай пакутай, урэшце, не толькі для беларусаў. Але наколькі яна ўзмацніла, нацыянальна з'яднала народ, вычуліла ягоны псіхічны імунітэт перад сталай пагрозай асіміляцыі? Скажам болей: ці была для беларусаў гэтая вайна **Айчыннай!**

Такое пытанне сёння паўстае. Пэўна, чыталі ў друку фрагменты манаграфіі Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Мне гэтая праца, як і пакутлівы даследчы неспакой аўтара, знаёмая вельмі добра... Пачытайце таксама мемуары, публіцыстыку, безліч эміграцыйнай перыёдыкі — а чытанне гэтае непазбежнае, калі мы сапраўды заклапочаны пошукам пагаднення з нашай эміграцыяй.

Дык вось якую «Айчыну» бараніў беларус у згаданай вайне? Калгасна-сацыялістычную, партыйна-наменклатурную? Тую самую, што да яшчэ трагічнага чэрвеня 1941 года выкасіла ладную, найбольш дынамічную частку беларускага сялянства, мала не ўсю нацыянальна свядомую беларускую інтэлігенцыю, разгарнула на Беларусі татальную асіміляцыю? Мо тую афіцыйную «Айчыну», што ў пасляваенны, пераможны час рукамі вылучэнцаў, нярэдка насланых з-за межаў Беларусі, павядзе далейшы наступ супраць духоўна-беларускага ладу жыцця, пачне застрашаць даносамі, шантажом, зубатычынамі, даруйце, ледзь не кожнага, хто з нас супрацівіўся вынішчэнню беларускасці?!

Не забывайма, што і народ у той вайне быў падзелены. Адны пайшлі ў партызаны змагацца з гітлераўскім акупантам. Другія, кіруючыся нацыянальным інтарэсам (не тут месца высвятляць, наколькі адэкватным было разуменне гэтага інтарэсу), выбралі вымушанае супрацоўніцтва з акупацыйнай адміністрацыяй, выступіўшы супраць і партызан, і той палітычна-ідэалагічнай сістэмы, якую яны ўвасаблялі і баранілі. Трэція (мабыць, большасць) — ратаваліся, як хто мог, каб толькі выжыць, выплысці з крывавага віру. Сотні тысяч мірнага насельніцтва... Попел беларускіх Хатыняў — ці не задужа высокая плата за ўзарваныя партызанамі рэйкі, падстрэленага аднаго-другога бургамістра, старасту, немца-абозніка, ці нават пакаранага падпольшчыкамі гаўляйтэра? Гэтымі ж балючымі пытаннямі смыліць кожнае слова ў вершы Ларысы Геніюш «Партызаны»... Ад іх, гэтых пытанняў, цяжка будзе адмаўчацца гісторыкам, дый не толькі ім.

Вайна, пра якую гаворка, наўрад ці прыбавіла беларускаму арганізму гарту, нацыянальнай трываласці. Паўсюдны заняпад, знішчэнне і самаразбурэнне беларушчыны на Беларусі на працягу паваенных дзесяцігоддзяў — сумны, неабвяржальны таму доказ. (Вядома, калі не вымяраць моц і веліч беларускага духу, як гэта рабілася дасюль, сеткаю сіласных вежаў, лікам асушаных балот, пабудаваных хімічных камбінатаў, рускіх школ, універсітэтаў ды мільярднымі тыражамі рускамоўных газет і кніг).

Адсюль і меркаванне адносна неўнікнёнасці ўсебеларускага ўздыму, узрушання або паспалітага рушання, якое ўрэшце б ацвярэзіла, з'яднала, узмацніла гэты народ дзеля сваёй незалежнасці, дзеля сваёй, падкрэсліў бы, беларускасці. Іншае — **КАЛІ**, у якой праяве адбудзецца гэтае ўсебеларускае самасцвярджэнне. Няхай над гэтым маракуюць прагназісты. Для мяне адно істотней: усесупольнае беларускае «Я» прагучыць, бо не можа не прагучаць.

**— Апошнім часам у адраджэнстве мацнеюць галасы: не мова, маўляў, галоўнае, а нацыянальная свядомасць (быццам мова не ёсць прыкмета, характарыстыка свядомасці). Тым не менш існа-інтэлігентныя людзі, якія дагэтуль не спавядалі беларушчыны, але хацелі б вывучыць мову, робяць закіды: мне прапаноўваюць калькаваць на беларускі кштал рускую мову — не, сябры, я хачу ўласна-беларускай мовы. Якое ваша, скарыназнаўцы, меркаванне: ці не зашмат старакрыўскай лексікі мы пакінулі і забыліся там, у старажытнасці? Мо ёсць патрэба падняць гэтыя пласты мовы?**

— Чаму ж не? Пласты, цэлае радовішча старабеларускае лексікі дастаткова багатыя, эстэтычна і функцыянальна вабныя, каб не «музеіць» іх адно ў гістарычных слоўніках. Вунь «спадар», «спадарыня», «спадарства» ўжо вярнуліся ў моўны побыт і, заўважце, як адразу памілагучнела, паласкавела нашае маўленне. На падыходзе, трэба спадзявацца, беларускі «сойм», беларускія «грошы», мо «талер» ці штось падобнае, беларускі «канцлер» або «гаспадар» (навошта нам пазычаны «прэзідэнт» пры ўласнай мнагавечнай традыцыі вярхоўнага валадара?). Без сумніву скарыстаюць з тае ж спадчыны нашыя суддзі, падсудкі, старасты, ваяводы, радныя, радцы, пісары земскія, усё чынавенства, пачаўшы «нацыяналізоўваць», беларусіць, асвяжаць сваю замшэлую ў асімілятарстве гаспадарку. Не менш вартасным і прынадным бачыцца здавён абеларушчаны рэлігійна-царкоўны пласт (такі ж вернецца і ў святыні, бо ў ім — словы Скарыны, Цяпінскага, Карповіча, Адама Станкевіча...). Сціплейшымі, мабыць, будуць «старадаўнія» імпульсы адносна адраджэнчых патрэб навукі і тэхнікі. Але галоўнае тут не ў колькасным

(Працяг на стар. 12).

## Анкета «ЛіМа»

Перасягнуўшы ў Новы, 1992 год, наша анкета, мяркуючы па ўсім, пачынае выказваць прыкметы стомленасці. Зрэшты, у тым няма нічога дзіўнага. бо на пастаўленыя пытанні адказала даволі многа творцаў, выказана нямала як слушных, так і спрэчных меркаванняў, пазначаны асноўныя арыенціры, а значыць — мэта дасягнута.

1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці, пісьменніку ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку? Ці можна сёння пісаць, як раней,— як бы па інерцыі?

2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай масавай культуры, да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой цаной»?

3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рыначныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы? Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем?

**Мар'ян ДУКСА**

# МУЗЫ НЕ АНЯМЕЮЦЬ

1. Што рабіць зараз творцу — у такі надзвычай складаны перыяд? Ва ўсякім выпадку не мітусіцца і не адчайвацца. Я разумею, што гэта няпроста, калі вакол цябе такі роскід думак і меркаванняў, такая стрэсавая напружанасць, злаславасць, паніка. Эмацыянальны тайфун, узняты пужлівым чаканнем рынку, літаральна захліснуў нашы душы, патапіўшы такія каштоўнасці, як разважлівасць, высакароднасць, адчуванне святла і прыгажосці. Зараз людзям, прынамсі, большасці з іх, проста не да паэзіі, асабліва беларускай. Дык што: калі надыходзіць рынак — музы змаўкаюць? Пытанне рытарычнае. У муз можа мяняцца гучнасць голасу, яго тэмбр, афарбоўка, але ці варта гаварыць, што музы здольны анямець зусім. Хіба можа наступіць клінічная смерць паэзіі толькі таму, што ў грамадстве ўзнікае гранічна высокая тэмпература ці, наадварот, небяспечна нізкая — ад стомленасці і расчараванняў?

Дзе знайсці творцу свой маральна - фізічны фундамент, на што яму арыентавацца, калі «ходзіць зямля пад нагамі», калі рушацца адносны спакой і абжытыя стэрэатыпы? Не думаю, што на трыбуннае рэха ці пранізлівы вецер, што дзьме з паліц айчынных магазінаў... Паэзія — не харчовы размеркавальнік, яна не вырашае і ніколі не вырашыць праблему нашых змізарнелых пайкоў ці гандлёвую галаваломку, колькі даваць тавару «ў адны рукі». Не сакрэт, што паэзію цікавяць перш за ўсё вечныя пытанні быцця. Іншая справа, што яе такія значныя тэмы, як каханне, любоў, экзістэнцыяльны смутак, пошукі ісціны, праўды і веры, прага радасці і страх смерці, праяўляюцца праз канкрэтнага чалавека, які жыве на зямлі, зруйнаванай і зганьбаванай айчынным марксізмам, на зямлі, дзе пануюць зараз разгубленасць, адчай, утрапенне. У якой, скажыце, вежы можна схавацца, каб нічога не бачыць, не зайсціся сэрцам ад нашай ганебнай галечы, бесталковасці і дурноты? Ці ўдасца спакойна ўспрымаць тое, як наш былы «гома савецікус» усё ніяк не можа пазбавіцца сваіх камуністычных рэфлексаў — нічога не рабіць, зайздросціць іншым і ненавідзець тых, «у каго болей»... Не так проста пераключыцца на стварэнне нейкіх філасофскіх вершаў з «адцягненым зместам», толькі што паназіраўшы за гарачымі баталіямі ў беларускім парламенце, дзе большасць яго наменклатурных дэпутатаў, старанна ўзгадаваных нялюдскай сістэмай, рашуча косіць усе тыя парасткі-прапановы, якія адчайна і стойка сее апазіцыя ў імя адраджэння краю, у імя змардаванага беларуса. У нашым цяперашнім стане, я так думаю, вельмі праблематычна паэту правацца ў «чыстую» эстэтыку ці вечнасць, не зварухнуўшы пры гэтым уласнага сумлення, не ўзняўшы ў ім кругоў болю і трывогі за сённяшні дзень. Мастакоўскі прафесійны цынізм, адчужанасць ад паўсядзённасці, свядомыя ўцёкі ад яе наўрад ці ўласцівыя сапраўднаму паэту. З якіх бы далёкіх зорак у яго сэрца не апускаліся пратуберанцы вечнасці, яны спачатку праходзяць праз нашу зямную атмасферу, забруджаную, дрыготкую ад чалавечага плачу і клічу аб дапамозе. Адным словам, вяртаючыся да анкетнага пытання, зазначу: калі ў нейчай творчасці заўсёды білася, як параненае птушанё, сумленне, калі радкі неслі ўзоры мастацкай меры і добрага густу — што ж, такому паэту, я лічу, «можна пісаць, як раней, — як бы па інерцыі...» А тым, хто глядзеў у рот вялікім і малым правадырам і спяваў ім аматарскія дыфірамбы, параіў бы ісці лепш у кааператары. Матэрыяльна толькі выйграюць.

Дык на што ж абапірацца творцу ва ўмовах «міжчасся», «няўхільнага насоўвання рынку»? Вядома ж, не на Літфонд, які сам ледзьве дыхае. Я так скажу: на ўласнае сумленне і хрысціянскія прынцыпы. Не трэба рабіць трагедыі з таго, што бракуе паперы, узніклі новыя складанасці з выданнем беларускіх кніг і іх рэалізацыяй. Хочацца верыць: гэта часовыя цяжкасці. Галоўнае, што мы хочам і ў нейкай ступені можам нават сёння сцвердзіць прыгажосць, спагаду, міласэрнасць — самыя дэфіцытныя рэчы ў нашым жыцці. І ніякі рынак, ніякая «шокавая тэрапія» не павінны перашкодзіць гэтаму. Сумленне — божая іскра ў душы чалавека — найлепшы компас для вандроўніка-паэта, бо ў любую непагадзь накіруе ў патрэбны бок. А хрысціянскія прынцыпы вельмі нават спатрэбяцца паэту, каб ён мог глыбока адчуць сваё найвышэйшае прызванне — служыць духу, прамаўляць пра цудоўнае і вечнае, ратаваць людскую душу ад зямнога падзення. Вы скажаце, гэта функцыі рэлігіі, у прыватнасці, хрысціянскай. А мне здаецца, рэлігія і паэзія сябе ўзаемадапаўняюць, гэта дрэвы аднаго кораня, адной генеалогіі. Добры верш, як і малітва, запаўняе спустошаную д'ябальскім атэізмам душу верай і святлом, дае надзею. Зусім не здзіўлюся, калі ўбачу паэта ў касцёле — ён прыйшоў з храма Паэзіі ў храм Божы, а гэтыя высокія будынкі месцяцца побач.

2. Як я стаўлюся да спробаў стварэння беларускай «масавай культуры»? Усе мы помнім, савецкая прапаганда працяглы час імкнулася сфарміраваць да яе негатыўныя адносіны ў нашага «высокаідэйнага» чытача. Паўтараючы тысячу раз адно і тое ж, яна, па прынцыпе вялікага фізіёлага Паўлава, намагалася замацаваць у нас пэўныя ўмоўныя рэфлексы — на пагарду да ўсяго таго, што хаваецца пад гэтым распаўсюджаным словазлучэннем. «Масавая культура» — рэальнасць, якая існавала, існуе і будзе існаваць. Гэты феномен аб'ектыўны і выяўляе патрэбы і схільнасці многіх, відаць, большасці людзей. Можна не прымаць гэты род культуры, але адмаўляць яму ў праве на існаванне — наіўна і смешна. Што тычыцца нас, беларусаў, то трэба толькі радавацца, калі нашы творы, набыўшы статус «масавай культуры», шырока пойдуць у народ. Адзінае, што яны павінны быць на беларускай мове. Ах, як далёка яшчэ нам да гэтай беларускамоўнай «масавай культуры»! Але мы, празаікі, паэты, барды, артысты, кіношнікі, усімі сіламі павінны яе набліжаць, каб адрадзілася і нарэшце загучала на кожным гарадскім скрыжаванні роднае слова. Для нас на цяперашнім этапе беларускамоўная «масавая культура» — адна з галоўных тактычных задач. Бо чаго варты нашы паэтычныя зборнікі, адзначаныя нават высокімі ўзнагародамі, калі ляжаць яны мёртвым грузам на кніжных паліцах! Мы можам паснобску ганарыцца мастацкімі дасягненнямі, высокім наватарскім узроўнем сваіх «шэдэўраў», іх элітнай накіраванасцю, але такая задаволенасць варта жалю. А ўвогуле, хто сказаў, што творы «масавай культуры» абавязкова павінны быць нізкага эстэтычнага гатунку? Імкненне дагадзіць «спажыўцу» лёгка прыводзіць да вульгарнасці, безгустоўшчыны, а іх масавы чытач можа і не прыняць — не трэба лічыць яго ўжо такім неперабарлівым дзікуном. А ў прынцыпе імкненне да папулярнасці ўласціва, мусіць, усім творцам, бо папулярнасць — як вялікая падзяка за твае настойлівыя творчыя пошукі, як вялікая маральная падтрымка.

3. Паэт выбірае тую форму, якая сугучна яго душы, — за празаікаў, драматургаў гаварыць не буду. Неабходнасць такога выбару дыктуюць яго густ, тэмперамент і многае іншае. Неўласцівая яму форма— як рабыня, гвалтам прывезеная з чужыны: вялікай любасці ад яе, узаемаразумення чакаць не варта. Любая імітацыя, нават высокапрафесійная, будзе няплённай — уся энергія творцы пойдзе ў першую чаргу на засваенне формы, зусім не прасвятляючы думкі. Гэта, акрамя ўсяго, стане для паэта не свабодным палётам, а асцярожным таптаннем на хадулях. З другога боку, як жа можна забараніць сабе пошукі новай формы? Бяздумна, механічна нацягваць свежую ідэю на зашмальцаваны капыл — гэта лёс рамесніка. Катэгарычна адпрэчваць ад сябе новую, у тым ліку так званую «модную» форму, якая мае рыначны попыт, — гэта ў нейкай меры не давяраць уласнаму таленту. Можна ж любую папулярную форму паспрабаваць нейкім чынам удасканаліць, «змусіць» яе працаваць на твой духоўны патэнцыял.

Але мне не зусім зразумела, якая ж форма з'яўляецца «моднай» для нас, беларускіх паэтаў і чытачоў? Традыцыйная напеўна - рытмічна - рыфмаваная, верлібр, белы верш ці незвычайныя формавышукі Алеся Разанава? Каму ж усётакі аддаць перавагу — нашым лірыкам, у якіх адбітак перажывання «чытаецца няўзброеным вокам», ці больш ускладнёным метаметафарыстам або канцэптуалістам, дзе пануюць скразная сімволіка і асацыятыўнасць? Хто рабіў сацыялагічна - статыстычнае апытанне беларусаў, каб уведаць, якая паэзія ім бліжэй? Чаму некаторыя маладыя творцы так рашуча адвяргаюць класічны верш з яго натуральным унутраным напаўненнем, скептычна, а то і пагардліва гледзячы на сваіх старэйшых папярэднікаў - паэтаў? Можа, усё зводзіцца да маладой задзірыстасці, рызыкі і хлапечай бравады? Ці прычына грунтуецца на свядомым адмаўленні заканамернасцей літаратурнага працэсу? Даводзіцца толькі шкадаваць, калі апошняе мае месца, бо любы безаглядны нігілізм у літаратуры нагадвае наш родны бальшавізм, які спачатку ўсё нішчыць і паліць, а пасля гвалтоўна вырошчвае на попеле міфічны сад.

Маладзейшыя мае калегі! Не бывае манаполіі на паэтычную ісціну, бо маем справу з вельмі тонкай матэрыяй. Магістральнага шляху ў паэзіі, з пункту гледжання формы, няма і не можа быць. У адным я ўпэўнены: як бы мы ні арыгінальнічалі, але не можам ігнараваць народных мастацкіх традыцый, усіх асаблівасцей сённяшняга людскога светаўспрымання. Думаецца, тут павінен быць пэўны баланс эстэтычных густаў паэта і чытача. Гэта не аксіёма — Божа барані, я зусім не прыхільнік таго, каб паэзія зноў была «служкай народа», пакаёўкай у вялікім дзяржаўным доме. Найвышэйшая каштоўнасць паэзіі — у яе самацэннасці. Гутарка ідзе, пры якіх умовах наша беларуская паэзія можа быць шырока распаўсюджанай, гэта значыць стаць «моднай».

Я вельмі станоўча адношуся да чужога вопыту фармальных пошукаў. Гэта як запрашэнне да ўласных намаганняў, гэта як псіхалагічны сігнал для тваёй душы: ідзі, шукай, не стой на месцы. Чужыя творчыя поспехі, у чым бы яны ні праявіліся, — гэта ўсё-ткі выдатны стымулятар. І не больш. Бо здымаць бледныя копіі з чужога поспеху — гэта яшчэ як прыніжае тваю мастакоўскую годнасць. Прымяраць чужую вопратку можна і трэба не з тым разлікам, каб яе насіць, а каб, не адмаўляючы любімую мадэль, сфастрыгаваць нешта сваё. Бо хто ж з сапраўдных паэтаў набывае сабе касцюм у краме ўжываных рэчаў?

КАЛІ аглядаеш пакутлівы шлях, пройдзены літаратурай за перыяд савецкай гісторыі, бачыш не толькі вышыні, але і віну, і грахі, найбольшыя перад чытачом юным, бо ён жа самы бездапаможны і безабаронны перад злом, падманам і фальшу. Цяпер, у пару прасвятлення, мы з горыччу і раскаяннем зразумелі вялікую шкоду таго, што літаратура, прызначаная юным (як, дарэчы, і літаратура наогул), наскрозь ідэалагізаваная, аблытаная ідэалагічнымі ланцугамі, мусіла выхоўваць юнага чалавека, абапіраючыся галоўным чынам на прыярытэт класавага, сацыяльнага, ігнаруючы адвечныя маральныя прынцыпы агульначалавечых узаемаадносін. Менавіта на хвалі такіх ідэалагічных фікцый і з'явіўся сумна вядомы Паўлік Марозаў — трагічная і бязвінная ахвяра сталінскага часу, за ўзвышэнне якой грамадства нясе сваю вялікую віну перад дзецьмі. З дапамогай літаратуры грамадства доўгія гады трымала ў сваёй дэфармаванай свядомасці маральна фальшывае па сутнасці ўяўленне аб дзіцячым гераізме.

На жаль, толькі нямногім пісьменнікам, што разумелі непрымальнасць вузка класавай пазіцыі і небяспечнасць атручвання юных душ класавай нянавісцю, варожасцю, удавалася вырвацца з ідэалагічных путаў.

Сярод іх у першыя паслякастрычніцкія гады быў Алесь Гарун. Гэта ён у час братазабойчай грамадзянскай вайны здолеў захаваць чысціню і вышыню маральных пачуццяў і напісаць свае «Жывыя казкі для дзіцячага тэатру» — казкі надзвычай мірныя, гуманістычныя і вясёлыя, звернутыя да дзяцей з адчуваннем таго, што менавіта яны, дзеці, з'яўляюцца неацэнным скарбам і маюць быць шчаслівымі, што літаратура, ім прызначаная, павінна трымацца на чалавечнасці, дабрыні, прыгажосці. Мы дарэмна папракалі аўтара ў абстрактным гуманізме, невыразнасці ідэйных пазіцый — і ў гэтым каемся, — бо наіўна думалі, што класавасць, сацыяльнасць убірае ў сябе ўсю чалавечую мараль, не разумеючы, што ёсць рэчы непераходныя і больш важныя, чым ідэалогія часу.

Здавалася б, ці варта згадваць гэта ўсё, гаворачы пра сённяшнія клопаты літаратуры? Але ж сучасная катастрафічна крызісная сітуацыя і паслякастрычніцкае мінулае — звенні аднаго, моцна закручанага ланцуга.

Суцэльная ідэалагізацыя жыцця і мастацкай свядомасці ператварыла дзіцячую літаратуру (калі мець на ўвазе яе паўсядзённы «вал») у служку хуткаплыннага часу і нарматыўнай педагогікі, адсунуўшы на другі план яе эстэтычную прыроду. У літаратурнай практыцы звычайным стаў такі падыход да мастацкіх твораў, калі крытэрыямі ацэнкі служыць у першую чаргу іх адпаведнасць сацыяльнай догме, выхаваўчай мэце, зразуметай вузка утылітарна і дагматычна, прычым за гэтую адпаведнасць даруюцца і адкрытая павучальнасць, і сумная дэкларатыўнасць, і мастацкая непаўнацэннасць. Ці мала ў нас твораў з такой пячаткай?

Таму, зразумела, вельмі радуешся, калі з'яўляецца твор сапраўды добры, адзначаны аўтарскай своеасаблівасцю, трываласцю жыццёвага і літаратурнага грунту. Я маю на ўвазе аповесць Івана Сяркова «Мы з Санькам — артылерысты...», што выйшла ў свет пазалетась як працяг і завяршэнне папярэдніх дзвюх — «Мы з Санькам у тыле ворага» (1968) і «Мы хлопцы жывучыя»

(1971), якія ў свой час звярнулі на сябе ўвагу крытыкі і чытачоў.

Як бачым, ад першай да апошняй аповесці мінула больш за 20 гадоў. І хаця за гэты час адбыліся непазнавальныя перамены ў жыцці, героі кнігі (ім ужо цяпер па шаснаццаць) застаюцца вернымі сабе, сваёй мастацкай прыродзе, як застаўся верным сабе і сам аўтар: тут тая ж знаёмая стылістыка, той жа почырк, тая ж шчырая, даверлівая, афарбаваная гумарам інтанацыя «Я — героя», з якой ён нязмушана, вясковых дружбакоў, але ён застаецца вяскоўцам па сваёй сутнасці — па псіхалогіі, звычках, мысленню. «Быццам бы тое куранятка, што спазнілася пад квахтуху, а потым з ціўканнем бегае вакол яе і не можа зашыцца пад выратавальнае крыло, так і я пад строгім позіркам афіцэра не магу сабе знайсці месца ў страі», — так апісвае ён свой няўдалы пачатак службы, яшчэ ўвесь ва ўладзе вясковых асацыяцый.

Прыкметна, што ў трэцяй кнізе трылогіі аўтарскае пяро стала больш упэўненым, раз не адбылося. Бадай толькі арышт Санькі выглядае данінай звыклай гераізацыі, супраць якой па сутнасці накіраваны ўвесь твор.

Такі аўтарскі погляд на дзіцячы гераізм у час вайны варта асабліва падкрэсліць, бо дзіцячая літаратура вельмі марудна адмаўляецца ад ахвярна-гераічнай канцэпцыі юнага героя на вайне і з цяжкасцю прыходзіць да ўсведамлення комплексу віны дарослых за знявечаны лёс дзяцінства. Яна доўгі час не хацела заўважаць страшэннай ненармальнасці і трагіз-

**Эсфір ГУРЭВІЧ**

# «Мы з Санькам...», або Развагі на вольную тэму

па-дзіцячы прастадушна і з доляй самаіроніі расказвае пра сябе, не хаваючы сваіх слабасцей і грахоў, ствараючы ў чытача адчуванне праўдзівасці, пераЖытасці, непрыдуманасці таго, што адбываецца. У выніку аповесці, моцна ўзаемазвязаныя аўтарскай задумай, успрымаюцца надзвычай цэласна, як трылогія.

Як і ў папярэдніх кнігах, аўтар выкарыстоўвае такі мастацкі прыём, калі ўсе падзеі і іх удзельнікі падаюцца праз успрыманне, ацэнку, інтэрпрэтацыю героя-апавядальніка, прычым так, што яго свядомасць як бы накладваецца на свядомасць іншых дзеючых асоб, і ад такога сутыкнення розных галасоў ярчэй высвечваюцца і ён сам са сваёй каларытнай характэрнасцю, і тыя, з кім ён уступае ва ўзаемадзеянне. У апошняй кнізе гэты прыём выпрабоўваецца, на наш погляд, з найбольшым мастацкім эфектам.

Вось, напрыклад, як у перадачы Івана выглядаюць думкі камандзіра Асташэўскага пра баявую падрыхтоўку: «Шаснаццаты год мы з Санькам ходзім па зямлі, а толькі цяпер зразумелі, што ходзім не так. **Трэба ж выглядаць арлом, а не мокрай курыцай, трэба нагу на зямлю ставіць цвёрда, а не цягнуць яе, як нежывую... Як птушку па палёту**, так і нас па хадзе людзі павінны пазнаваць здалёк і без формы, нават у цывільнай адзежы; трэба, каб любы і кожны, пабачыўшы нас яшчэ за вярсту, адразу мог падумаць сам сабе: **а то ідзе вайсковы чалавек, адразу відаць афіцэрскую костачку. А мы — э-эх! Дзе нашы грудзі? Не, палкоўнік згарыць ад сораму перад генералам»**. Мы выразна ўлаўліваем тут інтанацыю, логіку, лексіку камандзіра; у асобных мясцінах гэта своеасаблівыя «цытаты», якія ў перапляценні з індывідуальным хлапечым голасам Івана ствараюць двайны гумарыстычны эфект, дадатковыя адценні.

Асаблівы мастацкі эфект дасягаецца тады, калі перакрыжоўваюцца галасы бабулі і ўнука, і хоць на старонках апошняй кнігі яна дзейнічае мала (калі Іван зрэдку прыязджае дамоў), яе прысутнасць, лад яе думак увесь час адчуваюцца. «Як сказала б мая бабка», — вельмі часта спасылаецца Іван на яе мудрасць. У вучылішча ён прыходзіць з засвоенымі ад бабулі вясковай мараллю і духоўным набыткам, з моцным пачуццём сваёй прыналежнасці да вёскі. Няхай для героя пачалося ўжо новае, гарадское жыццё, няхай часам прарываюцца ў яго ноткі пыхлівасці ў адносінах да сваіх а позірк героя — больш вострым і праніклівым. Іван заўважае, да прыкладу, што ў вучылішчы «той гучней гэпае і вышэй падкідвае ногі, у каго меней зорак на пагонах, а ў каго зоркі большыя, той толькі рукой адмахваецца»; ён прыкмячае першыя зародкі варожых, неафіцыйных адносін паміж курсантамі, старшымі і малодшымі, салагамі, як іх зняважліва называюць, — тое, што потым стане небяспечнай і злой хваробай армейскага жыцця; без прыкрасаў расказвае пра незайздроснае становішча пасляваеннай вёскі, калі калгаснікі мусілі працаваць за пустыя працадні. Вось, апавядае Іван, прыходзіць ён як госць дамоў, і бабуля, узрадаваная яго прыходам, «адважылася на яечню». Менавіта «адважылася», бо хлопец ведае, «што такое яйкі» ва ўмовах пасляваеннага калгаснага жыцця. «Не паспеюць куры знесціся, як іх адразу — на базар, каб разжыцца на якую капейчыну. У калгасе ж грошай не плацяць, а на ўсё трэба: і на штаны, і на газу, і на соль. Ды і кожная курыца яшчэ абкладзена падаткам. Ёй трэба нанесці яек не толькі на базар, а яшчэ і дзяржаве, інакш прыйдуць з сельсавета і будуць гразіцца на нядоімку яе апісаць, каб забраць самую».

Так, асобнымі штрыхамі, выразнымі дэталямі высвечваецца праўда часу, ствараецца дакладны малюнак абставін.

Разам з тым працягваецца ў новай кнізе лінія на «дэгераізацыю», зніжэнне героя, пачатая ў аповесці «Мы з Санькам у тыле ворага», дзе падлюбіцкія хлопчыкі Іван і Санька выпрабоўваюцца не чынным удзелам у ваенных падзеях — са зброяй за плячыма, а ў абставінах будзённага жыцця ва ўмовах фашысцкай акупацыі, калі маральная перамога прадвызначалася здольнасцю пераносіць цяжкасці, унутранай гатоўнасцю да подзвігу, арганічным непрыманнем ворага. Сваёй першай кнігай аўтар яшчэ ў канцы 60-х гг. разбураў звыклы стэрэатып дзіцяці-героя на вайне, абавязкова запраграмаванага на подзвіг са зброяй у руках.

Героі Сяркова не зрабілі ніводнага стрэлу, яны пазбаўлены знешніх атрыбутаў гераізму, гучных слоў, эфектных дзеянняў. Аўтар адмовіўся ад прыцягальнага для чытача вострага і дынамічнага сюжэта, ён цвяроза-рэалістычна ацэньвае магчымасці дзяцей і часам ідзе нават на палемічнае, гумарыстычнае зніжэнне вобразаў, пра што сведчыць, напрыклад, расказ Івана пра тое, як ён паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна: геройства на гэты му становішча, калі ў крывавай барацьбе разам з дарослымі клалі свае юныя жыцці дзеці, і з гэтым маўкліва мірыліся. Быццам бы мала было забраных вайной дарослых, колькасць якіх яшчэ да гэтага часу канчаткова не падлічана! Вельмі ж доўга нас усіх выхоўвалі ў духу ахвярнасці, прызвычаіўшы да абясцэньвання жыцця, свайго і чужога, нават дзіцячага: «Мы за ценой не постоим...»

Тое, што цана Перамогі была занадта дарагая, дзіцячая літаратура пачала разумець з вялікім спазненнем. Таму варта прыгадаць тут новую аповесць А. Шлега «Тайна Чорнага бору», дзе загучаў тужлівы матыў віны дарослых перад дзецьмі, і гэта ўспрымаецца як адзін з сімптомаў даўно жаданых зрухаў у літаратуры. У аповесці маці дваіх дзяцей (з якіх старэйшы воляю абставін уцягнуўся ў партызанскую вайну), трапіўшы разам з дзецьмі ў небяспеку і чакаючы смяротнага зыходу, усведамляе ўсю непазбыўную віну сваю перад імі, асабліва перад старэйшым, што не змагла ахаваць іх, перасцерагчы, падставіць замест іх свае плечы, свае грудзі, сваю галаву. «...Хто, як не яна, вінавата ў тым, што яго мучылі, як дарослага, на допытах? Яна ж ведала, што ён шмат хадзіў на заданні, але ні разу не спыніла яго, не затрымала, не забараніла яму. Ці ж не яна вінаватая ў тым, што Вася і Генка зараз сядзяць на гэтых санях? Якая б маці дазволіла сабе соваць галаву ў пятлю і цягнуць у яе сваіх дзяцей?.. Дык не, бач, сама палезла не ў сваю, не ў жаноцкую справу...».

Але вернемся да кнігі «Мы з Санькам — артылерысты...». На матэрыяле мірнага жыцця тут працягваецца лінія на «дэгераізацыю». Прыкметна ўзмацняецца самаіронія героя-апавядальніка. Можна заўважыць, як мяняюцца ролямі нашы неразлучныя сябры Іван і Санька. Калі раней апошні часцей за ўсё гумарыстычна падсвечваў першага — абавязкова дзе-небудзь наб'е сабе гуз, — то цяпер няўдачы абрушваюцца на Івана: яго спачатку не прынялі ў вучылішча (бо напісаў дыктант на двойку), ён атрымлівае нарады па-за чаргой і трапляе ў розныя няёмкія сітуацыі. А Санька... Санька набывае сабе ўсё большы «рэйтынг», як зараз модна гаварыць: ён ужо носіць лычкі малодшага сяржанта, а галоўнае, пачынае пісаць вершы, да яго прыходзіць слава паэта — на ўсё вучылішча. Відаць, аўтар перадаў свайму вернаму сябру ўласнае захапленне прыгожым пісьменствам. Наогул апавядальнік без літасці развенчвае сябе: ён, аказваецца, трохі хвалько, часам можа і пасялянску схлусіць, схітраваць, выкарыстаць з выгадай сваю маленькую ўладу, але самараскрыццё, падсвечанае гумарам, шчырасць і адкрытасць выклікаюць да героя давер і сімпатыю, і ў выніку адчуваецца псіхалагічная выверанасць вобраза. Аўтар засведчыў плённасць традыцыі, блізкай — па стылістыцы, тыпе псіхалагізму, гумару — лынькоўскай, што бліскуча ўвасобілася ў «Міколку-паравозе». Традыцыйная літаратура, замацоўваючы сувязь часоў, пацвярджае сваю трываласць і невычэрпнасць і ў новы час, заўсёды адкрыты для смелых і дзёрзкіх пошукаў.

І ўсё ж, прачытаўшы згаданыя аповесці І. Сяркова адну за другой, падумалася: а ці не варта падняць вышэй планку патрабавальнасці? Працэс удасканалення ж — бясконцы. Ці можам мы сказаць, што пісьменнік, ідучы ў рэчышчы традыцыйных формаў, выкарыстаў у поўнай меры магчымасці, якія ёсць у яго для мастацкага пошуку і самаруху, самаабнаўлення? У прыватнасці, што можна сказаць пра такую немалаважную яго здольнасць, як уменне маляваць героя праз саманазіранне, самапазнанне, самараскрыццё?

У сваёй першай кнізе аўтар у сцэне смерці маці Івана, калі той перажывае вялікае душэўнае ўзрушэнне, смела ўжываў прыём «раздваення» ў дачыненні да дзіцяці: «Мне здаецца, што я — гэта зусім і не я, а хтосьці пабочны». Можна было чакаць далейшага руху пісьменніка ў глыб душы героя, бо наступныя яго кнігі прызначаны для старэйшых дзяцей. Аднак у аповесці «Мы з Санькам артылерысты...» аўтар чамусьці самаабмяжоўваецца: позірк героя накіраваны вонкі, а не ў сваё ўласнае «я». «Задумаешся, але не вельмі, няма часу доўга думаць», — заўважае ён, як бы адмахваючыся ад нязвыклага для сябе занятку. А ці варта адмахвацца? Чаму не даць герою задумацца, зазірнуць у глыбінныя пласты свядомасці і падсвядомасці, у тайнае тайных дзіцячай душы? Але стоп! Тут я выразна чую катэгарычнае «не» апанентаў і іх перасцярогу: навошта «задарослівацъ» дзіцячую літаратуру, навязваць нешта неўласцівае ёй? Аднак спрэчка гэтая, — яшчэ даўняя, застарэлая, яна 20-х гадоў. І бачыцца мне ў ёй знаёмая ідэалагічная падкладка.

Але ж як, спытаю, выхаваць развітую індывідуальнасць, асобу без таго, каб не прывучаць дзіця рознымі сродкамі мастацтва (гэта неабавязкова плынь свядомасці) углядацца ў сваё «я», прыслухоўвацца да сваіх пачуццяў і перажыванняў, як інакш стымуляваць самарух юнай асобы, яе імкненне да самапазнання, самавызначэння, самаўдасканалення? У мастацкай жа літаратуры для гэтага невычэрпныя магчымасці!

Гаворка ідзе не столькі аб перадачы мысліцельнага працэсу, колькі аб глыбіні псіхалагічнай прасторы твора наогул, аб працы душы героя, аб багацці яго эмацыянальнага жыцця, якое ўмяшчае ў сабе няспынную барацьбу пачуццяў, што заўсёды папярэднічае маральнаму выбару, перад якім пастаянна стаіць чалавек, юны таксама. А душэўнае багацце ў канчатковым выніку — залог багацця духоўнага. Дзіця павінна вучыцца размаўляць з самім сабой, адчуваць прыгажосць, асалоду «думання».

## ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# РАССТРАЛЯНЫ СТАЛІНІСТАМІ...




**«Лёс настоены на палыне...» Гэтыя словы вядомай песні як нельга лепш стасуюцца да жыцця паэта Сяргея Фаміна, аднаго з тых, хто ў сваіх вершах шчыра славіў Кастрычнік, апяваў новае жыццё. Але сталася менавіта так, што людзі, якія прыкрываліся ідэямі рэвалюцыі, яшчэ 4 студзеня 1935 года кінулі яго за краты, абвінавацілі ў стварэнні контррэвалюцыйнай групы. Праз чатыры месяцы паэт быў прыгавораны спецыяльнай калегіяй Вярхоўнага суда БССР да расстрэлу. Праўда спачатку прыгавор замянілі на дзесяць гадоў пазбаўлення волі. Аднак у 1941 годзе адбыўся другі суд і 4 снежня таго ж года С. Фаміна не стала.**

**Доўгі час пра паэта чытачы мала ведалі. І не дзіўна. Паэма С. Фаміна «Балота» выйшла яшчэ ў 1927 годзе, у «Анталогіі беларускай паэзіі» (1961, том 2) змешчаны толькі асобныя вершы. Цяпер імя С. Фаміна, дзякуючы намаганням яго земляка Георгія Юрчанкі, вернута з небыцця. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла зборнік «Дымнае жыта» з прадмовай Г. Юрчанкі «З Беларуссю заручоны». Змешчаны вершы, згаданая паэма «Балота» і ўрывак з паэмы «За новыя дні», а таксама пераклады з украінскай мовы вершаў У. Сасюры.**

**Перачытваеш вершы С. Фаміна і быццам увачавідкі паўстае перад табой адзін з тых, хто прыйшоў у літаратуру, дзякуючы абуджальным працэсам у жыцці грамадства. У многім ён падобны да іншых паэтаў, што пачыналі пісаць у першыя гады савецкай улады (С. Фамін друкаваўся ў часопісах «Маладняк», «Полымя», «Маладняк Барысаўшчыны» з 1925 года). Як і многія яго аднагодкі, любіў творчасць С. Ясеніна і імкнуўся пераймаць яго матывы: «Пацалункамі вытку «люблю» па канве тваіх шчок загарэлых». Як і многія, рэвалюцыйныя падзеі суадносіў з уласным лёсам, прамаўляючы вуснамі лірычнага героя: «Мяне жыццё агнём пацалавала, каб у жыцці я заўжды мог гарэць!». Як і многія, канечне ж, не мог адысціся ад нечаканых вобразаў: «Пакаціліся ў гай адгалоскі, спевам бор бараду ўзварушыў... Ой! чаму зазвінелі бярозкі, адгукнуліся песняй ў душы?..»**

**Як усе... Але — гэта Паэт. Як сведчыць Г. Юрчанка, тагачасныя крытыкі, у тым ліку і М. Гарэцкі, у вершах С. Фаміна адзначалі «тонкае адчуванне верша, адшліфаванасць паэтычных радкоў, іх плаўнасць, мілагучнасць, дасканалае валоданне словам». Безумоўна, ён змог бы шмат сказаць у беларускай паэзіі. Змог бы! Ды не забывайма, што лёсам С. Фаміну на творчасць было адпушчана толькі няпоўных дзесяць гадоў. Прынамсі, апошні верш «Красавік», дарэчы, упершыню апублікаваны ў «ЛіМе», датуецца 1934 годам. Праўда, у зборнік трапіла яшчэ колькі вершаў С. Фаміна, але яны ўжо напісаны па-руску, напісаны там, дзе і пісанне па-беларуску дорага абыходзілася.**

**Зборнік ілюстраваны. Асабліва ўражвае лагерны здымак С. Фаміна. Зарослы твар, упалыя шчокі. На зваротным баку пазначана: «Прыгавор прывесці ў выкананне 4 снежня 1941 года ў 01 гадз. 06 мінут».**

**Паспяшайцеся купіць «Дымнае жыта». Наклад жа кнігі вельмі малы — усяго 850 асобнікаў.**

**А. АН-ЕВІЧ.**



*Ян Скрыган*

# МУЗА

*апавяданне*

Я так доўга жыў у Сібіры, што мог лічыць сябе сібіраком. Раённы цэнтр, дзе больш за ўсё давялося бавіцца, ляжаў у плоднай раўніне паміж невысокіх узвышшаў, якія надзейна засцерагалі яго і ад лютых марозаў узімку, і ад шалёных вятроў улетку. Як у кожным прыстойным мястэчку была ў ім і свая шырокая цэнтральная вуліца, на якой мясціліся бадай што ўсе галоўныя ўстановы—райвыканком, райкомы партыі і камсамола, райфінаддзел, міліцыя, усякія раймагі.

Што яшчэ было ў нас знакамітае, дык гэта клуб, перароблены з муравапай вялізнай царквы, так што хапала яму і віду, і гмаху, і саліднасці. На шырокі брукаваны пляц перад ім звычайна заходзіў увесь раённы транспарт: і аўтобусы, і конныя фурманкі з папаскаю, каб што прывезенае прадаць: сталярку, бандарку ці жыўнасць.

Само сабою, што ў цэнтры мясцілася і сталоўка, вядомая на ўвесь раён, бо хто б ні прыязджаў у цэнтр, без гэтай установы не абыходзіўся.

Была і яшчэ адна ўстанова, якой не магу каб не ўпомніць. Мясцілася яна трохі збоку ад галоўнай вуліцы, але яе таксама ведалі ўсе, і звалася яна райкамунгасам. Апроч местачковага жыллёвага фонду, меў ён і сваю прамысловую гаспадарку: лазню і паравік. Лазня працавала па пятніцах і суботах, а паравік пыхкаў штодня: малоў завезнікам муку, абдзіраў крупы, пілаваў дошкі і брус.

У райкамунгасе я рабіў бухгалтарам. Чакаў, што павінна прыехаць сям'я, а пакуль што харчаваўся таксама ў сталоўцы.

Была ў ёй свая, нейкая асаблівая мілата, і кожны бачыў, што мілата гэтая ішла ад самой загадчыцы Музы. Першае, што была яна надзіва прыгожая. Не толькі нейкім прыдатным, умеркаваным ростам, постаццю, а — тонкім, нейкім вельмі спакойным і разам з тым праніклівым тварам, які прымушаў вас зноў і зноў цішком зірнуць на яе. Нечакана вам пачынала здавацца, што неспадзяванай вабнасці пярэчыць залішняя строгасць. Але гэтая насцярога тут жа знікала, калі яна з кім гаварыла. Наадварот, вас дзівіла непасрэднасць і шчырасць яе даверлівасці.

Другое, што дзівіла таксама адразу — ужо не яна, а стыль работы гэтай установы. Літаральна свой, неспадзяваны. Парадак. Прадуманасць. Мэтазгоднасць. І, можа, самае нечаканае: што рабочае месца самой загадчыцы было тут жа, у зале сталоўкі. Не ў кухні, з кухарамі і афіцыянткамі, а ў зале сталоўкі, навідавоку, каб яна бачыла і людзей, што тут бываюць, і ўвесь свой парадак. Яна сама магла падаць талерку ці шклянку, калі хто меў у тым патрэбу, нешта на хаду падказаць афіцыянтцы, а самае галоўнае — бачыць усіх людзей, што тут гасцююць, і сачыць, каб усім было добра, прыветна і гасцінна.

Гэтак яна была выхавана. Добрымі людзьмі. Адзін з іх нават стаў яе мужам. Праўда, цяпер не верыцца, што гэта быў ён. Аказваецца, найлепшым настаўнікам усё ж бывае само жыццё. А людзі могуць мяняцца.

Гэтак сталася і з яе мужам, строга партыйным чалавекам. За гады свайго замужоўства яна не перастае дзівіцца, да чаго ён перамяніўся. Быў жа і просты, і чулы, і ласкавы. І справядлівы. Няўжо ж у тым вінаваты пасады, якія ён займаў? Усё большыя і важнейшыя? Асабліва цяперашняя — першага сакратара райкома. Здавалася б, што чым большая ці адказнейшая пасада ў чалавека, то гэта ж і большая разумнасць, і большая сардэчнасць. І большая шляхетнасць душы. Не сказаць, каб гэтакіх якасцей у яго не было, яна іх добра памятае, яны вылучалі яго над другімі, але... Час і пасады — толькі яны паклалі на яго сваю верхавенскую пячаць.

Ды калі б гэта абыходзілася толькі службаю, то кадук яго забяры, можна было б не чуць і не бачыць гэтага. Але ж службовая фанабэрыя кладзецца і на сям'ю. Раптам яму стала не па душы, што колішнія сяброўкі з Атаманава, дзе яна расла, сябравала, камсамоліла, цяпер, бываючы ў мястэчку, забягаюць да яе, і яна цэлымі днямі бавіцца з імі. А з райкомаўскімі работніцамі ні знаёмства,

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЯК «ЗБЕРАГЧЫ І ПАМНОЖЫЦЬ»?

**Пэўна, не ўсе з нашых прапаноў з нагоды публікацыі ў «ЛіМе» артыкула «Зберагчы і памножыць» (1 лістапада 1991 г.) можна будзе прыняць, але, як нам здаецца, у іх ёсць рацыянальнае зерне.**

**Безумоўна, на сённяшні дзень раздзел аб «Эканамічным забеспячэнні дзейнасці па зберажэнні, аднаўленні і памнажэнні гісторыка-культурнай спадчыны» —гэта, бадай, самы важны раздзел, ніхто не будзе аспрэчваць таго, што на рэстаўрацыю гістарычных помнікаў патрабуюцца грошы, а не прыгожыя словы. «Дадзены законапраект прадугледжвае фінансаванне аховы і зберажэння спадчыны коштам дзяржаўных выдаткаў, сродкаў фонду зберажэння і аднаўлення гісторыка-культурнай спадчыны, сродкаў уласнікаў ці карыстальнікаў каштоўнасцей і кампенсацый за шкоду, прычыненую каштоўнасцям». З гэтай цытаты вынікае, што галоўны разлік робіцца на дзяржаўнае фінансаванне. Але, прабачце, якіх сродкаў можна будзе чакаць ад урада, калі і раней гэтыя грошы былі мізэрнымі, а зараз, у час чэргаў па хлеб і малако, сума выдаткаў набудзе чыста сімвалічны характар. Не, мы не заклікаем адмовіцца ад гэтых грошай, але павінны быць адшуканы і іншыя крыніцы фінансавання, чым пустая скарбніца дзяржавы і спадзяванні на кампенсацыі «за шкоду, прычыненую каштоўнасцям».**

**На наш погляд, для ратавання спадчыны ў сучасных эканамічных умовах неабходна ўвесці працэнт (яго памеры вырашыць камісія) адлічэння сродкаў ад прыбытку шоу-індустрыі на Беларусі. (Маюцца на ўвазе канцэрты і іншыя відовішчы).**

**Справы ў гэтых галінах масавай культуры—параўнальна добрыя. Таму працэнт адлічэнняў не напалохае выканаўцаў з-за мяжы рэспублікі, бо беларускі музычны і відовішчны рынак не насычаны такога роду прадукцыяй. Працэнт адлічэння не распаўсюджваецца на беларускамоўных выканаўцаў. (Яны могуць рабіць гэта добраахвотна).**

**Увесці працэнт адлічэння сродкаў ад грашовага звароту камерцыйных аўкцыёнаў, торгаў, кірмашоў і г.д.—на тэрыторыі Беларусі. Памеры працэнта не павінны быць перашкодай для развіцця рыначных адносін і гандлёвых сувязей.**

**Неабходна прыцягнуць уласны і замежны капітал для пашырэння палітыкі турыстычнага прадпрымальніцтва. Нават і сёння Беларусь мае дастаткова цікавых гістарычных помнікаў і комплексаў. Гародня, Нясвіж, Малое Мажэйкава, Сынкавічы, Мірскі замак, Жыровічы, Ліда, Наваградак, Віцебск, Полацк, іншыя гарады і мястэчкі могуць скласці Беларускі «залаты круг». Не меншую цікавасць для замежных і айчынных турыстаў могуць займець добра арганізаваныя вандроўкі па Падзвінні, Панямонні, Паазер'і—мясцінах непаўторнай прыроды, шматлікіх помнікаў гісторыі. Дзеля гэтага трэба распачаць кантакты з замежнымі рэкламнымі і турыстычнымі фірмамі, зацікаўленымі асобамі, якія б здолелі фінансаваць рэстаўрацыю гістарычных помнікаў, пабудову абслугоўваючых комплексаў (невялікія гатэлі, харчэўні), дапамаглі б з рэкламай у заходнееўрапейскіх краінах. З беларускага боку павінны быць распрацаваны экалагічна - захавальныя праграмы і метады выкарыстання гістарычных і прыродных помнікаў у якасці аб'ектаў турызму, сэрвіснае забеспячэнне. Пытанне аб дывідэндах будзе вырашацца двухбакова. Да таго ж, трэба адзначыць, што большасць гісторыка-культурных і прыродных комплексаў не пацярпела ад радыяцыі.**

**Як і прадугледжана ў праекце «Закона...», да развіцця турыстычна-аднаўленчага прадпрымальніцтва трэба «заахвочваць ільготным крэдытаваннем і падаткаабкладаннем».**

**Грашовыя (у тым ліку валютныя) сродкі, атрыманыя такім чынам, значна дапамогуць у аднаўленні і захаванні ўсіх гісторыка-культурных помнікаў на Беларусі.**

**Непасрэдна зараз, зыходзячы з мэт раздзела («Зберажэнне і аднаўленне гісторыка-культурных каштоўнасцей»), неабходна давесці да кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, іншых гаспадарчых устаноў інфармацыю аб гістарычных помніках, што знаходзяцца на іх тэрыторыі, з паведамленнем мер адказнасці, прадугледжаных 6-ым раздзелам («Адказнасць за парушэнне заканадаўства аб ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны»).**

**Неабходна таксама пашырыць археалагічную разведку ў рэспубліцы з мэтай фіксацыі раней невядомых помнікаў. Гэта дазволіць пры выкананні папярэдняга пункта спыніць «непрыкметнае» знішчэнне помнікаў гісторыі і археалогіі.**

**Археалагічная разведка патрабуе параўнальна невялікіх грашовых выдаткаў, таму яе аб'ём можа быць павялічаны ўжо ў наступным палявым сезоне.**

**І яшчэ адно. Беларускія археолагі абавязаны засяродзіць сваю ўвагу на помніках ужо пацярпелых, паўразбураных, нават калі гэта і пярэчыць іх асабістым навуковым інтарэсам.**

**Спадзяёмся на аб'ектыўны разгляд нашых прапаноў.**

**Уладзімір ЛАБАЧ,**
**Марат КЛІМАЎ,**
**студэнты гістфака БДУ.**

**Вечнае, заўсёды вечнае. Пушкінскае «Застолле пад час чумы» да жудасці адпаведна кладзецца на чарнобыльскую катастрофу.Толькі ўжо—застолле пад час атамнае чумы.**

**У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць двухтомнік твораў вялікага паэта Расіі. Перакладчыкі — ад М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа і да сучасных паэтаў — імкнуліся годна перадаць на беларускай мове гучанне пушкінскіх радкоў. «Застолле пад час чумы», якое сёння змяшчае штотыднёвік, пераклаў Рыгор БАРАДУЛІН.**

**Аляксандр ПУШКІН**

# Застолле пад час чумы

**З вільсанаўскай трагедыі «The city of the Plague»[1]**

Вуліца. Устаўлены стравамі стол. Некалькі мужчын і жанчын балююць.

**Малады чалавек**

Шаноўны старшыня! Я нагадаю
Пра чалавека, што вядомы нам,
Чые здарэнні смешныя і жарты,
І вострыя адказы і заўвагі
Насмешныя ў іх важнасці пацешнай,
Застольную бяседу ажыўлялі
І разганялі змрок, што злосна сёння
Зараза, наша госця, насылае
На самыя разумныя галовы.
Два дні назад агульны рогат славіў
Яго распавяданні, немагчыма,
Каб мы ў сваім вясёлым баляванні
Забылі Джаксана. Яго тут крэслы
Стаяць пустыя, быццам бы чакаюць
Веселуна — ды ўжо ён адыйшоў
У стылыя падземныя гасподы...
Хоць і язык ягоны красамоўны
Паволі моўк у праху дамавіны;
Але жывых нас шмат яшчэ, і нам
Няма прычыны смуткаваць. Таму
Я прапаную ў гонар яго выпіць
З вясёлым звонам чарак, з выгуканнем,
Як бы ён быў жывы.

**Старшыня**

Пакінуў першы
Ён кола нашае, хай у маўчанні
Ў ягоны гонар вып'ем.

**Малады чалавек**

Будзе та
Усе выпіваюць моўчкі.

**Старшыня**

Твой голас, любая, выводзіць гукі
Нам родных песень з дзікім
дасканальствам;
Спяі нам, Мэры, сумна і працягла,
Каб мы вярнуліся да весялосці
Вар'ятамі, як той, хто ад зямлі
Адлучаны быў нейкаю праявай.

**Мэры**

(пяе)

А было яно — ад згоды
Наша старана цвіла:
У нядзелю, як заўсёды,
Поўная царква была;
І звінелі ў шумнай школе
Нашых дзетак галасы,
І мігцелі ў светлым полі
Серп з касою наўскасы.
А цяпер царква спусцела;
Школу зачыніў адчай;
Ніва марна пераспела;
У самоце цёмны гай;
Як жытло, што без правіны
Спалена, сяло стаіць, —
Ціха. Могільнік адзіны
Не пусцее, не маўчыць.
Штохвіліны мёртвых носяць,
Стогны лютыя жывых
Баязліва бога просяць
Супакоіць душы іх.
Месца трэба штохвіліны,
І магілы між сабой
Цicнуцца на дамавіны
Спуджанаю чарадой!

Калі ранняя магіла
Суджана маёй вясне —
Ты, каго я так любіла,
Хто ў мілосці ўцеха мне, —
Ты да цела не памкніся
Любай Джэні ні на крок,
Вуснаў змёрлых не дакніся,
Ўслед за ёй ступай здалёк.
І пакінь сяло чужое!
І знікай абы-куды,
Дзе б ты мог ажыць душою,
Адпачыўшы ад бяды.
Як міне чума, ў сцішэнні
Прах наведай мой; ані
Не забыць Эдмонда Джэні
І ў нябеснай вышыні!

**Старшыня**

Мы дзякуем, задумлівая Мэры,
Мы дзякуем за жаласную песню!
І ў даўніну, відаць, чума такая ж
Наведала пагоркі, долы нашы,
І чуліся пакутлівыя стогны
Па берагах патокаў, ручаёў,
Што прабягаюць мірна і вясёла
Праз дзікі рай тваёй зямлі ўлюбёнай;
І змрочны год, што гэтулькі прысвоіў
Ахвяраў мужных, добрых і прыгожых,
Наўрад пакіне памяць па сабе
У нейкай простай пастухоўскай песні,
Самотнай і прыемнай... Не, нішто
Так не маркоціць нам між весялосці,
Як млосны гук, што сэрца паўтарае!

**Мэры**

О, калі б я ніколі не спявала
Не ў хаце сцішанай бацькоў маіх!
Яны сваю любілі слухаць Мэры;
Я слухаю сама сябе, здаецца,
Спяваючы ля роднага парога.
Мой голас саладзейшы быў тады:
Быў голасам нявіннасці...

[1]) чумны горад (англ.).

ні дружбы ў яе няма... І потым — гэтая пасада загадчыцы сталоўкі, вельмі ж залішняе слугаванне на віду ў людзей...

— Не вельмі трэба, каб усе бачылі, як ты там усім слугуеш... Тым больш, што, кажуць, ты нават фіранку з дзвярэй у бакоўку зняла, няхай усе бачаць, хто там бывае. А туды ж заходзяць і нашы людзі, я ведаю, што не без чаркі... Няўжо ж ты гэтага не разумееш? Ці, можа, робіш знарок?..

— Вадзім, дарагі, — сказала яна мужу,— у чым жа тут ганьба? У мяне ёсць кніга водгукаў, я табе дала б пачытаць іх, калі б ты захацеў... Бачу я, што цябе турбуе нешта другое: што тваю жонку усе бачаць на чарнавой рабоце, разам з усімі. Якая ж тут ганьба?.. Здаецца мне, што ты турбуешся не за мой гонар, а за свой. Што сярод маіх сябровак і знаёмых нікога няма з райкомаўскага актыву. Але дазволь жа і мне распараджацца сабою так, як навучыла мяне жыццё.

— Муза!..

— Я разумею цябе, Вадзім. Мая работа вельмі замінае і твайму аўтарытэту, і тваёй службе. Калі хочаш ведаць, то мяне гэта таксама трывожыць... Але ні ў чым я папраўляць сябе не магу. І не буду.

І праўда, свайго парадку ў сталоўцы яна ні на кропельку ні ў чым не парушыла. Адно, што вельмі відно стала: цэлымі гадзінамі яна сядзела ў зале ў сталовай у сваім крэсле моўчкі, задумаўшыся, нікога не бачачы. І дадому з работы ішла самая апошняя, як бы нехаця.

Трэба сказаць, што месяцы два таму назад у нашай сталоўцы паявіўся не зусім звычайны сталавальнік. Мужчына сярэдніх гадоў, інтэлігентнага выгляду. Гэта быў галоўны інжынер камбіната будаўнічых матэрыялаў, які будаваўся кіламетраў за пяць ад мястэчка. Наслуханы пра нашу сталоўку самай лепшай хвалы, ён і прыкаціў аднаго разу на разведзіны ў лёгкай каламажцы, запрэжанай буланым каньком. І з таго разу кожны дзень акуратненька прыязджаў к другой гадзіне дня. Буланаму, не распрагаючы, на гэты час падкідаў ахапак сена або навешваў на морду ў торбе аброку, а сам ішоў у сталоўку. Там, у куточку, аблюбаваў ён сабе месцейка, выгаднае тым, што яно было ціхае. Столік стаяў невялікі, круглы, чорна-блішчасты, разлічаны на два месцы. Але звычайна ніхто другі сюды не падсаджваўся, бо на другім крэсле новы сталавальнік клаў свае рэчы — ці то партфелік, ці шапку.

Новага наведвальніка ў нас ніхто не ведаў, і таму хадзілі пра яго ўсякія чуткі. Што ён далёка з Расіі, што сюды прыехаў не па сваёй ахвоце, усё роўна як сасланы ці што. Ці проста не спрацаваўся са сваім начальствам і з'ехаў у Сібір. Другія, наадварот, сцвярджалі, што ён не толькі спрактыкаваны, а вучоны інжынер, і прысланы на нашу будоўлю таму, што яна вельмі адказная.

Між тым прайшоў пэўны час, у сталоўцы ўсе ціха прывыклі і да яго маўклівасці, і да акуратнасці. Куды больш нас цікавіла сямейная бяда загадчыцы Музы. Яна была як аглушаная, усё рабіла моўчкі, або надоўга застывала ў сваім крэсле, пра сваю бяду ні з кім гаварыць не хацела.

Усе гэта бачылі і перажывалі таксама моўчкі. У тым ліку, здаецца, і сталавальнік. Звалі яго Казімір Мікалаевіч. І вось ён папрасіў, каб Муза падышла да яго століка. З запаснога крэсла ён прыбраў сваю шапку, жэстам папрасіў сесці. Яны гаварылі ціха і доўга. Было відаць, што хваляваліся, асабліва Муза. Яна з нечым не згаджалася, то замаўкала, то горача пярэчыла. Можна было разумець, што гаворка ішла ў іх важная. І не лёгкая.

Сустрэліся яны і назаўтра.

А дзён праз два Муза прыйшла на работу недзе пад поўдзень. І прынесла невялікі хатуль, увязаны ў даматканую лёгкую посцілку. Можна было здагадацца, што ўвязаны былі жаночыя строі і пасцельная бялізна.

Як заўсёды ў сваю пару паявіўся Казімір Мікалаевіч. Ён кіўнуў галавою Музе. Убачыў хатуль, яшчэ раз ухвальна кіўнуў галавою.

...У каламажцы яны селі поруч. Наперадзе ляжаў хатуль. Муза папрасіла, каб Казімір Мікалаевіч праехаў паўз райком партыі. Там яна зайшла ў пакой да тэхнічнай сакратаркі Веры, дастала з рыдыкюля партбілет і палажыла яго на стол. Сакратарка здзіўлена ўзняла на яе вочы.

— Я выходжу з партыі,—сказала Муза.— Вельмі прашу перадаць гэта Вадзіму Пятровічу.

**Луіза**

Не ў модзе
Цяпер такія песні! Ды яшчэ
Ёсць душы простыя: і растаюць
Ад слёз жаночых, слепа вераць ім.
І ўпэўнена: яе пагляд слязлівы
Усіх бярэ ў палон — а як бы тое ж
Пра смех свой думала, ды, пэўна, ўсе б
Цвілі ва ўсмешках. Вальсінгам хваліў
Крыклівых прыгажунь паўночных: вось
Яна й зайшлася стогнам. Ненавіджу
Я валасоў шатландскіх жаўцізну.

**Старшыня**

Паслухайце: я чую стукат колаў!

Едуць драбіны, напоўненыя мёртвымі целамі. Кіруе негр.

Луізе блага; думаў, што яна,
Яе паслухаўшы, з мужчынскім сэрцам.
Ды — жорсткі за пяшчотнага слабейшы,
І страх жыве ў душы, дзе страсць канае!
Ей, Мэры, пырсні ў твар вадой.
Ей лепей.

**Мэры**

Сястра маёй маркотнасці і ганьбы,
Прыляж на грудзі мне.

**Луіза**

(апрытомневаючы)

Жахлівы дэман
Прысніўся мне: ўвесь чорны, белавокі...
Ён зваў мяне ў свае драбіны. Там
Ляжалі мёртвыя — і спрабавалі
Няўцямна нешта ў жудасці казаць...
Скажыце мне: ці я сасніла гэта?
Праехалі драбіны?

**Малады чалавек**

Ну, Луіза,
Вясёлай стань — хоць вуліца ўся наша
Маўклівае прыстанішча ад смерці,
Прытулак раўнадушнага разгулу,
Ды ведай, гэты чорныя драбіны
Цяпер паўсюдна маюць права ездзіць.
Мы іх павінны прапускаць! Паслухай,
Ты, Вальсінгам: для супынення спрэчак
Ldамскіх страт прытомнасці спяі
Нам песню, вольную, жывую песню,
Натхнёную не жальбаю шатландскай,
Дай нам пачуць вакхічны люты спеў,
Народжаны за чараю кіпучай.

**Старшыня**

Такой не ведаю — спяю вам гімн,
Прысвечаны чуме — пісаў яго,
Як мы рассталіся, мінулай ноччу.
Да рыфмаў дзіўная найшла ахвота
Упершыню ў жыцці. Я слухаць папрашу:
Ахрыплы голас мой пасуе песні.

**Шмат хто**

За гімн чуме! паслухаем яго!
За гімн чуме! чароўна! bravo! bravo!

**Старшыня**

(пяе)

Калі магутная Зіма,
Як правадыр, вядзе сама
На нас калматыя дружыны
Сваіх снягоў і маразоў, —
Насустрач ёй трашчаць каміны,
Вяселіць хмель гарачых слоў.

●

Царыца грозная, Чума
Цяпер ідзе на нас сама
Жніва багатага ятроўкай;
І ў шыбіну ўдзень і ўначы
Магільнай грукае рыдлёўкай...
Што нам рабіць? чым памагчы?

●

Як ад сваволыніцы Зімы,
Запрэмся так і ад Чумы!
Нальем паўней, агні запалім,
Мазгі вясёла ўтопім мы,
Забыўшыся на ўсё за балем,
Уславім царства злой Чумы.

●

Ёсць смага радасці ў баі,
На краі змрочнай прорвы, і
Ў разлютаваным акіяне,
Між хваль, дзе рушацца грамы,
І ў аравійскім акіяне,
І ў ціхім подыху Чумы.

●

Усё, усё, дзе смерць не спіць,
У сэрцы можна запаліць
Здзяйсненне ўцешнага жадання —
Бяссмерце, можа быць, на міг!
Шчаслівы, хто між хвалявання
Мог набываць і ведаць іх.

●

І так, — хвала табе, Чума,
Дол цемрай грозіцца дарма,
Не смуціць нас тваё прызванне!
Бакалы пенім дружна мы,
Красуні-ружы п'ем дыханне, —
Магчыма... поўнае Чумы!

Уваходзіць стары святар.

**Святар**

Бязбожны баль, бязбожныя вар'яты!
Вы піяўствам і песнямі распусты
Тлуміцеся над змрочнай цішынёй,
Паўсюль раскіданай уладнай смерцю!
Я паміж слёз і жахаў на хаўтурах,
Між бледных сценяў на кладах малюся,
А вашы ненавісныя ўхваленні
Бянтэжаць цішу дамавін — і дол
Над целамі памерлых скаланаюць!
Калі б маленні жонак і старых
Не асвянцілі смерць агульнай ямы,—
Падумаць мог бы я, што зараз чэрці
Пагіблы дух бязбожніка шматуюць
І ў апраметную са смехам цягнуць.

**Некалькі галасоў**

Пра пекла кажа па-майстэрску ён!
Праходзь, стары! праходзь сваёй дарогай!

**Святар**

Я заклінаю вас святой крывёю
Ратаўніка, распятага за нас:
Вычварны баль перапыніць, калі
Жадаеце ў нябёсах напаткаць
Каханыя ад вас забраных душы,
Ідзіце па сваіх дамоўях!

**Старшыня**

Нашы
Дамоўі ў смутку — радасць з маладымі.

**Святар**

Ты гэта, Вальсінгам? Ты самы той,
Хто тут таму тры тыдні, на каленях,
Рыдаючы, труп маці абдымаў,
З адчаем біўся над яе магілай?
Ці думаеш, яна цяпер не плача,
Не плача горка і ў святых нябёсах,
На сына гледзячы, што ў балях гіне,
Ў руках распусты, чуючы твой голас,
Што песні ашалелыя спявае
Паміж мальбой святой і ўздыхаў цяжкіх?
Ідзі за мной!

**Старшыня**

Нашто прыходзіш ты
Мяне трывожыць? Не магу, не мушу
Ісці з табой: мяне трымаюць тут
Адчай глухі і жудасць успаміну,
І ўсведамленне немачы маёй,
І ўся жахлівасць той пустэчы мёртвай,
Што сустракаю я ў маім дамоўі —
І навіна шалёнага разгулу,
І ўдзячная атрута гэтай чары,
І ласкі (хай жа бог даруе мне)
Памерлага, ды мілага стварэння...
Не выклікае матчын цень мяне
Адсюль, — бо позна, чую голас твой,
Мяне ён кліча, — прызнаю старанні
Ўратаваць... стары, ідзі ў спакоі;
Праклён таму, хто пойдзе за табой!

**Шмат хто**

Bravo! bravo! шаноўны старшыня!
Вось казань і табе! ідзі! ідзі!

**Святар**

Цябе ён кліча, чысты дух Матыльды!

**Старшыня**

Кляніся ж мне, з паднятай да нябёсаў
Знямоглай, бледнаю рукой — пакінуць
Навек імя ў труне, якое змоўкла!
Каб ад яе вачэй бяссмертных гэта
Відовішча схаваць. Мяне калісьці
Яна лічыла чыстым, гордым, вольным—
І ведала ў маіх абдымках рай...
Дзе я? Дзіця святое свету! бачу
Цябе і там, куды мой дух знічэлы
Сягнуць ужо не можа...

**Жаночы голас**

Ён вар'ят, —
Ён гэта трызніць жонкай пахаванай!

**Святар**

Хадзем, хадзем...

**Старшыня**

Мой ойча, імем бога,
Пакінь мяне!

**Святар**

Няхай ратуе бог!
Даруй, мой сын.

Выходзіць. Баль прадаўжаецца. Старшыня застаецца, пагрузіўшыся ў глыбокую задумлівасць.

1830.

**УПЕРШЫНЮ Ў «ЛіМе»**

**Анатоль БРУСЕВІЧ**



Анатолю Брусевічу чатырнаццаць гадоў, ён жыве ў Гародні, вучыцца ў 9 класе 32-ой сярэдняй школы. Вершы друкаваў у часопісе «Бярозка», газеце «Чырвоная змена», зборніку «Шлях» і іншых выданнях.

●

А дождж, як Бог, спускаецца з нябёс
Пакутаваць за нашыя грахі,
Каб зноў шукаць у вышыню шляхі,
Каб потым вецер зноў яго абтрос.

І так заўжды, бо вечнасць — гэта шар,
Які не песціць вострыя куты.
Да зор ляціш бясконцыя гады,
Каб атрымаць рубель, а не даляр.

Ды гэтым я нікога не здзіўлю,
Калі не ясна — думай, галава.
За дуб вышэй не ўзнімецца трава,
І дуб не скіне Сонца на Зямлю.

## Багаткі

Пасівелі жоўтыя багаткі,
І згубіў іх вецер у тумане.
Захаваўшы памяць аб нашчадках,
Зніклі ў чорным позірку змяркання.

Ды не лёс ім быў цвісці на полі,
Іх глынула вогнішча пажару.
Злы агонь забраў жыццё і волю,
І смяяліся на небе хмары.

●

Дзень памёр, адляцеў, загінуў.
Можа, хтосьці яго і ўспомніць.
А пакуль што над лесам сінім
Толькі сонца чырвоныя промні.

Дзень закончыўся, нібы пакута,
Загасіўшы жыццёвую свечку;
І пад ветразем, ноччу надзьмутым,
Ён адплыў у далёкую вечнасць.

Дзень заснуў на бязлюдным пляцы,
На запэцканых пыльных плітах.
У неба месяц паспеў падняцца,
І святло схавалася ў жыта.

●

Нашто хадзіць па бруднае зямлі!
Жыццё забуксавала на нулі.
Зямля наскрозь праедзена грахамі.
Напэўна, будзе лепей, як памрэш...
Ды тое ж і ў магільнай чорнай яме!
Усё адно: і там і тут — гніеш.
А на паперу зноў кладзецца верш...

## Жнівень

І дзень таксама стаў кароткі,
Нібы абрэзаная нітка.
На сліўцы хтосьці вельмі спрытна
Малюе золатам лістоту.

Гарачыня ў сваіх абдымках
Цалуе жыта з васількамі.
Знікае лета за палямі,
А бэз махае ўслед галінкай.

●

Жыццё, нібы хваля марская,
Салёная, ціхая, злосная.
Калючай травой зарастаюць
Нязбытныя мары дзівосныя.

Няхай зарастаюць, няхай:
Травою, рамонкай, валошкамі.
Замок на варотах у рай,
А вокны забітыя дошкамі.

●

На нябесным табло
Загарэліся зоркі.
Бы смятану, святло
Месяц лье на пагоркі.

І расплыўся туман
Па салатавым лузе.
Стаў зялёны дыван
Чыста-белым, як студзень.

За прыціхлай ракой,
Ля трывожнага гаю
Перарвала спакой
Песняй птушка начная.

ТЭЛЕБАЧАННЕ

Ніна ФРАЛЬЦОВА

# ЭФЕКТ АДСУТНАСЦІ

**Больш непрыдатнага моманту для разважанняў пра мастацтва на тэлеэкране няма,— скажа скептык. Па-свойму ён будзе мець рацыю. «Усе, усе супраць нас!»— плакала на сцэне чэхаўская гераіня на пачатку стагоддзя. І зала румзала ў адказ. Сёння публіка не абліваецца слязьмі над вымыслам. Народ пайшоў загартаваны ў жорсткім змаганні з прозай жыцця. Вуха, напрыклад, настолькі адвыкла ад класічнай музыкі ў тэлекадры, што балет «Лебядзінае возера» ў знамянальны панядзелак 19 жніўня прынялі як рэквіем па ГКЧП. І галоўнае — не памыліліся! Жывём у рытме рока, хаваем — пад класіку...**

**З гэтага ў іншыя часы варта было б пасмяяцца. Цяпер мы ўсе — з адным клопатам, але кожны імкнецца выжыць у адзіночку. Яшчэ нядаўна пяшчотна любімы масамі цуд XX стагоддзя — тэлебачанне,— гэтаксама.**

## Крушэнне прафесіі

Што сёння кідаецца ў вочы, калі вольным вечарам пераключаеш кнопкі тэлеканалаў? Уніфікаванасць, аднолькавасць тэлевідовішча, незалежна ад яго геаграфічнага паходжання. Нібыта ў краіне-руіне застаўся працаздольным тэлевізійны канвеер, які ў экстрэмальнай сітуацыі перайшоў ад арыгінальнай прадукцыі да штампа. Маскоўская, расійская і беларуская тэлепраграмы падобныя, як блізняты-браты. Дадамо сюды замежны тэлепрадукт, каб стварыць хвалу памерламу ўжо Маршалу Маклюэну. Гэта ён дваццаць гадоў таму прадказаў наступленне тэхнатроннай эры, у якой растворацца нацыі, этнасы і народы, у якой знікнуць адрозненні паміж правадырамі і радавым людам, а вобраз натоўпу будзе растыражаваны безаблічнай арміяй журналістаў і каментатараў.

Прагноз апраўдаўся, а шчасця, кажучы словамі Ільфа і Пятрова, няма. Магчыма, у грамадстве з іншымі стандартамі жыцця, з іншым тыпам міжасабістых стасункаў, масіраваная дээстэтызацыя тэлеканала ўспрымаецца не так хваравіта, як у нас. Для нашага ж чалавека, у якога ўвогуле няшмат радасцей, а магчымасцей заняць сябе ў вольны час і таго меней, сустрэча з заморскай рабыняй Ізаўрай азначае куды больш за частыя інтэрв'ю прэзідэнта. Далёка невыпадкова паводле вынікаў спецыяльнага апытання 1990 года, рабыня Ізаўра стаіць у адным шэрагу папулярнасці з вядомымі тэлевядучымі ЦТ У. Малчанавым і Т. Мітковай.

Здольнасць кампенсаваць выдаткі жыццёвай энергіі, якой валодае мастацтва, — адзін з інструментаў, пры дапамозе якіх чалавек адаптуецца ў сацыяльным асяроддзі. Інакш кажучы, настаяўшыся ў чэргах, паштурхаўшыся ў транспарце, змардаваўшыся на ферме ці агародзе, ледзь жывы да дзевяці гадзін вечара, наш чалавек, уключаючы тэлевізар, адчувае вострую неабходнасць у эмацыянальнай разрадцы, у зняцці псіхічнага напружання.

Насуперак гэтай, дарэчы, даўно вядомай аксіёме, наша тэлебачанне па ўсіх праграмах прапаноўвае зусім іншы «тэатр».

Ні Б. Брэхту з яго марай пра «свята тэатра вуліц і плошчаў», ні П. Вайсу, заснавальніку палітычнага спектакля, пачынаючы ад «Судовага разбіральніцтва», у страшным сне не сніліся эстэтычныя плады на дакументальнай ніве, якія выспелі на тэлебачанні за шэсць гадоў перабудовы.

Навіны, у якіх з дня ў дзень паведамляецца, што свет і чалавек у ім імкліва дэградуе. Эканамічныя дыскусіі, у якіх рэспектабельныя панове нажываюць палітычны капітал. Апаплексічныя рок-рэвю, дзе ад музыкі застаўся толькі цітр, — Галоўная рэдакцыя музычных праграм. Нарэшце, шматсерыйныя трансляцыі сесій Вярхоўных Саветаў і бессюжэтная афіцыйная хроніка завяршаюць агрэсіўна - гістарычны партрэт сучаснага тэлевяшчання, углядаючыся ў які, хочацца, як кажуць, забыцца і заснуць.

Нягледзячы на ўнутраныя інтрыгі, на знешнія дзяржаўныя суверэнітэты, можна павіншаваць тэлежурналістаў з татальнай перамогай над юнай дзесятай музай. На гэтым полі бою няма каму, акрамя гледача, успомніць добрым словам рэшткі аналітычнага рэпартажу, кампетэнтнага каментарыя, дыктарскага майстэрства і прамоўніцкага мастацтва, гумарыстычных тэлешынкоў і маладзёжных конкурсаў, клубаў па інтарэсах і пазнавальных перадач, спаборніцтваў эрудытаў і фігурыстаў, публіцыстыку і драматургію. Дух галоснасці і прывід свабоды, аднак, не даюць калегам цалкам нацешыцца расправай з уласнай прафесіяй. Ім хочацца філасофіі і моцных адчуванняў, што не ў стылі актуальнага на тэлеэкране аскепкава-кліпавага мыслення.

І вось у дні славутага путчу на старонках беларускіх газет з'яўляюцца іх друкаваныя словы і выразы. Не паспеўшы ўзвесці барыкады пад роднымі тэлевізійнымі рубрыкамі, яны заяўляюць, што заўсёды стаялі на браневіку. Усяражэнне — пагалоўна бяздарнымі аказваюцца ўсе ўзроставыя групы.

Пагарда да творчай індывідуальнасці ў былыя гады скрадвалася тым, што чалавек увогуле быў вінцікам у механізме дзяржаўнай службы. У сістэме тэлебачання, з яго унікальнай здольнасцю буйнога плана, рэнтгену характару, гэтая абставіна стварыла двухсэнсоўную сітуацыю. З аднаго боку, трапляючы на тэлеэкран, творчы чалавек рэалізоўваў ся-

справаздачы абласных студый. Сёння мясцовая перадача ў Мінску — асабістая праблема «апошніх магікан» з абласной журналістыкі. Калі летась на БТ рыхтаваліся да Усесаюзнага фестывалю маладзёжных праграм, у аргкамітэце жахнуліся з якасці дасланай на конкурс перадачы адной з правінцыйных студый: «магікане», значыць, там перавяліся. Вымерлі, як канкурыруючы творчы від. Зніжэнне ўзроўню мясцовага тэлевяшчання ў цэлым— логікі, з якой тэлебачанне ўзнаўляе само сябе. Пазбавіўшыся ранейшых ідэалагічных інстытутаў, якія карэкціравалі выбар інструментарыя, машына цяпер працуе ў рэжыме аўтамата, выбіраючы найбольш простыя і ходкія рашэнні. Наўрад ці ўсведамляюць нашы лепшыя тэлевізійныя мазгі, што яны стаяць на парозе новай формы духоўнага рабства — татальнай залежнасці ад тэхналогіі.

Што прадаваць і што купляць? Бываючы цяпер за мяжой, пра што ў перадачах гавораць нібыта між іншым: «калі я паўгода была ў Японіі...» альбо «ў нас там, у Дэтройце...», — «нашы» з апломбам сцвярджаюць, што прадаваць трэба эфірны час. «У іх» ён, мяркую, у вялікай цане. Вялікіх грошай каштуе ён і ў нас, пакуль... існуе матэрыяльна-тэхнічная база, аплачаная з дзяржаўнай кішэні. Але ў тэхніцы ёсць подлая ўласцівасць — яна маральна старэе і ламаецца. Ужо цяпер не хапае тэхнічных магутнасцей для забеспячэння патрэбаў вяшчання. А бурлівая дзейнасць па абслугоўванні заказаў «з боку» паскарае гэты працэс. Як толькі перад прадпрымальнікам паўстане пытанне аб укладанні капіталу ў матэрыяльную базу, кошт эфірнага часу адыдзе на другі план, а на першы стане цана рук, мазгоў і талентаў. Нездарма славуты Тэд Тэрнер, закладваючы кампанію Сі-Эн-Эн, пачаў з набору здольных, але маладых журналістаў: яны не спешчаныя славай і каштуюць таму параўнаўча нядорага. Такі баланс цэнаў на аўдыёвізуальным рынку, дзе кошт жывой, творчай энергіі залежыць ад выдаткаў на тэхналогію. З пункту гледжання прадпрымальнікаў, гэта здаровая прапорцыя для атрымання эфектыўнага і дзейснага прапагандысцкага прадукта.

Пра сацыялістычны спосаб размеркавання, калі камерцыйную рэкламу «твораць» дзесяць чалавек, а на прэмію прэтэндуюць сто, ажно да работнікаў цэнтралізаванай бухгалтэрыі і аддзела кадраў, давядзецца забыць. Давядзецца развітацца з кустарнай карупцыяй і дробным крадзяжом, калі абсталяванне распісваецца пад эфірную перадачу, а на ім хуценька кляпаюць тры «заказухі». Ніякі, нават самы міласэрны спонсар не пацерпіць глухіх дзвярэй, за якімі ў клубах тытунёвага дыму, нічога не робячы, лаюць кансерватыўную адміністрацыю, або зусім нікога не знойдзеш — усе разбегліся па магазінах. Калі глядзіш заходнія фільмы, кожны раз здзіўляешся, што ў «іх» нават у Пентагоне службовыя памяшканні падобныя на цэхі і вакол шкляныя дзверы, не кажучы пра рэдакцыі...

Усё гэта не дэкарацыя, а сапраўдная рынкавая эканоміка, аб перавагах якой не стамляецца паўтараць салідны каментатар з «Нашага каментарыя». Пытанне, ці застанецца ён са сваёй перадачай, невыразнай дыкцыяй і звычкай сядаць у кадр у каўбойцы, аднясём да рытарычных...

лякая крытыка і кантроль аб'яўляюцца замахам на персаніфікаваны пункт гледжання. Цяпер кожны вольны ад уніклівых пытанняў прафесіі, як птушка ў палёце.

## Манапалізм як тып тэлевізійнага вяшчання

Калі б не было газет, іх трэба было б прыдумаць знарок для... выступленняў тэлевізійных сабратоў. З друку даведваешся шмат такога, што ў тэлекадр звычайна не трапляе, правільней, трапляе, але апасродкавана.

Глядзіш, напрыклад, інтэрв'ю са Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі С. С. Шушкевічам у праграме «Крок» і разумееш, чаму другі старшыня — Дзяржтэлерадыё — А. Р. Сталяроў у газеце «Добры вечар» з болем гаворыць, што з творчымі кадрамі на нашым ТБ «напружанка». Толькі «пад напругай» можна было задаваць тыя непадрыхтаваныя пытанні, якія прагучалі ў найсур'ёзнай гутарцы. Ні рэдактар, ні рэжысёр не ўспомнілі пра гледачоў; тыя знайшлі б пра што спытаць у госця праграмы. Але паспрабуйце дазваніцца да студыі па двух тэлефонах, з якіх адзін міжгародні!..

Гэты маленькі эпізод з вялікага тэлевізійнага жыцця мог бы ўпрыгожыць любую газетную паласу. Аднак у А. Р. Сталярова свая логіка. Ён накіроўвае яе вастрыё на адрас факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, дзе, на яго думку, студэнтаў рыхтуюць кепска. У свой час гэтая тэма хвалявала і папярэдніка А. Р. Сталярова на гэтай пасадзе — Г. М. Бураўкіна. Маючы дыплом універсітэта, ён тым не менш меў да альма-матэр вялікія прэтэнзіі, распаўсюджваючы іх, натуральна, на кола выпускнікоў, якіх браў на працу.

Студэнтаў, Аляксандр Рыгоравіч, сапраўды рыхтуюць кепска. Таму што іх хранічна не вучаць галоўнаму — захаванню сваёй індывідуальнасці і прыроднага таленту ў асяроддзі, з якога творчасць... уцякае.

Парадокс у тым, што амаль увесь штатны склад рэспубліканскага ТБ, пачынаючы ад галоўных рэдактараў і канчаючы малодшымі, вышаў са сцен факультэта. Але імя і вобраз набылі адзінкі. Тэорыя верагоднасці церпіць у нас яўнае пабе як асоба. З другога — па-за сферай творчасці, — ён заставаўся адным з «байцоў ідэалагічнага фронту», над якім былі свае генералы і маршалы, свая іерархія, нормы карпаратыўнага этыкету. Характэрна, што мала каго з вышэйшай тэлеэліты народ ведаў у твар. Ён дагэтуль наіўна мяркуе, што тэлебачанне робяць тыя, хто гаворыць у тэлевізары «Добры дзень!». Іграючы на гэтай святой прастаце, сучасны тэлеістэблішмент прадаўжае трымаць унутраную манаполію.

Манапалізм нашага тэлебачання не ў тым, што яно застаецца дзяржаўным і яму не процістаяць прыватныя тэлеканалы, а ў тым, што захоўваюцца тыя арганізацыйныя формы і тыпы перадач, ад якіх «за куллісамі» ніхто не рызыкуе страціць прэстыжнае крэсла. Калі ў дзверы да гэтай каманды пастукае малады Пушкін, яму адмовяць у вакансіі. Бо творчасць і мастацтва — справа не толькі тонкая, а і надзвычай цяжкая.

Вось чаму на нашым тэлеэкране расквітнела «сто кветак» праграм, у якіх, сарваўшыся з арбіты здаровага сэнсу, мільгацяць аскепкі жыцця. Зрабіць такую перадачу няцяжка. Дастаткова на колькі гадзін узяць пераносную камеру і выйсці на гарадское скрыжаванне. Якія там вялікія тэмы і глыбокая праблематыка! Якія дзёрзкія пошукі і гіпертанічныя крызы!

Як прывітанне з тэлевізійнай маладосці выглядаюць сёння тэматычныя планы абласных студый. Там яшчэ не засвоілі навамоднага тэрміна «інфармацыйна - публіцыстычнае» і прадаўжаюць лічыць, што галоўным з'яўляюцца аналітычныя жанры. Гэта там з мая 1986 года выпраўляюцца пад Чарнобыль і ў дэталях даследуюць набалелую для рэспублікі тэму. Гэта ў мясцовыя рэдакцыі прыходзяць стосы водгукаў, скаргаў і стогнаў, і маленькае тэлебачанне, як умее і як дазваляюць тэхнічныя сродкі, укараняецца ў жыццё, каб хоць бы гэтым падтрымаць стомленае насельніцтва. Прыехаўшы ў Гомель, сталічны рэвізор уразіўся факталогіяй і аналітычным узроўнем правінцыйнай перадачы. Верагодна, дзякуючы гэтаму на рэспубліканскі экран прарвалася рэдкая ў перыяд перабудовы абласная трансляцыя.

У застойным мінулым застаўся звычай, калі праводзіўся рэгулярны абмен мясцовым вяшчаннем у рамках усебеларускай сеткі. Таксама трэба шукаць і штогадовыя творчыя таксама вынік манапольнай псіхалогіі Беларускага тэлебачання, якое, па сутнасці, даўно ператварылася ў тэлебачанне горада Мінска.

## Грамадства, эфір і грошы

Усё, што напісана пра фарміруючую ролю ТБ і спектр яго сацыяльных функцый, пра ўзаемазалежнасць аператыўнай інфармацыі і «чысты» мастацкі жанр і, у цэлым, пра масавую камунікацыю як пра мастацтва асаблівага роду, напісана, па іроніі гістарычнага лёсу савецкага ТБ, у самы ўздым адміністрацыйна-каманднай сістэмы. Цяпер, у момант перамогі крытычнага мыслення і поўнага расчаравання ў «цякучых каштоўнасцях жыцця», усялякая тэорыя аддае ўмоўнасцю, а назапашаны вопыт БТ аб'яўляецца па-за законам.

Называючы ранейшае тэлебачанне міністэрствам прапаганды, самыя вострыя радыкалы не падазраюць аб тым, што яе метады і інфраструктура адпрацоўвалася на працягу апошніх чатырохсот гадоў, прычым на добрай філасофскай базе і найбольш плённа — у самых масавых, г. зн. дыялагічных відах культуры. Адмяніць гэтую натуральную хаду падзей — тое ж самае, што забараніць закон сусветнага прыцягнення. Больш за тое, з гэтага закона, які пастаянна ўжываецца з ваеннымі мэтамі — снарады трапляюць, куды трэба, таму што ў зямлі ёсць прыцягненне, — зусім не вынікае, што яго трэба «дапрацаваць» у дэмакратычным парламенце.

Між іншым, менавіта гэтую спробу — павярнуць паўночныя рэкі на поўдзень — дэманструе постперабудовачнае тэлебачанне, прастадушна мяркуючы, што ў выніку магутнага выбуху інфармацыйна-палітычнага плюралізму прырода і грамадства набудуць жаданую гармонію. Ніколькі не было. Рэкі цякуць усё ў тым жа прапагандысцкім ландшафце.

Замест «Ленінскага універсітэта мільёнаў» — тэлевізійны клуб мільёншчыкаў, «На палях і фермах краіны» — «Поле цудаў», «Дзённіка пяцігодкі» — «Пяць з плюсам», «Следства», што вядуць знатакі» — «Крымінальны канал», замест лідэраў партыйных камітэтаў — «зоркі» эстраднай багемы...

Толькі сляпы не заўважыць у гэтым паралелізме жалезнай

●

Стварыўшы да канца стагоддзя сумеснымі намаганнямі глабальную тэлекамунікатыўную сетку, краіны на шляху развіцця паўсталі перад задачай, якую ў маштабе велізарнай па працягласці тэрыторыі мы аднойчы вырашалі ўжо і сёмы год пераконваем сябе, што знайшлі няправільны адказ. Тым часам наш варыянт вырашэння падштурхнуў свет да «будаўніцтва» інфармацыйнага грамадства, арыентаванага на сістэму агульначалавечых каштоўнасцей і забяспечанага дзяржаўным і міждзяржаўным кантролем над яго ідэалогіяй і захаваннем гуманітарных прыярытэтаў. Неабходнасць у высокім «ідэйным» узроўні масавай тэлесеткі дыктуецца якраз законамі аўдыявізуальнага рынку, дзе выраслі магутныя відэаканкурэнты: касетнае, кабельнае, вытворчалічбавае і іншыя віды «індывідуалізаванага» ТБ, якія маюць часта камерцыйнае паходжанне і не хаваюць гэтага ў пагоні за спажыўцом. Яны таксама маюць дасканалыя станцыі, арбітальныя антэны, транснацыянальныя наземныя пасрэдніцкія агенцтвы.

Інтэграцыйныя працэсы, якія адбываюцца ў сучасных відэакамунікацыях на базе стандартызаванай тэхналогіі і тэхнагенных сродкаў, патрабуюць прынцыпова новага светапогляднага падыходу. Каб чалавецтва і на самай справе не ператварылася ў бездапаможны дадатак «разумнай машыны», пра што папярэджваюць пісьменнікі-фантасты, гэты светапогляд павінен фарміравацца носьбітамі не толькі інтэлектуальнай, але і культуралагічнай інфармацыі.

Масавае сеткавае тэлебачанне ў гэтым сэнсе ўяўляе унікальную сістэму, дзе гэтыя сустрэчныя плыні здольны злучыцца ў жывым арганізме, каб тварыць «разумнае, добрае, вечнае».

Усё гэта мае прамыя адносіны да канцэпцыі, у якой абмалёўваецца бліжэйшая будучыня ўсерэспубліканскай масавай камунікацыі. Сёння мы, з нашай гістарычнай звычкай да лабараторных сацыяльных эксперыментаў, маем сапраўды рэдкі шанц: у параметрах дзяржаўнай рэгіянальнай сеткі стварыць асацыяцыю нацыянальнага тэлевяшчання, ядром якой застануцца існуючыя абласныя студыі, уключаючы Мінскую, а асацыятыўнымі членамі на эканамічнай аснове — самастойныя ўтварэнні, якія нараджаюцца як унутры студый, так і па-за іх межамі. У асацыяцыі з прынцыпова новым калегіяльным саветам кіравання ўзнікнуць умовы для выканання як традыцыйнага комплексу сацыяльных функцый, так і для абслугоўвання грамадства ў эканамічнай, дзелавой, камерцыйнай, фінансавай сферах, але з наданнем гэтай дзейнасці культурнага аблічча.

Гэта дасць падставу для прафесійнай канкурэнцыі вытворцаў відэапрадукта, фінансавыя і матэрыяльныя сродкі для мадэрнізацыі абсталявання з далейшым пашырэннем каналаў вяшчання ў бюджэце адзінага эфірнага часу і сфарміруе перадумовы для гарантаванага рынку і сацыяльнай абароны прадстаўнікоў масавай творчай прафесіі.

Гэта ўсяго толькі гіпотэза. Але эфект выпадзення, адсутнасці нашага ТБ як суб'екта ідэалагічнага і культурнага працэсаў дасягнуў такой адзнакі, што стварэнне тэлебачання новага тыпу робіцца актуальнай і неадкладнай задачай.

# БОЛЬ СЭРЦА, РАДАСЦЬ ДУШЫ

## Гомельскаму мастаку Мікалаю ПАЛЯНКОВУ — 70 гадоў

У канцы жніўня 1986 года ў зоне, апаленай чарнобыльскім выбухам, знаходзіліся беларускія пісьменнікі Іван Шамякін, Барыс Сачанка і Мікола Мятліцкі. Іван Пятровіч быў тады дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР ад выбаршчыкаў пацярпеўшых раёнаў, а Барыс Сачанка і Мікола Мятліцкі нарадзіліся на Хойніччыне. Праз некальні дзён у «ЛіМе» з'явіўся артыкул «Глыбокая плынь» Міколы Мятліцкага. Ён пісаў: «Нялёгка адваёўваць у ядзернай атруты вёсачкі, палі і лясы. Ніхто дакладна не ведае пакуль, колькі спатрэбіцца часу, каб вярнуць чалавеку страчанае жытло. Загаіць гэтую злавесную рану, імя якой на вуснах усяго народа — Чарнобыль».

У гэты ж час у чарнобыльскай зоне працаваў і гомельскі мастак Мікалай Сцяпанавіч Палянкоў. Мы сустрэліся з ім. Мікалай Сцяпанавіч тады гаварыў:

— Колькі я напісаў радасных пейзажаў на Палессі! А цяпер на сэрцы такая журба. Прыехаў я ў зону, каб стварыць серыю партрэтаў работнікаў міліцыі — ліквідатараў вынікаў гэтай страшнай катастрофы. Я — былы франтавік і шмат пабачыў у сваім жыцці гора і слёз, аднак зараз маёй зямлі асабліва цяжка, і таму я тут...

А мне прыгадалася кніга Ю. Пучынскага «Смаленская шаша», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». У ёй ёсць раздзел «Пасля танкавай атакі». У пачатку яго чытаем: «Пад Ржэвам павёў у атаку сваю «трыццацьчацвёрку» Толя Палянок. Ён непрыкметна адным з першых пайшоў з Віцебска і вельмі хутка аказаўся ў дзеючай арміі. У мастацкім вучылішчы гэта быў ціхі светлагаловы хлапчук з добрымі блакітнымі вачыма, спакойны, нават маўклівы, з тых, якія ніколі «не высоўваюцца». Але ўсе ведалі, што яго малюнкі надрукаваў маскоўскі часопіс».

Правобразам Толі Палянка быў Мікалай Сцяпанавіч Палянкоў, які зараз жыве ў Гомелі і нядаўна адзначыў 70-годдзе з дня свайго нараджэння.

Тады, пад Ржэвам, у жорсткіх баях, танк, які вёў механік-вадзіцель Палянкоў, быў падбіты, загарэўся, а затым узарваўся ад боепрыпасаў. Мікалай цудам ацалеў, хаця атрымаў раненне, доўгі час знаходзіўся без прытомнасці, трапіў у акружэнне, але дабраўся да сваіх, у цяжкім стане яго знайшлі нашы салдаты. А яго сябры па экіпажы Косця Рогач, Яўген Шутаў, Міхась Кірылаў загінулі. Потым новыя суровыя выпрабаванні вайны, перамогу ў якой ён сустрэў у Чэхаславакіі.

Мікалай Сцяпанавіч напісаў карціну-ўспамін «У звальненні». Даволі просты сюжэт — тры салдаты выбіраюць у кіёску кнігу. Але на карціне — нібы прыйшлі з таго грознага часу да нас — Косця, Яўген, Міхась. Рэпрадукцыя гэтага твора была змешчана ў шматлікіх выданнях, у тым ліку энцыклапедычным даведніку «Мастакі Савецкай Беларусі».

За сваё жыццё М. Палянкоў стварыў сотні твораў. Розных па сюжэтах, матывах. Вядомыя з іх — «Салдацкая песня», «Пара экзаменаў», «У магазіне агітплаката». Асабліва з вялікай ахвотай ён працуе над пейзажамі. Колькі ў іх паэтычнасці, цяпла, сонца!

**А. ШНЫПАРКОЎ,**
мастацтвазнаўца.



У звальненні.



Восень на Прыпяці.

**КОНКУРСЫ**

# АДНА З ЛЕПШЫХ «КАМАНД»

**Як мы паведамлялі, у сталіцы Казахстана Алма-Аце прайшоў XIV Усесаюзны конкурс вакалістаў імя М. І. Глінкі.**

З ГІСТОРЫІ: конкурс гэты праводзіцца з 1960 года і адыгрывае выключна важную ролю ў культурным і музычным жыцці. Журы складаюць выдатныя выканаўцы, майстры опернага і камернага жанру, вакальныя педагогі; конкурсы «адкрываюць» новых таленавітых спевакоў, якія пазней складаюць гонар нашага вакальнага мастацтва. У ролі гаспадароў конкурсу былі сталіцы амаль усіх рэспублік; у Мінску праводзіўся Х конкурс. З 1968 г. нязменны старшыня журы — выдатная спявачка і педагог І. Архіпава.

Статыстыка сведчыць: гэтае спаборніцтва вакалістаў прываблівае вялікую колькасць удзельнікаў, з'яўляючыся буйным творчым спаборніцтвам маладых спевакоў. У ліку лаўрэатаў — такія «зоркі», як М. Аміранашвілі, І. Багачова, Л. Забіляста, А. Кааль, Х. Касімава, І. Мількявічутэ, М. Гулегіна, Л. Шамчук, С. Стрэзева, У. Атлантаў, Я. Несцярэнка, А. Днішаў, Г. Грыгаран, С. Лейферкус, Ю. Мазурок, Л. Смяціннікаў, Н. Троіцкая, Д. Хварастоўскі і многія іншыя.

Прадстаўнікі Беларусі пачалі выступаць з чацвёртага конкурсу (1968 г.): відаць, для ўдзелу ў першых трох у рэспубліцы не было дастойных прэтэндэнтаў. Беларускія пасланцы амаль заўжды аказваліся сярод лепшых. У розныя гады пачэсныя месцы займалі В. Кучынскі (IV месца), М. Здаsевіч (IV месца), А. Падгайскі (дыплом), Л. Шамчук (II месца), Л. Колас (II месца), В. Скорабагатаў (IV месца), В. Полазаў (I месца), М. Жылюк (IV месца), М. Гулегіна (I месца), А. Дзічкоўскі (III месца), М. Рысаў (IV месца), І. Шупеніч (дыплом), Г. Лукомская (дыплом), М. Грыгорчык (II месца), Н. Зуева (IV месца). Дыпломамі журы адзначаліся і нашы канцэртмайстры Е. Эфрон, Г. Каржанеўская і М. Сярдобаў.

У сувязі з палітычнай нестабільнасцю хадзілі чуткі ледзь не пра адмену сёлетняга, XIV конкурсу: маўляў, няма Саюза — няма і Усесаюзнага конкурсу. Ды ўсё ж ён адбыўся і ў цэлым прадэманстраваў, што музыка, спевы павінны аб'ядноўваць людзей. Так, геаграфія конкурсу звузілася: не ўдзельнічалі прадстаўнікі Арменіі, Грузіі, Латвіі і Літвы. Скарацілася колькасць удзельнікаў: іх было 112. Прафесійны ж узровень у цэлым быў высокі, хаця, як было і на іншых конкурсах, не ўсе групы галасоў выступалі пераканаўча і ў колькасным, і асабліва ў якасным сэнсе.

З групы сапрана 1 месца заняла М. Лапіна, якая прадстаўляла інстытут імя Гнесіных (Масква). Гэтая спявачка з вялікай будучыняй. Лірыка-драматычнае сапрана поўнага дыяпазону, прыгожага тэмбру, валодае кантыленай на ўзроўні лепшых прадстаўнікоў бельканта, музычная, артыстычная, мае дзівоснае пачуццё стылю. Можна сказаць, што М. Лапіна — адкрыццё конкурсу, яе імя варта запомніць.

У ліку лаўрэатаў аказаліся два мецца-сапрана: С. Ішчанава і Л. Рагавец. Першая — вучаніца І. Архіпавай (ды яшчэ з Алма-Аты!), вельмі эмацыянальная спявачка, чым і прывабіла журы, і пакарыла родныя сцэны... Вучаніца З. Далуханавай Л. Рагавец карысталася пасля М. Лапінай найбольшым поспехам у публікі.

Першае месца сярод мужчын заняў барытон С. Мурзаеў (Маскоўская кансерваторыя).

«Каманда» Беларусі на гэтым конкурсе была вельмі моцнай. Гэта — І. Гардзей, А. Шведава, В. Курбацкая, Ю. Хадоркін і студэнты — Т. Варапай, М. Грыгорчык, А. Гардынец і С. Драбышэўскі. Упэўненасць у добрай якасці галасоў і прафесійнай падрыхтоўкі нашых удзельнікаў цалкам пацвярджаюць вынікі конкурсу.

М. Грыгорчык (клас прафесара А. Генералава) заняў, як паведамляў ужо «ЛіМ», высокае другое месца. Як член журы магу адкрыць «таямніцу», што пры галасаванні, ягоная кандыдатура прапаноўвалася і на першае месца. Выступаў ён вельмі стабільна, пераканаўча, па поўным дыяпазоне (спяваў Рудольфа, Федэрыка). Яго выступленні былі настолькі ўражальнымі, што журы, акрамя прэміі (1400 руб.), прысудзіла Марату прыз за артыстычнасць (цудоўную вазу ўсходняй работы).

Яшчэ чатыры нашы пасланцы прайшлі на II тур: І. Гардзей, Т. Варапай, А. Гардынец і С. Драбышэўскі. Яны атрымалі ганаровыя граматы за паспяховае выступленне на ім. Падкрэслю, што такая грамата адпавядае дыплому лаўрэата міжрэспубліканскага конкурсу.

Нядобра самім сябе хваліць, але, як сцвярджалі многія слухачы з Алма-Аты і ў чым пераканаліся і нашы ўдзельнікі, — канкурсанты ад Беларусі менавіта як прадстаўнікі адной кансерваторыі былі самай, або адной з самых моцных «каманд». Толькі Масква (кансерваторыя, інстытут імя Гнесіных, тэатры сталіцы) у цэлым «абышла» па выніках нашу кансерваторыю. А ў нашай «скарбонцы» ёсць яшчэ адзін лаўрэат: Н. Зуева, выпускніца аддзялення спеваў БДК 1984 г. (клас К. Драздовай), якая працуе цяпер салісткай Данецкай філармоніі. Яна заняла IV месца ў раздзеле камерных выканаўцаў.

Адзначана і праца нашых канцэртмайстраў: галоўны «суддзя» В. Чачава ўважліва слухаў сваіх калег, вылучыў высокі прафесійны ўзровень ігры Т. Івановай і рэкамендаваў журы ўзнагародзіць дыпломам і прэміяй вядучага канцэртмайстра кафедры спеваў БДК М. Сярдобава. Прапанова была зацверджана журы аднагалосна.

— Такім чынам, можна канстатаваць, што асабліва па падборы галасоў ды й па прафесійнай падрыхтоўцы нашы ўдзельнікі былі, відаць, самымі цікавымі і пераканаўчымі. Што ж перашкодзіла нам дамагчыся яшчэ больш яркіх поспехаў? Як ні дзіўна, перш за ўсё — дружба! Ірына Канстанцінаўна Архіпава з гонарам аб'явіла на заключным канцэрце, што сярод пераможцаў — прадстаўнікі ўсіх 10 рэспублік-удзельніц. (Кожнай сястрыцы па завушніцы). А лаўрэацкіх жа месцаў усяго было 12 па абодвух раздзелах — опернаканцэртным і камерным. Вось і атрымлізаецца, што нашы два месцы сярод лаўрэатаў — гэта проста цудоўна!

Для таго, каб апынуцца сярод пераможцаў, трэба быць не проста «на ўзроўні», а на галаву вышэй за сярэдняга ўдзельніка. І не толькі па зыходных прыродных дадзеных — тэмбры, сіле голасу, але і па школе, па дыяпазоне, па ўдалым падборы рэпертуару і яго выкананні, па артыстызме, па нейкай асаблівай сцэнічнай абаяльнасці. Ды тут некаторыя нашы ўдзельнікі і прайгралі. Не прайшлі на II тур А. Шведава і В. Курбацкая — абедзве спявалі хворыя і не змаглі паказаць сваіх лепшых якасцяў. Добра выступіў Ю. Хадоркін, але сваім «артыстызмам» і адсутнасцю тонкасці выканання не пераканаў журы. Вельмі хораша спела на I туры Т. Варапай, а на другім ёй проста не хапіла вопыту і ўпэўненасці. У І. Гардзей быў адзін з самых прыгожых галасоў у конкурсе сапрана (нават у параўнанні з М. Лапінай). Мне думаецца, спадзяванне толькі на гэта і падвяло Ірыну. Прыкладна тыя ж папрокі (у адносінах няўдалага падбору рэпертуару) былі выказаны ў адрас А. Гардынца. Да гэтага дадаваліся прэтэнзіі ў браку артыстычнай гнуткасці. Папракалі ў адсутнасці артыстызму і С. Драбышэўскага...

Заўважаныя памылкі можна і трэба ўлічыць і выправіць у будучай працы: неабходна яшчэ больш сур'ёзна ставіцца да падрыхтоўкі да любых конкурсаў, не трэба ўхіляцца ад праслухоўванняў і канцэртаў, ігнараваць парады калег.

У журы гаварылі наконт XV юбілейнага конкурсу імя М. І. Глінкі: няма Саюза — дык ці будзе Усесаюзны конкурс? Усе выказалі ўпэўненасць, што конкурс імя М. І. Глінкі, прысвечаны заснавальніку рускай класічнай музыкі, павінен захавацца. Магчыма, ён будзе звацца проста конкурс імя М. І. Глінкі, ці адкрыты конкурс імя М. І. Глінкі, або Міжнародны конкурс імя М. І. Глінкі. А правесці яго мяркуецца ў 1993 годзе ў Смаленску, на радзіме вялікага кампазітара.

**Леанід ІВАШКОЎ,**
**загадчык кафедры спеваў БДК, член журы XIV конкурсу вакалістаў імя М. І. Глінкі.**

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

**Шаноўныя і дарагія калегі!**

**Дзякуючы ветлівасці маіх беларускіх сяброў, чытаю час ад часу «ЛіМ». Запаў мне ў памяць цікавы і сутнасны артыкул пана Юрася Закрэўскага «Па той бок крэсаў» з месяца лютага гэтага года. Вельмі справядліва выявілі вы гэтае нацыяналістычна - клерыкальнае галадранства, якое не ад сёння далося за жывое таксама польскай культуры. Не так даўно таму зліквідавалі ў Кракаве вуліцу Мікалая Рэя (бацька нашай літаратуры быў кальвіністам), а колькі тыдняў таму акрапілі свяшчэннай вадой у Пшэмыслі вуліцу «ўладара Палесся» і адміністратара Картуз-Бярозы Косткі-Бернацкага. Брава!**

**Змагаюся з імі як магу, на пацвярджэнне чаго дасылаю вам свой ліст да «Нівы» з 4.11.90, інтэрв'ю ў кракаўскім «ІКЦу» з чэрвеня мінулага года і апошні нумар «Творчасці» (вяду там аддзел паэзіі), які распачынаем надзіва пекным «Апокрыфам» Максіма Багдановіча.**

**Дазваляю сабе таксама пры выпадку пераслаць вам свае дзве прадмовы — беларускую і польскую — да кніжкі «Цёплыя вечары ды халодныя ранкі». Гэта збор беларускіх песняў народных, запісаных мною ў ваколіцах Ліды, пераважна ў вёсцы Феліксава, у 1942—1943 гг. Кніжка мае ноты, тэкст жа пераплецены рэпрадукцыямі бланкаў заяў беларускіх сялян аб закладанні школкі з беларускай мовай навучання і інструкцыі «Таварыства Беларускай Школы», якую шчаслівым выпадкам удалося мне захаваць. «Цёплыя вечары...» складаюцца з 80 песняў і надрукаваныя «гражданкай» (з нотамі) і «лацінкай» для тых беларусаў і палякаў, якія не ведаюць кірыліцы. Гэтая кніжка павінна была даўно з'явіцца, атрымала нават 15 мільёнаў злотых стыпендыю з Фонду Літаратуры, цалкам распрацаваная графічна. На перашкодзе стала, на жаль, даўняя беларуская абыякавасць. Тутэйшыя дзеячы абдымалі мяне, віншавалі, праводзілі аўтарскія вечары, нават прыносілі кветкі, але ні адзін не варухнуў пальцам, каб прыспешыць друк. А гэта ж не толькі доказ існавання беларусаў на тых тэрыторыях, але таксама іх культурнага прыярытэту. Скончыцца такім чынам, што выдам «Цёплыя вечары...» уласным коштам на ксераксе. А шкада, бо гэта толькі 200 асобнікаў замест пяці тысяч. Не прыгадваю ўжо пра тое, што песні, сапраўды, выдатнейшыя і што ў тым краі размаўлялі і спявалі так пекна па-беларуску, што ажно ў паветры стаяў водар.**

**Канчаю ўжо свае горкія жальбы, даруйце мне за расцягнутую ўстаўку. Прабачце таксама, што не пішу па-беларуску, але ўжо 40 год амаль не карыстаюся гэтай мовай і зацёрлася яно ўжо крыху ў памяці. Над прадмовамі блукаў я амаль тры дні, але спадзяюся, не знойдзеце ў ёй вы задужа памылак. Мая сям'я ад некалькіх пакаленняў ужо польская, аднак выводзіцца з Беларусі. Прозвішча дзявочае маёй маці Крывец — аб гэтым выразна сведчыць. Мой пра-пра-прадзед быў Троцкім цівуном. Вельмі ганаруся тым, што ў маіх жылах таксама ёсць беларуская кроў і заўсёды гэта падкрэсліваю.**

**Злучаю выраз павагі
і вельмі сардэчныя
віншаванні
Земавіт ФЭДЭЦКІ.**

Варшава, 6 верасня
1991 года.

# ГІСТОРЫЯ ЗМАРНАВАНЫХ ШАНЦАЎ

## Размова з Земавітам Фэдэцкім

**Ці размаўляў Ягайла па-летувіску! Аб жмудзінскіх заклінаннях і беларускім Каране. Было двое Міцкевічаў. Чаму мы не вернемся да Вільні! Чары, прыгажосці, абрады. Дзяды — выдумка Міцкевіча!**

**— Ці Вільня самы пекны горад на свеце?**

— Без сумнення. Нідзе болей няма такога барока, як там. Але ёсць яшчэ і Вілія.., «радзіцелька нашых струменяў», што надае гораду выключнага хараства.

**— Пан жыў у Вільні...**

— ...на вуліцы Тэатральнай, якая мела ўсяго шэсць нумароў, насупраць тэатра. З левага боку была Вялікая Пагулянка, з правага—Малая, а на рагу—гімназія імя Жыгімонта Аўгуста, дзе я вучыўся. Зрэшты, заўсёды спазняўся на заняткі, можа, таму, што школа была так блізка...

**— Пачнём ад генеалогіі.**

— Сямейства маёй маці, як амаль усе з тых мясцін, выводзілася з летувіска-беларускай шляхты. Быў у Гародні род Крыўцоў, моцны і шырока разгалінаваны. Зрэшты, іх прозвішча па сутнасці племянная назва—беларусы колісь называліся крывічамі. Генеалагічнага дрэва не вяду, але дзякуючы дзядзьку, палкоўніку Крыўцу (кіраўніку гарнізоннага шпіталю ў Гародні), які гэтым захапляўся, ведаю, што першы з маіх продкаў, пасля якога застаўся след у пісьмовых крыніцах, быў будаўніком мастоў. Называўся Крыўка. Будаваў масты, калі польская шляхта ішла на Грунвальд. Паходжу, такім чынам, з тэхнічнай інтэлігенцыі, што мяне вельмі цешыць. Потым быў Крывец, цівун Троцкі (цівун — гэта каштальян, потым слова гэта спрафанавалася і ў XX стагоддзі азначала ўжо толькі аканома. Але ў часы росквіту троцкага замка цівун лічыўся вялікім панам.)

Частка сямейства маёй маці была, зрэшты, цалкам летувіскай. Тут няма нічога дзіўнага, змяшанне народаў, культур, моў было на той тэрыторыі вельмі частай з'явай. Вядомай была гісторыя чатырох братоў Іваноўскіх, з якіх адзін быў беларусам, другі летувісам, трэці лічыў сябе палякам, а чацвёрты паступіў служыць у ...брытанскі флот.

Не здзівіўся б, калі б аказалася, што ў нашым сямействе быў таксама якісь татарын. У ваколіцах Вільні жыло дужа знакамітых татарскіх родаў, моцна звязаных з Польшчаю і з ахвотаю ўваходзячых у сваяцкія сувязі. Да нашага маёнтка Лебяда прыязджалі на канікулах паненкі Зося і Гэня Бейнаравічанкі, кузіны Леха Бейнара (або Паўла Ясеніцы); род Бейнар-Бейнаровічаў быў параднёны з татарскай шляхтай.

**— Гісторыя сям'і пана з'яўляецца, такім чынам, часткаю гісторыі польска-беларуска-летувіскіх сувязей...**

— Уся гісторыя нашай культуры з'яўляецца гісторыяй польска-беларускіх сувязей. Так, перш за ўсё польска-беларускіх, у значна меншым узроўні польска-летувіскіх.

**— А Ягайла?**

— Не ведаю, кім быў дзед Уладзіслава Ягайлы, але ведаю, што кароль размаўляў па-беларуску, гэта была прыдворная мова Ягелонаў (Ягайлавічаў). Жыгімонт Аўгуст выдаваў дакументы на той мове. Статут Вялікага княства Літоўскага таксама быў напісаны па-беларуску. А паслухайце, калі ласка, якой мовай пісаў Жыгімонт III пасля каранацыі ў Кракаве ў 1588 годзе: «Забегаючы мы господар продолжэнью справедлівасьці людское уставуем...»

Літва — гэта беларускае слова. Была такая старая летувіская (жмудзінская) замова: «Пэркуне дэвайтэ, ня мушк жэмайтэ, мушк гуда, кайп шуні руда» («Божа Пяркунас, не бі жмудзіна, бі беларуса, як рудога пса»). Бо продак сучаснага летувіса называў сябе жмудзінам, жэмайцісам.

Перавага беларускай над іншымі мовамі была такая моцная, што ў мячэцях знаходзілі старажытныя асобнікі Карана, пісаныя арабскім алфавітам па-беларуску!

**— Але, так. Аднак шмат год пазней Адам Міцкевіч напісаў «Літва, мая Радзіма»!..**

— Але ва ўсім вялікім, рэалістычным творы не знойдзеш ніводнага слова па-летувіску... Між тым, балада Міцкевіча «Лілеі» — амаль дакладная копія беларускай песні, якую знойдзем у Міхала Федароўскага ў яго зборы «Люд Беларускі».

А вось выдатны беларускі паэт Якуб Колас называўся па-сапраўднаму—Канстанцін Міцкевіч. Таму займаў псеўданім «Колас» — ад коласа збожжа.

Ян Чачот заняўся справай фіксацыі і выдання «Вясковых песняў з-над Нёмана і Дзвіны». Няма сярод іх летувіскіх — а ён жа рупіўся перапісаць усе песні, якія чуў над Нёманам і Дзвіною. Старадаўнія дайны летувісаў вельмі цікавілі рамантыкаў, былі экзатычныя і ахутаныя таямнічай імглой. Чачот, аднак, не мог іх запісаць, бо іх спявалі на 80—100 кіламетраў далей на поўнач і захад, а не тут, на Віленшчыне. Таксама «Нацыянальны спеўнік» С. Манюшкі вырастае з беларускай традыцыі, з беларускага музычнага грунту.

**— А дзе ж ва ўсім гэтым летувісы?**

— Летувісаў у Вільні было паўпрацэнта. У нашым доме (з незапамятных часоў левым па духу) друкаваўся часопіс «Па-простаму». Прысвячалася там шмат месца абароне інтарэсаў нацыянальных меншасцей, але не інтарэсаў летувісаў, бо проста не было каго абараняць.

**— А трэба было бараніць інтарэсы беларускай нацыянальнай меншасці ў Вільні...**

— Вядома. Гісторыя міжваеннага дваццацігоддзя—гісторыя змарнаваных шанцаў для закладання прыязных стасункаў з беларусамі. А раней не было іншага народа, які б там гарнуўся да Польшчы, быў так па-прапольску настроены.

Ужо ў Студзеньскім паўстанні масава бралі ўдзел беларускія сяляне. Быў такі вялікі атрад Кастуся Каліноўскага, аб якім зараз амаль што не пішуць. А потым польская шляхта выдавала «збунтаванае» сялянства царскім уладам, добра ведаючы, што бунтаўшчыкі будуць асуджаны на катаргу.

Потым уся Польшча ішла да незалежнасці пад знакам братэрства з украінскімі і беларускімі братамі (як вядома, змагаўся за польскую незалежнасць Беларускі корпус). Але ўрэшце ўсё гэта сапсавана, скажона, зламана...

Беларусы нават сцяг абралі сабе падобны на польскі—таксама бела-чырвоны, толькі яшчэ з дадатковай белай паласою. Гэта сапраўды ўзрушвае. У сваіх зборах маю анонс «Нашай Нівы», выдадзены ў пяты год з'яўлення газеты. Там напісана: выходзіць штотыдзень польскімі літарамі. Так, менавіта, не лацінскімі, а польскімі. Фанетыка беларуская, зрэшты, амаль такая самая, як і польская (у беларускай мове няма толькі насавых гукаў)—лацінскі (польскі) алфавіт служыў, такім чынам, беларусам ці не лепей, чым «гражданка».

Аднак талерацыя для моўнай адметнасці беларусаў у даваеннай Польшчы сягала не вышэй фельетонаў «Вінцука Маркотнага», пісаных па-беларуску, якія з'яўляліся раз на тыдзень у «Слове» Ката-Мацкевіча. Быў дэкрэт нашага Сейма з 1925 года, што пастанаўляў навучанне ў агульнаадукацыйных школах у такой мове, якой жадаюць бацькі дзяцей у дадзенай мясцовасці. З'явіліся дзесяткі тысяч заяў аб адкрыцці беларускіх школак. Ані адна заява не была падтрымана. Нашае — тады вельмі сучаснае — Міністэрства асветы выдала камплект выдатна падрыхтаваных беларускіх падручнікаў. Але, на жаль, да школ гэтыя падручнікі не дайшлі.

Гэта былі памылкі, якія немагчыма паправіць.

Сумна мне без Вільні. Я нарадзіўся там і выхаваўся. Не хапае мне гэтага горада, сніцца мне ён па начах. Але думаю, што сёння большасць жыхароў Віленшчыны не падтрымае ідэю звароту да Польшчы. Патрабаванні розных настальгічных груповак, каб Савецкі Саюз вярнуў Польшчы землі ажно да Смаленска, з'яўляюцца наіўнымі мроямі.

**— На шчасце, не маючы магчымасці думаць сёння аб геаграфічным звароце, маем права і павінны—казаць аб культурным звароце. У нашай літаратуры ёсць вялікі пласт, што датычыць Віленшчыны.**

— Нічога ў гэтым дзіўнага няма. Такога тыпу рэгіёны, дзе змешваліся мовы, культуры і нацыянальнасці, заўсёды спрыялі стварэнню шматпластавай, надзвычай багатай літаратуры.

**— Але Віленшчына з'явіцца ў нашай літаратуры, як край асаблівай метафізікі, заклінанняў, духаў... Ці гэта сапраўды краіна дэманаў?**

— Хутчэй духаў, чараў, замоў. Заклінанні і пракляцці замаўлялі там з большай павагай, а магіі ў штодзённым жыцці было болей, чым дзе-небудзь.

Правёўшы колькі гадоў у вёсцы Феліксава, я з асалодаю слухаў, як сварыліся сялянскія бабы. Каб тады меў магнітафон! «Бадай ты туды не дайшоў і назад не вярнуўся!», «Бадай ты па гарэ хадзіў, сонца не бачыў!», «Бадай ты — Матачка Найсвяцейшая, дай—бадай цябе пабіла на Езусавыя раны!» Былі гэтыя праклёны сапраўдным рытуалам, цырымоніяй, што цягнулася часам паўгадзіны!

А як спявае беларускі салавей? Яму толькі здаецца, што спявае! Дапраўды, дык так сабе з іншым салаўём размаўляюць: «Паскрабі! Паскрабі! Паскрабі! Дзе, дзе, дзе, дзе, дзе? Тут, тут, тут, тут, тут! Дзе, дзе, дзе, дзе, дзе? Тут, тут, тут, тут, тут! Тс, тс, тс, тс, тс... Ааа, ааа, ааа...» Змяя ж, калі ўкусіць чалавека, кажа: «Шшшукай дашшшчок, бо памрэшшш.»

Усё перанасычана спевам і магіяй! Калі гаспадар сустракаў на кірмашы даўно не бачанага суседа, пытаўся ў яго: «Ці жонка звонкая, ці дзеткі гудуць?» Бо калі хата спявае, гудзе—значыцца, усё ў парадку.

«Дзядоў», аднак, не было! Хіба што Міцкевіч усё так надзвычайна прыдумаў. Было на Віленшчыне шмат абрадаў, але «Дзядоў»—не. Пытаў я аб знахарах, ведзьмах, чараўніцах і чуў аб шмат якіх магічных рытуалах (калі будзе трэба, я іх скарыстаю)—ніхто не прыгадаў аб «Дзядах». Можа, недзе ў глыбіні Літвы...

**— Сумна мне зрабілася! Што ж, у такім выпадку дзякую за размову!**

Размаўляла Мальгажата [illegible].
(«Ілюстраваны кур'ер штодзённы»,
Кракаў, чэрвень 1990).
Пераклад Я. ШУНЕЙКІ.

# МОЖА, НАДЫДЗЕ ЧАС...

## Нататкі перакладчыка

Здаецца, ужо знікла надзея, што там, адкуль цягнецца да нас павуцінне «місіянерства» і тэрытарыяльных прэтэнзій, можа яшчэ існаваць нешта і сумленнае і шчырае. Бо вядома, што намаганнямі польскіх шавіністаў па абодва бакі мяжы польска-беларускія стасункі паступова набываюць канфліктны характар, ператвараюцца ў сур'ёзную праблему. І вырашыць гэтую праблему чашы апаненты імкнуцца на сваю карысць, ігнаруючы Беларусь як дзяржаву і беларусаў як народ.

Часам я задаю сам сабе пытанне: ці існуе на Беларусі польская культура і нейкая асаблівая «польская духоўнасць», пры тым, што пэўная колькасць лічыць сябе палякамі? Нехта адразу прыгадае Адама Міцкевіча, Элізу Ажэшку ды некаторых іншых аўтараў. Між тым, калі іх творчасць разглядаць у рэчышчы беларускай ментальнасці, беларускай духоўнасці, беларускай культуры, дык ад іхняй «польскасці» мала што застаецца. Нават мову Міцкевіча нельга назваць уласна польскай, бо па ўсіх крытэрыях яна ўяўляе сабою літаратурна апрацаваны заходні дыялект беларускай мовы. (Калі-небудзь незацікаўленыя, аб'ектыўныя навукоўцы яшчэ скажуць пра гэта сваё слова...).

Але нават калі прызнаць вартым іншы погляд на Міцкевіча і яго творчасць, дык усё роўна гэта мінуўшчына. А што ж вартага зрабілі сёння на культурнай ніве «палякі» Беларусі? З іх боку чуюцца патрабаванні адкрыцця польскіх школ. Ды на суседняй Віленшчыне здаўна існуюць польскія школы, польскі друк, польскамоўны касцёл. Але чамусьці «польская мова» віленчукоў шакіруе сваёю аддаленасцю не толькі ад нарматыўнай літаратурнай мовы, але і ад побытавай польскай, якую (ведаю па ўласным вопыце) можна засвоіць без усялякіх клопатаў. Атрымліваецца, што віленскім «палякам» пры вялікіх «польскіх» амбіцыях (менавіта на іх абапіралася КПСС—КПЛ у барацьбе супраць «Саюдзіса» і незалежнасці Летувы) не надта патрэбна мова... Тую ж сітуацыю мы маем і на Гродзеншчыне. Дарэчы, большасць беларусаў добра валодае расейскаю моваю, на расейскай мове і пад расейскім уплывам уся сістэма адукацыі на Беларусі,—але як няма польскай культуры на Віленшчыне, хоць, здавалася б, усё ёй

(Працяг на стар. 14—15).

# БЕРЛІНСКІ ДЗЁННІК

**Вячаслаў АДАМЧЫК**

## II

**Няроўнасць маёмасці, сцвярджае Вавенарг, усяго толькі вынік няроўнасці ў адоранасці або мужнасці.**

**Тым больш, як мне думаецца, у дзяржаўнай незалежнасці.**

**Няўжо ж будзе праўдаю, што нам, беларусам, Бог не даў мужнасці, храбрасці, а доля не судзіла быць мудрымі і здольнымі, каб саўладаць з ворагамі і заваяваць доўгачаканую, высненую ў снах свабоду і незалежнасць?**

**Няўжо ж мы па сваёй чалавечай годнасці, розуму і адоранасці ніжэй за тых, хто над намі панаваў і пануе, хто няволіў, нішчыў і караў нас?**

**Няўжо ж не прабіў у векавечныя званы наш час і мы не ўчулі матчына цяпло роднай зямлі, што прыдала б нам сілу і моц, як учулі гэта жывое цяпло за дваццаць гадоў вольнага гаспадарства нашыя даўнія суседзі і падсуседы — латышы і літоўцы. Яны ўжо ведаюць, як нялёгка, але можна адваяваць або вырваць з ласкі чужых рук акрываўленую і спакутаваную свабоду і волю.**

**Вядома, хто не дамогся і не зведаў светлага шчасця незалежнасці, той найменш цэніць яе, а хто ведаў і спазнаў, той ніколі не адрачэцца ад яе. Гэта папраўдзе так, гэта — нязрушная, як скала, ісціна.**

**Але зноў бачу, як на роздум схіляе геніяльны француз, мудры спадар Люк дэ Клап'е дэ Вавенарг: «Трэба ўмець скарыстаць і добразычлівую спагаду сяброў, і суровасць ворагаў».**

**Напэўна ж трэба!**

**12.00 — берлінскага, 13.00 — менскага часу.**

Здаецца, як дома, у роднай даўняй Варакомшчыне, паспешным і імклівым ланцужком, мільгаючы ў прагалах алешніку, прагрукаў пасажырскі цягнік, і гэтаксама, як дома, над нізкаю белавата-шыфернаю вёскаю са звонам і падвываннем пралапатаў невысокі верталёт. У старых навакольных прысадах залівіста цвірчыць берасцянка, таксама нібы дома, у суседскіх млява-звіслых бярэзінах ці на густой з шэраю калодаю для пчол ліпе.

З памаладзелай за вясну, убранай у светлыя кутасікі елкі пад маё расчыненае акно вераб'і носяць у дзюбках цэлыя пампушкі мух і камароў, нібы таксама дома — у гняздо пад латамі ў вільчыку страхі.

Малады чарнавусы немец разам з трохгадовым сынком у блакітнай куртачцы папырскаў ужо, цягаючы вужаваты шланг, усе кветнікі каля вілы, і цяпер, прывінціўшы да яго доўгі, нечым падобны на цёмна-зялёную даўнейшую гранату, распыліцель, кінуў яго на зялёны газон пад дрэвамі, і з гэтай «гранаты», паволі пахістваючыся, струменіць радужны і шырокі веер вады. Яе напор пакручвае распыляльнік.

А колькі гэтакіх пісталетаў-распыляльнікаў бачыў я ў гандлёвых магазінах. Брыдка прызнавацца, але ж і іх хацелася купіць.

(Працяг. Пачатак — у папярэднім нумары).

**20.35 — берлінскага часу, прывыкаю ўжо і да яго.**

Сцішны надвячорак. За пацямнелым букам, набіраючы хуткасць, пагруквае жалезам, натужна гудзе і імкліва знікае гарадская электрычка. Я толькі што вярнуўся з яе.

У душным вагоне поруч са мною сядзела ажно трое п'яных. Адзін, тлусты і лысы, у акулярах, праўда, спаў у дальшым купэ, у суседнім жа двое п'янтосаў, ад якіх несла, як ад прыбіральні, пілі з бляшанак піва і нешта балбаталі. У бландзіна, што сядзеў да мяне тварам, зарослага рэдкімі доўгімі валасамі, пад правым вокам на шчацэ сінела вытатуіраванае сэрца, а на левай ноздры, як у мочцы дзявочага вуха, серабрылася дробнае вочка завушніцы і на вуху, як у сапраўднага алеута ці якога астравіцяніна, пацялепвалася металічнае колца.

На паўстанку Грунвальд зайшла маладая пара: дзяўчына з раскалмачанымі і перафарбаванымі ў фіялетавы колер валасамі, у чорным даўгаватым каптаніку і чорных, нібы абцярушаных серабрыстаю лускою, штанах і ён, стрыжаны пад вожыка, з касою ці касмыком за левым вухам, і таксама перафарбаваны ў нейкі аранжавы ненатуральны колер. Чаго толькі з людзьмі не вытварыць мода!

Шукаючы выстаўку беларускіх мастакоў, ці не на вуліцы Гётэ натрапіў на антыкварны магазін і купіў дзве старыя зеленаватыя лыжачкі — прага і магнэз збіраць старызну пераходзіць у хваробу.

А выстаўка, якую нарэшце знайшлі ў касцельным доме, расчаравала мяне: пошуку, самабытнасці было мала, як мала было запрэзентавана маладых мастакоў. Аказваецца, не толькі ў выдавецтвах можна перайсці з шасцітомнікам дарогу малодшаму таленту і калегу, а нават каля святога алтара.

Потым гэтаксама доўга шукалі магазін аўтараў: пісьменнікі Берліна стварылі асацыяцыю, каб уключыцца ў гандлёвы працэс кніжкамі, каб вытрымаць канкурэнцыю з сексам і пошласцю і аўтарамі, што пішуць на патрэбу дня накшталт некаторых нашых фальшыва-народных. Дзякуй Богу, пісьменніцкіх званняў у іх няма.

З рускай савецкай прозы на паліцах пісьменніцкай кнігарні заўважыў усяго толькі раман Рыбакова. Пэўна ж і ў немцаў без выдаткаў не бывае. Аднак за выдавецкую справу паважаць і хваліць іх трэба: так паліграфічна, так прыгожа, эстэтычна і, калі можна так сказаць, інтэлігентна, асабліва паэзію, могуць выдаваць толькі немцы. Ды яшчэ на дзвюх мовах — арыгінала і перакладу, як выдалі, для прыкладу, «Боскую камедыю» Дантэ. І ўважылі гэтым выданнем не толькі яго, а ці не ўсю сусветную класіку.

**Субота, 7 чэрвеня 1991 года.**

Тры гадзіны ночы. За градою высокіх і блізкіх ад майго акна дрэў святлее неба. Займаецца ранні летні дзень. Расцяжна і смутна, нібы карова ў глыбокую непрытульную восень, зарыкаў паравоз. Але разбудзіў мяне не ён, а падвяселеная кампанія, што падспеўвала, рагатала і енчыла, ідучы нашай вуліцаю на ванзэйскі вакзал.

Цяпер на блізкай, што мяжуе з чыгуначным вакзалам, аўтастанцыі натужна, з падвываннем гудзе аўтобус. У маё акно цягне перагарам бензіну — там даволі бойкая і неспакойная аўтастрада. Асабліва днём і асабліва ў нядзелю, калі з Берліна ў Патсдам бясконцым патокам плывуць звышмодныя аўдзіі і мазды і шнурком, як гусі, з гэтакім самым гусіным гагатаннем імчаць на веласіпедах маладыя берлінцы — студэнты і школьнікі. Праўда, іншы раз як з далёкага веку, выпаўзе і пакоціцца брыдка-гаротны Трабант.

У цёмных яшчэ (днём яны серабрыста-бурачковыя) развесістых і ўладарных тут старых буках пачынае высвістваць першы дрозд — той самы чорны ці, праўдзівей, рудаваты, з жоўтым шылаватым дзюбком.

Дуб, распасцёршы тоўстыя, кручана-мускулістыя, як у культурыста, галіны адпіхае ад сябе гэтыя нахабныя букі.

Між іншым, дрэвы тут усе на зайздрасць вялікія, з шырокімі кронамі і тоўста-неабдымныя ў шурпатых, патрэсканых камлях. І па-нямецку ўшанаваныя нумаркамі — пералічаныя.

Надоечы пазіраў на іх, дзівячыся з іхняй магутнай велічы і хараства, і чамусьці пачало здавацца, што гэтыя дубы і букі ў свой час бачыў і любаваўся імі Гётэ. І ён сам здаваўся гэтакім магутным і велічным, як гэтыя пародзістыя дрэвы. І я злучаў для сябе моц чалавека, моц паэзіі і прыроды, духоўнае і цялеснае, веліч Гётэ і веліч дрэў.

Цяпер я ўжо іначай, з тутэйшага, як кажуць, берага, бачу свайго суайчынніка Адама Міцкевіча і ўяўляю яго візіт у Веймар, каб ушанаваць гонар і талент нямецкага паэта. Мне думаецца, што іх яднала блізкасць прыроды, веліч старавечных берлінскіх і наваградскіх дубоў і ружовых адзінокіх соснаў, хараство і падабенства зямлі, шматкалёрнасць яе фарбаў. Падабенства душаў двух геніяў мусілі з'яднацца.

Мне, грэшнаму, яшчэ падумалася: каб быў паэт роўны Гётэ, я таксама схадзіў бы і пакланіўся б яму. Але я кланяюся зямлі Гётэ, а значыць — таму паэту, якога яшчэ не знайшоў.

**16.50 — берлінскага часу.**

Вярнуўся на вілу Літаратурнага калёквіума поўны дваякіх, калі не сказаць дыяметральна супрацьлеглых ураженняў: першае — турэцкі кірмаш на пляцы перад Брандэнбургскай брамай — шэра-чорнай, закурэлай, нібы сажаю, на гэтакіх жа шэра-чорных калонах, дзе сабралася сённяшняя берлінская бядота — чарнамазыя, нястоленыя туркі, што гандлююць кавалачкамі разбітай берлінскай сцяны, савецкімі афіцэрскімі фуражкамі, шынялямі, пагонамі і ордэнамі; другое — блізкі адсюль, усяго цераз скверык, Рэйхстаг — святыня, даўнейшы бляск і гонар немцаў, і іхняя сённяшняя пакорнасць; і трэцяе ўжо — на пастаменце дзве цёмна-зялёныя трыццацьчацвёркі, дзве 122-мм гаўбіцы, помнік воіну ў касцы, з адамкнутым штыком на вінтоўцы, і сцяна з залацістым гербам, каля якой стаіць, шыракавата і па-гаспадарску расставіўшы ногі, дзябёлы паліцыянт у чорнай куртцы, другі, з рацыяй, ходзіць уздоўж жалезнай агароджы каля танкаў.

Можна ўявіць, што было б з гарматамі, танкамі і «воином-победителем», каб не два ўзброеныя паліцыянты.

І, нарэшце, чацвёртае: рынак антыкварыяту пры чыгуначнай станцыі Цыргартэн,

# МОЖА, НАДЫДЗЕ ЧАС...

(Пачатак на стар. 13).

спрыяе, так нешта і не чутно, каб у Рэспубліцы Беларусь існавала вялікая руская літаратура, тэатр, кінематограф.

Відаць, справа ў тым, што і расейшчына і пальшчызна тут, можа, і не чужыя (усё ж суседзі), але і не свае. Усё ж такі прышлыя, каранёў у гэтай зямлі не маюць, з беларускай нацыянальнай ідэяй на стасуюцца. Таму і «адраджаць» пальшчызну на Беларусі так цяжка, што ніколі не была яна тут натуральнаю з'яваю, а была толькі апірышчам каланіялізму і гвалту над беларускаю душою. Для параўнання прыгадаю, што беларусы ў Рэспубліцы Польшча, якія жывуць на сваёй гістарычнай зямлі (найперш Беласточчына), могуць ганарыцца такімі дзеячамі сваёй культуры, як Лёнік Тарасевіч і Мікола Давідзюк. Плён творчасці гэтых беларускіх мастакоў — здабытак Еўропы ўвогуле.

Дык ці мае сэнс ствараць на Беларусі, дзе занядбаная свая крэўная культура, нейкія асаблівыя спрыяльныя ўмовы для развіцця такіх штучных з'яў, як польскасць? Ці трэба на Беларусі польскамоўны друк, тэатр, школы, калі ёсць праблемы з беларускімі тэатрам, друкам, асветай? Лічу, што трэба. І не дзеля «касцельных палякаў». Гэта з'ява часовая, яна знікне, як толькі ксяндзы загавораць па-беларуску, па мерыператварэння Беларусі ў нармальную, незалежную дзяржаву, па меры пашырэння нашых кантактаў з цывілізаваным Захадам. Польскую мову мае сэнс ведаць беларусам, бо мова гэтая своеасабліва звязана з гісторыка-культурнай спадчынай Рэчы Паспалітай. Акрамя таго, веданне мовы суседа дазволіць нам больш разумна будаваць свае адносіны з ім.

Па маіх назіраннях свядомым беларусам польская мова даецца лягчэй, чым асобам, што лічаць сябе крэўна звязанымі з Польшчаю (на той падставе, што недзе пасля вайны іх сваякі пераехалі туды жыць — дык чаму ты не лічыш сябе амерыканцам ці аўстралійцам, калі нейкі твой сваяк эміграваў у гэтыя краіны?) Мне, гарадзенцу, няма з кім у Гародне размаўляць па-польску, бо свабодна валодаюць ёй у маім асяроддзі толькі свядомыя беларусы, якія натуральна размаўляюць між сабою па-беларуску. Але ж палякам (і «касцельным» і натуральным, калі такія ў Гародні ёсць) у адрозненне ад беларусаў ніхто не замінаў быць палякамі. Я не ведаю выпадкаў, каб калі-небудзь на маёй радзіме польскай моваў пагарджалі, асмейвалі яе як брыдкую і няўклюдную. Кіёскі «Саюздруку» на працягу дзесяцігоддзяў былі расквечаны польскімі газетамі і часопісамі. Польскія тэлеперадачы? Калі ласка, уключай тэлевізар і глядзі. Быў нават у Віцебску фестываль польскай песні. І пасля ўсяго гэтага — няма з кім пагаварыць на польскай мове!.. А між тым моўныя веды патрабуюць хоць нейкага выйсця. Бо часта таксама цягне паразмаўляць па-нямецку; а пачуўшы, як спеўна гучыць латышская мова, узнікае жаданне яе хоць крышку засвоіць. У нас, пэўна, ёсць схільнасць да вывучэння суседніх моў. Бо беларусы спрадвеку паважаюць сваіх суседзяў.

Мне падаецца недаравальным, што тыя многія, хто ў самазахапленні пры любым зручным і нязручным выпадку падкрэсліваюць: «Я поляк», «Мой дядя (цётя, брат і г. д.) живет в Польше», «Мы родом с польской шляхты» так і не вывучылі сваёй быццам бы роднай мовы і не могуць на ёй двух слоў звязаць. І цяжка паверыць, што нехта не даваў, заціскаў. Вядома, умоў спецыяльных ніхто не ствараў і не створыць. Але беларуская мова на сваёй аўтахтоннай тэрыторыі была ў яшчэ горшых умовах.

«Касцельная» ці «крэсовая польскасць» для мяне асабіста сімвалізуе ганебныя псіхалагічныя ланцугі, у якія надзейна закавана свядомасць шматлікіх нявольнікаў па ўласнае волі. Яны лаяльныя, ціхія, абачлівыя, ганарлівыя толькі тым, што нечым лепшыя і вышэйшыя за ўсіх «непалякаў». Іх гэта цалкам задавальняе, і грэе, пэўна, нязгасная надзея, што настане светлы час, калі «крэсы» далучацца да «сапраўднай радзімы», або, у кампрамісным выпадку, улады дадуць ім за добрыя паводзіны двайное грамадзянства, каб можна было ездзіць з ільготамі ў заходне-ўсходнім накірунку з клункамі, мяхамі, пудэлкамі тавараў вышэй чалавечага росту.

Ёсць у «крэсовай» ідэалогіі і брыдкая дваістасць, пачынаючы з самой назвы, г. зн. ускраіна чагосьці. Ну, вядома, былой Польшчы. Некаторыя «заходнікі» з Брэстчыны, Гарадзеншчыны, нават Міншчыны так і кажуць: «Мы раньше жили в Польше»! І не віна простых людзей у такой самазаблытанасці. Хто ж у савецкіх школках ды інстытутах распавядаў пра ўтварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, антызаконнасць Рыжскай змовы і пра многае іншае, што магло б раскрыць вочы на сапраўдную гісторыю нашага краю, які савецкая ідэалогія разглядала 70 гадоў як «окраину» былой царскай імперыі. Так што паміж «крэсамі» і «окраинами» самая прамая тыпалагічная сувязь. І заўсёды ў гэтай сувязі выпадае «тутэйшае» — беларускае. Яго тады проста не існуе, яго можна ўспрымаць, як «сапсаваны варыянт» таго ці іншага, у залежнасці з якога напрамку разглядаць.

І сучасныя «истинные», і «рдзэнныя» дзеячы, якія звяртаюцца да пачуццяў і эмоцый насельніцтва нашага краю праз свае друкаваныя сродкі, нічога новага не тлумачаць. Паміж «Славянскими ведомостями» і «Ойчызнай» я асабіста не бачу істотнай розніцы. І калі па вуліцах Гародні пачалі курсіраваць тралейбусы з буйна-літарнай рэкламай «газета поляков Белоруссии «Глос з-над Ниемна» — я нават не дзівіўся, бо расейска-польскае двухмоўе гаворыць само за сябе. Калі ўсур'ёз займацца польска-беларускімі стасункамі, дык у рэкламе гэта было б падмацавана беларускай моваю.

Дарэчы, віленскай «Ойчызны» больш не існуе. Яна была зліквідавана за антыдзяржаўную дзейнасць пасля жнівеньскага путчу. А да путчу яе можна было набыць і на Віленшчыне, і на Гарадзеншчыне. І польская мова там выкарыстоўвалася для самых брудных палітычных лаянак і абвінавачанняў у бок незалежнай Летувы. Не магу не прыгадаць дапутчаўскую тэлеперадачу з Варшавы «Палякі на Літве», дзе кранулася праб-

на вуліцы 17 чэрвеня, названай у гонар ці, праўдзівей кажучы, у памяць летніх дзён 1953 года, калі гэтымі ж танкамі, што стаяць на п'едэстале, было нелітасціва-жорстка задушана, да крыві растаптана паўстанне берлінцаў.

Дык тут, на вірлівым і гаманкім рынку, пад навесамі, палаткамі, змайстраванымі самімі ж прадаўцамі,— старая, трыццаці ці нават пяцідзесяцігадовай даўніны мэбля, пачынаючы ад сталоў, крэслаў, куфраў, або цэлыя тузіны сталовага серабра — лыжак і відэльцаў — ці стосы кніжных фаліянтаў, пераплеценых у саф'ян, гадавікі часопісаў з далёкай вайны, а поруч з усім гэтым — зброя: вінтоўкі, афіцэрскія кінжалы, салдацкія кінжалы-штыкі, клінкі, шаблі і нават жандарскія чорныя каскі.

Дзівячыся на атрыбуты незваротнай даўніны, я ўспамінаў сваё ваеннае дзяцінства, нават па зялёна-злінялым колеры пілотак і мундзіраў прыгадваў вайсковае адзенне нашых варакомскіх хлопцаў, што служылі ў «беларускім войску» у блізкім ад нас мястэчку Дварэц і былі закатаваны сваімі, тутэйшымі ўжо, з суседніх вёсак.

Апроч бібліяў і касцельных малітоўнікаў, якія збірала і завязвала ў чыстую белую хустку нябожчыца маці, было яшчэ адно маё захапленне — сталярска-слясарскі рыштунак: сякеркі, пілкі, малаткі, торнікі, і тут жа, як на дзіва, вялікі, як падняць, разводны французскі ключ...

Трапілі сюды, вядома, і аклады з царкоўных іконаў і папоўскія крыжы, што ляжалі на сталах перад падазронымі гандляркамі, якія між сабою гаварылі па-руску, і пэўна ж разам з інкруставанымі скарбонкамі — сувоі льняных ручнікоў, абрусоў, сурвэтак...

У туркаў — найбольш гадзіннікі з накрывачкамі і пяцікутнымі зоркамі на цыферблаце — савецкія, і ўжо свае, першы раз мною ўбачаныя, крывыя турэцкія нажы, выштукаваныя палкі, узорыстыя дываны, і зноў жа — у немцаў і ў туркаў — савецкія вайсковыя фуражкі з цёмна-сінімі, чорнымі, чырвонымі аколышамі, медалі — нават бліскуча новенькія — «За отвагу», «За взятие Кёнигсберга», «За взятие Берлина». Палявыя пагоны генерала, святочныя залацістыя з двума цёмна-сінімі прасветамі і трыма зорачкамі — палкоўніка КДБ, і процьма суконных, малінавых з літарамі ВВ. І тут жа, быццам па рускім звычаі, бутэлька пшанічнай за тры маркі. Усяго за тры, як, напрыклад, каштуе бутэлька мінеральнай вады.

Я патрымаў у руцэ стары будзільнік і дзве медныя ці латунныя гіры, падумаўшы пры гэтым, што яны прыдаліся б да майго антыкварнага шафкавага гадзінніка (падобнага, між іншым, на ціргартэнскім торгу я не ўбачыў), і, цяжка ўздыхнуўшы, паклаў іх на стол,— не везці ж такі груз за блізкі свет.

А калі вярнуцца зноў да тых двух незабыўных малюнкаў — рэйхстага, акружанага турыстамі і іхнімі высокімі, як ласі, і гонкімі, як ласі, аўтобусамі, і гарачага, як мурашнік, турэцкага базару, усяго цераз скверык ад яго, на пляцы перад Брандэнбургскаю брамай,— то яны не толькі здзіўлялі і ўражвалі мяне, і кідалі ў бяздонны вір пачуццяў, і, як на крэсіве, высякалі думкі і лязом ледзянілі кроў.

Але я спярша быў уражаны і збіты з панталыку няголенымі нізкарослымі туркамі ў нашых заечых шапках з залацістымі кукардамі, або ў вайсковых фуражках ці чорных шлемах танкістаў, якія яны прадавалі, снуючы ў кіпучым натоўпе, а пасля з не меншай цікавасцю азіраў рэйхстаг, які адначасна ўражваў, здзіўляў і расчароўваў сваёй шаракаменнай непрыступнай веліччу, холадам і вусцішнасцю, якую чуеш заўсёды, калі бачыш муры якога-небудзь разбуранага замка.

Прыгожы на даваенных здымках, ён цяпер выдаваў нібы абсечаны, можна нават сказаць, інвалідскі — без купала, без коннікаў, без скульптурных груп на фасадзе,— калі я пазіраў на яго з-пад сетачнай агароджы, якою быў абнесены зялёна-мурожны прастакутнік надрэчнага пляцу. Удалечыні, за гэтым прастакутнікам, за прыцішаным прыбоем парку сваімі па-галубінаму разгорнутымі крыллямі залаціста-зырка блішчаў з вянком у працягнутай руцэ анёл-страж.

Ужо з акна электрычкі, з далечыні азіраючы рэйхстаг, чамусьці падумаў: ці ведалі яны, абое тыранаў і людажэрцаў, дзелячы свет, падпісваючы крывавы акт 1939 года, першы — Гітлер,— што будзе спалены і разбіты рэйхстаг, што будзе зруйнаваны яго непрыступны бункер, што чорным абгарэлым карчом будзе ляжаць ён сам, а каля рэйхстага гандляваць муць жалезнымі крыжамі, якія ён вешаў на грудзі маладым салдатам, якія, калі хто-кольвечы выжыве, то ўбачаць знявечаную, ганебна растаптаную, падзеленую калючымі дратамі і непадступнымі сценамі родную Нямеччыну, другі — гэтакі ж самы маньяк,— Сталін ці мог прадбачыць і ўявіць, што ў адзін кароткі міг рухне нязрушная сцяна і блытаным павуціннем разарвецца «жалезная заслона», якім аплёў ён найперш самога сябе, каб адгарадзіцца ад усіх, а потым агарадзіць і адгарадзіць цэлыя народы і кантыненты. Не спадзяваўся, уласна кажучы, не прадбачыў вялікі карыфей, празорац і мудрэц, велялюбна апеты ў кантатах і вячыста ўслаўлены ў раманах і аповесцях, ім жа ўдэкаранаваных сталінскімі прэміямі.

Упалі, разбіліся яго ўласныя помнікі, усюды і скрозь пастаўленыя пры жыцці, раскрышылася непадступная сцяна, заржавела «жалезная заслона», што трымала ў няволі, пакоры цэлыя народы і дзяржавы.

Які нечаканы і трагічны фінал для абодвух, якая бясслаўная, ганебная і павучальная гісторыя для іншых! Напісаў «павучальная» і задумаўся. А хто калі вучыўся, хто зважаў на бясслаўны канец сваіх папярэднікаў?

Кожны лічыў і лічыць, што ён пачынае гісторыю і пачынае справядліва, дзеля справядлівасці, карысці і дабра людзей, сваіх і людзей усяго свету.

Думкі мае вірылі, уздымаліся шалёнай гарачынёю, але іх астуджаў выбух бессаромна нахабнага рогату ў суседнім купэ, дзе шалела і дзеразавалася моладзь — хлопцы з выцвілымі грывамі на высока паголеных галовах і дзяўчаты, таксама паголеныя, але ўжо з аднаго боку або з патыліцы. У старэйшага з іх, мо з паўгода зусім не стрыжанага здаравяка, валасы былі завітыя ці ссуканыя ў дробныя коскі, накшталт косак у негрыцянак, і пафарбаваныя ў жоўта-зялёны — анілінавы ці што — колер, на ноздры паблісквала крышталікам кнопка-завушніца, а на мочцы вуха пацялепвалася серабрыстая, нібы выцягнутая з блакнота, спружынка.

Мяне ўжо нервавала і непакоіла іншае: пра што думае, чым жыве сённяшняя гарадская басатва — іхняя і наша, савецкая, наезджаная сюды, як кажуць яшчэ, навалач, што хрысціць перакрыжаванымі мацюкамі тутэйшую Фрыдрыхштрасэ.

Але што мог думаць ультра-моднік і фарсун з завушніцай на ноздры? І што я мог ад яго патрабаваць? Я толькі ў думках сваіх пажадаў яму: «Старэйце ў цемрашальстве і радуйцеся з грахоў сваіх!» Як казаў нехта са старажытных грэкаў. Казаў таму, што змяніць і перайначыць чалавечы свет не мог.

**Нядзеля, 9 чэрвеня 1991 года.**

7.15 — берлінскага часу. Усё пазней і пазней пачынаю садзіцца за жалезны жаўтлявы — пад колер сценаў — рабочы столік. На яго ўжо, падняўшыся над букамі, свеціць косае сонца. Напэўна адаптаваўся ў сваёй вузкай келлі, засланай штучным бурачковым дываном. Азіраюся на гэты вузкі пакой, зрэзаны наўскос чарапічным дахам і абклеены светла-жоўтымі вуграватымі пенапленавымі шпалерамі.

Дарэчы, рэйхстаг таксама пафарбаваны ці абклеены з сярэдзіны гэтакімі самымі ясна-жоўтымі вуграватымі шпалерамі. У немцаў павага да жоўтага колеру — старажытнага колеру слановай косці. І колеру цёплага лета, спелага збожжа і вячыстага сонца.

Значыць, у «Годзе нулявым» я інтуітыўна, па законах прыроды, маляваў усё ў жоўты колер. «Чужая бацькаўшчына» — шэры. «І скажа той, хто народзіцца» — бела-зімні. «Голас крыві брата твайго» — зялёны: жыцця і смерці.

На станцыі Ванзэе прагрукаў цяжкім жалезам спешны поезд, і ў маёй душы страпянулася, ажыла і апала нечаканая радасць — убачылася даўнейшая шэрасаламяная Варакомшчына, балотца ў ружовай смолцы і ліловым, злінялым вобаратніку, старыя сухаверхія надрэчныя алешыны (на гэтакія, між іншым, любаваўся тут, у берлінскім парку), а за імі, за надрэчнымі алешынамі — некалі міла-вясёлы, а цяпер — балюча-нясцерпны жалезны грукат цягніка. Цяпер за гэтым звінючым і рытмічным перастукам, як у нас кажуць, за калеяю ляжаць у вечным спачыванні мае бацькі і ўсё старэйшае пакаленне варакомцаў...

Як мала засталося ў роднай старане роднага мне! Адышлі людзі, дрэвы, хаты, даўнейшыя палявыя сценкі і дарогі. Прыйшло, паўстала ўсё новае. Мусіць, праўдзіва пісаў калісьці Пушкін:

Два чувства дивно близки нам —
...Любовь к родному пепелищу,
Любовь к отеческим гробам.

І я шукаю ў ім, у новым, рэаліі даўняга, як шукаю і выглядваю на антыкварным берлінскім рынку рэчы з вайны, з няблізкага, замутнёнага далеччу гадоў дзяцінства і падлеткавай пары.

**15.30 — берлінскага часу.**

Вярнуўся з таго ж самага рынку пад палаткамі на вуліцы 17 чэрвеня — прагнаў дожджык,— дый нават не адтуль, а з Кайзерштрасэ, якою прыблукаў ажно да станцыі метро «Нямецкая опера».

Якая раскошная вуліца, нават са стаянкамі машын пасярод яе, а збоку — чырванаватыя, цаглянага колеру дарожкі для веласіпедыстаў. Як нямала машын, так і нямала ў Берліне веласіпедаў.

Сёння між двума базарамі — адным антыкварным, другім, за аркаю,— дойлідства і мастацтва, дзе напаткаеш не толькі скульптараў, мастакоў, разьбяроў, ганчароў, а нават друкароў са сваім маленькім станком,— лацінаамерыканскі рок-гурт — чатырох смуглявых падобных з твару да індзейцаў, доўгавалосых хлопцаў: адзін з гітараю, другі са струнным інструментам накшталт іспанскай віхуэлы — папярэдніцы гітары, двое астатніх з жоўтымі троснікавымі чатырох ці болей ствольнымі флейтамі. Яны так суладна і весела ігралі і выспеўвалі нейкі мне знаёмы матыўчык, што я міжволі прыпыніўся і заслухаўся. І не толькі я, а нават абыякавыя да ўсяго веласіпедысты. Бесклапотныя хлопцы з дзяўчатамі дык проста садзіліся на тратуар і кідалі на футарал ад гітары, што нібы незнарок лёг у іх ля ног, жаўтавата-бліскучыя пфенігі і серабрыстыя маркі.

Смуглявых доўгавалосых спевакоў і музыкаў слухаў з любасцю і зайздроснай крыўдаю і гаркатою — усё думалася, а чаму ж, напрыклад, нашым рок-гуртам не прынесці беларускую песню на вуліцы Берліна?

А рынак антыкварыяту здзіўляў і ўражваў мяне зноў: чаркі, статуэткі, келіхі, званкі, званочкі, крыжы з распяццямі, табакеркі, люлькі...

(Працяг будзе).

---

лема польскай меншасці, якая не прызнае незалежнасці Летувы, упарта трымаецца савецкага грамадзянства. Шакіравалі выступленні польскіх дзеячаў, у большасці членаў ЦК КПЛ, якія па-польску маглі вымавіць толькі адзін сказ: «Саюдзіс, Ландсбергіс—то фашызм!» А найбольш свабодна, адукавана, лёгка распавядаў для мільёнаў тэлегледачоў па-польску... сам Вітаўтас Ландсбергіс. Ён нікога не абражаў, але выказваў занепакоенасць тым, што палякі Віленшчыны кіруюцца не ўласнымі нацыянальнымі інтарэсамі, а палітыкай імперскага цэнтра.

Такая справа з польскай палітыкай. Іншая—польская культура. Хіба можна не ведаць мастакоў Станіслава Выспянскага, Яцэка Мальчэўскага, што не перастаюць спрыяць сваім гарачым духам у памкненні да незалежнасці, хіба не пашыраюць абсягі еўрапейскасці мастацтвазнаўцы Ян Беластоцкі, Мечыслаў Парэмбскі, ды іншыя дзеячы-інтэлектуалы, што ў многіх праблемах дазваляюць і нам сваім прыкладам вырасці з правінцыяльнай абмежаванасці.

На жаль, пашырэнню інтэлектуальных повязей можа таксама прыйсці канец. І не з прычыны фактычнага закрыцця мяжы Рэспублікі Польшча, а таму, што камерцызацыя культуры ў нашых заходніх суседзяў паставіць крыж на пастаўках польскай і польскамоўнай літаратуры на Беларусь. Скарачаюцца аддзелы польскай літаратуры ў нашых кнігарнях. Ужо немагчыма падпісацца на часопісы «Праект» і «Штука». Няўмольная камерцызацыя нішчыць культурныя кантакты.

Але ёсць занепакоеныя, зацікаўленыя ў плённых беларуска-польскіх сувязях і стасунках людзі ў Рэспубліцы Польшча. Вядома, не ўсё яны яшчэ ведаюць пра нас, не з усім, што яны думаюць і кажуць, можна пагадзіцца. Многае ў іх меркаваннях патрабуе нашай карэктывы, удакладнення. Так, на думку З. Фэдэцкага, «беларусы нават сцяг абралі сабе падобны на польскі—таксама бела-чырвоны, толькі яшчэ з дадатковаю белай паласою». У гэтым ён бачыць сведчанне нейкай асаблівай прыязнасці да Польшчы. Тут трэба ўдакладніць, што спалучэнне белага і чырвонага, мяркуючы па матэрыялах этнаграфіі, увогуле характэрна для індаеўрапейскіх народаў, гэтыя колеры з незапамятных часоў былі ў іх самымі любімымі. Продкі беларусаў абралі сабе гэтыя колеры яшчэ ў паганскія часы, калі да ўтварэння нацый было вельмі і вельмі далёка. І як сведчыць гісторыя, беларусы ніколі не вылучалі палякаў сярод суседзяў. Ставіліся да іх таксама, як да немцаў, татар ці рускіх— не лепш і не горш.

Спрэчная думка З. Фэдэцкага, што на Віленшчыне не было абраду «Дзядоў», што гэта паэтычная выдумка Міцкевіча. Беларускія этнографы сцвярджаюць адваротнае.

Але галоўнае не ў гэтым. Галоўнае — нас убачылі і пачулі і працягнулі руку насустрач. Ёсць спадзяванні, што справу беларуска-польскіх стасункаў будуць рабіць менавіта інтэлектуалы з абодвух бакоў. (Бо дагэтуль існавалі розныя падыходы: Беларусь у стасунках з Польшчаю арыентавалася на культурную эліту гэтай краіны, а Польшча — на дэнацыяналізаваны «касцельны» люмпен).

Можа, надыдзе час, калі беларуска-польскія стасункі пачнуць развівацца па-новаму, без абразлівых «крэсавых» путаў. І ўзаемна блізкага ў іх выявіцца болей, чым можа зараз здавацца.

**Яўген ШУНЕЙКА.**

Гародня — Менск.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, намесніку старшыні СПБ Уладзіміру ПАЎЛАВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры Зінаіды.**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### Без візы і замежных пашпартоў

Балазе, часы мяняюцца. Яшчэ б колькі гадоў назад намесніку старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміру Паўлаву, Ніне Загорскай, Казіміру Камейшу, Яўгену Міклашэўскаму, каб пабываць за мяжой, неабходна было атрымаць дазвол у пэўных інстанцыях (вытрымаць своеасаблівы экзамен на палітычную лаяльнасць), здабыць візы, замежныя пашпарты. А цяпер — калі ласка! Прыйшло запрашэнне талінскага Таварыства славянскіх культур — і згаданыя спадары адразу апынуліся за мяжой. І не толькі ў Эстоніі, а і ў Латвіі, дзе таксама мелі сустрэчы з прыхільнікамі беларускай мовы.

### Ігнатоўскі і яго час

«Усевалад Ігнатоўскі і яго час» — так называецца апошняя з чатырох брашур, якія пабачылі свет летась у «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы». Вядомыя гісторыкі Іларыён Ігнаценка і Аляксей Кароль упершыню так поўна і праўдзіва расказваюць пра выдатнага нацыянальнага дзеяча, паказваючы яго грамадзянскі подзвіг на карысць Бацькаўшчыны і адначасова звяртаюць увагу на пакутлівы шлях У. Ігнатоўскага да ісціны, а тым самым і на шлях усёй перадавой беларускай інтэлігенцыі.

### Бібліятэка пачынаецца з... выстаўкі

Крыху нечакана пачала ствара цца бібліятэка Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Пачатак яе паклалі кнігі, што экспануюцца на рэспубліканскай кніжнай выстаўцы, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Максіма-Кніжніка і падрыхтаванай Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку і рэспубліканскай фірмай «Белкніга».

Гэта нямнога-нямала, а каля 400 экземпляраў, выпушчаных у апошнія гады. Сярод іх, безумоўна, і кнігі самога М. Багдановіча: «Зорка Венера» (выдавецтва «Мастацкая літаратура») і «Вянок» («Юнацтва»), а таксама выданні, прысвечаныя жыццёваму і творчаму шляху класіка нацыянальнай літаратуры.

